

БЕЛАРУСКАЯ МАЛАДЗЁЖНАЯ ГАЗЕТА

# ЧЫРВОНАЯ Змена

ВЫДАЕЦЦА З 1921 ГОДА

ВЫХОДЗІЦЬ ПА ПЯТНІЦАХ

№ 37 (13517)

9—15 верасня 1991 года

Цана 35 кап. (па падпісцы — 20 кап.)


Я ведаю, беларус, табе вельмі цяжка, але пацярпі яшчэ крыху, я і так раблю для цябе ўсё, што магу.

У першым паўгоддзі імпартныя медыкаменты, што паступілі ў СССР, былі размеркаваныя гэтак:
56% атрымала Расія,
25% — Украіна,
6,9% — Літва.
Беларусі, пятая частка тэрыторыі якой пакрытая радыяктыўным попелам, дасталося ад «новага Саюза» ўсяго 5.8% закупленых за валюту лекаў.

## ЧЫТАЙЦЕ Ў НУМАРЫ

## Заява бюро Бярозаўскага райкома ЛКСМ Беларусі

**Згодна са статутам ЛКСМБ, мы з'яўляемся грамадскай арганізацыяй, якая не праследуе палітычных мэтаў: фактаў прамога ўдзелу нашай арганізацыі ў спробе дзяржаўнага перавароту няма. У сувязі з гэтым рашэннем Вярхоўнага Савета БССР аб замарожванні рахункаў ЛКСМБ у Дзяржбанку, апячатванню і ўзяццю пад ахову органамі ўнутраных спраў памяшканняў і маёмасці ЛКСМБ лічым неабдуманымі і антыдэмакратычнымі. Гэтае дзеянне ВС БССР нанесла моцны ўдар па маладзёжнай арганізацыі. Мы патрабуем у кароткі тэрмін склікання сесіі ВС БССР і адмены прынятых пастаноў, якія датычацца ЛКСМБ.**

**У адваротным выпадку ўся адказнасць за лёс маладзёжнай арганізацыі кладзецца на Вярхоўны Савет БССР.**




## Заява сойму БНФ «Адраджэньне» аб нацыянальным цэнтры імя Ф. Скарыны

У чэрвені-ліпені сёлета неафіцыйны орган беларускай партакратыі газэта «Славянские ведомости» апублікавала артыкулы, скіраваныя супраць Нацыянальнага навукова-асьветнага цэнтру імя Францішка Скарыны. У іх утрымліваліся заявы пра непатрэбнасьць такога Цэнтру, розныя інсынуацыі ды відавочныя недарэчнасьці (прыклад, Цэнтар ствараецца як рэзыдэнтура ЦРУ). Нягледзячы на ўсю абсурднасьць, артыкулы сталі своеасаблівым сыгналам. Супраць Цэнтру пачаўся маральны тэрор на розных узроўнях, пачынаючы з ЦК КПБ. Праўда, 30 жніўня Прэзыдыюм АН БССР прыняў пастанову аб наданьні Цэнтру самастойнасьці, статусу рэспубліканскае навукова-асьветнае ўстановы й перадачы яму Дома палітасьветы былога Менскага абкама КПБ. Аднак дагэтуль Цэнтар застаецца безь фінансаваньня й памяшканьняў.

Сойм БНФ падтрымлівае ідэю стварэньня рэспубліканскага Нацыянальнага навукова-асьветнага цэнтру імя Ф. Скарыны, чыя дзейнасьць будзе скіраваная на адраджэньне сьвядомасьці беларускага народу, на вяртаньне гістарычна-культурнае спадчыны, вывучэньне міжнацыянальных дачыненьняў, пашырэньне беларускае культуры ў сьвеце. Сойм зьвяртаецца да ўладаў Рэспублікі з настойлівай просьбаю стварыць для Цэнтру нармальныя, цывілізаваныя ўмовы працы.

Сойм выступае з патрабаваньнем узбудзіць крымінальную справу супраць рэдакцыяў часопіса «Политический собеседник», газэтаў «Славянские ведомости», «Мы и время» за сыстэматычнае распаўсюджваньне нянавісьці супроць беларускае гісторыі, культуры й яе дзеячоў, за публікацыю матэрыялаў, якія служылі маральнаю падрыхтоўкаю путчу й непасрэдна ўхвалялі яго.

7 верасьня 1991 г.

**АПОШНІ РАЗ! НЕ АПОШНІ...**

**Памятаеце, як у мінулым годзе ўрад краіны слёзна прасіў студэнтаў апошні раз дапамагчы ва ўборцы бульбы нашай знішчанай сельскай гаспадаркі! «Комсомольская правда» пісала тады: «У апошні раз дапаможам Рыжкову!»**

**А каму ж цяпер дапамагаюць гэтыя басаногія хлопцы! Паўлаву! Дык таго за казённы кошт накормяць. Вось і выходзіць, што дапамагаюць гэтыя мільёны студэнтаў і школьнікаў толькі сабе. Тут ужо не да палітыкі. І хай босыя ногі гэтых хлапчукоў ходзяць не толькі па асфальце. Зямля ёсць зямля. І працаваць на ёй — гонар.**



**Фота С. БРУШКО.**

Навінкі кнігарні

## Як слова нашае адгукнецца

Якія навінкі беларускай бібліяграфіі падрыхтавалі менскія выдавецтвы, кожны з нас можа даведацца, завітаўшы ў любую кніжную краму. Аднак няма, на жаль, ніводнай кнігарні, куды паступалі б беларускія выданні з іншых куткоў свету. А іх нямала.

Сёння прыгадаем найбольш значныя з іх за апошні час.

Таронцкае выдавецтва «Пагоня» выпусціла ў свет новы раман вядомага ў Канадзе беларускага пісьменніка Кастуся **АКУЛЫ** **«За волю»**, які прысвечаны праблемам узаемадачыненняў старой і новай беларускай эміграцыі на фоне рамантычнага сюжэта аб каханні.

У Гэйнсвілі на Фларыдзе (ЗША) выдавецтва Беларускага харытатыўна-адукацыйнага фонду выпусціла II том успамінаў вядомага навукоўца-элініста і перакладчыка **Яна ПЯТРОЎСКАГА** з запланаванага аўтарам трохтомніка **«Стагоддзе ў рэтраспектыве».** Нагадваем, што першы том выйшаў там жа ў 1988 годзе і выклікаў даволі шырокі рэзананс на радзіме (рэцэнзіі ў «Ніве», на Беларускім тэлебачанні).

Хочацца спадзявацца, што хоць буйнейшыя бібліятэкі рэспублікі прыдбаюць сабе гэтыя выданні.

Вітаўт **МАРТЫНЕНКА.**

## Цытата тыдня

**«Мы не будзем даваць адзнаку дзейнасці асобных грамадзян пад час дзяржаўнага перавароту. Галоўнае, каб у нас не паўтарыліся трыццатыя гады, аб чым прадасцерагаюць у сваіх зваротах жыхары рэспублікі».**

З выступлення на прэс-канферэнцыі старшыні часовай камісіі Вярхоўнага Савета БССР па ацэнцы дзейнасці членаў ГКЧП і падтрымліваючых іх грамадска-палітычных утварэнняў, органаў дзяржаўнай улады і кіраўніцтва, адказных асоб і грамадзян І. Пырха.

Экспрэс-інтэрв'ю

## Што б вы рабілі з камуністамі?

**Здавалася б, навошта высвятляць тое, што ўжо даўно высветлена? Амаль усе газеты, тэлебачанне, радыё ў адзін голас сцвярджаюць, што народ не толькі супраць партыі, як такой, але і супраць камуністаў. Мы вырашылі запытацца аб гэтым у самога народа.**

**ПЫТАННЕ: Калі б вам далі ўладу распараджацца лёсамі людзей, што б вы зрабілі з камуністамі?**

**У. АХРЭМЧЫК, ВАДЗІЦЕЛЬ: «Я быў у партыі 35 гадоў. За гэтыя гады я столькі ўзносаў заплаціў, што мне б на «Жыгулі» хапіла. Але на гэтых «Жыгулях» зараз які-небудзь сакратар раз'язджае. А што б я з камуністамі рабіў? Дык былі ж сярод іх і сумленныя людзі...»**

**А. ЛЕМЯШЭВІЧ, СТУДЭНТ: «Вы ведаеце, колькі гадоў я студэнт? Дзесяць! Першы раз мяне выключылі за тое, што ў курсавой рабоце па гісторыі назваў Брэжнева старым маразматыкам. Было гэта ў 1983 г. Другі раз — за тое, што парушыў антыалкагольнае заканадаўства — адзначыў дзень нараджэння. Я б ужо пяць гадоў працаваў, каб не гэтыя камунякі. Я б іх проста нікуды на працу не прымаў».**

**У. ЛЯСКОЎ, МАШЫНІСТ ЭКСКАВАТАРА: «Я б ім толькі адно пажадаў, каб яны жылі на адну зарплату. Толькі на сваю, а не на маю».**

**З. КАНЯ, СУПРАЦОЎНІК КААПЕРАТЫВА: «У нас камуністы працуюць. Нават адзін былы партработнік. Чалавек як чалавек. Я б не стаў судзіць камуністаў».**

**Т. РУСЕЦКАЯ, САКРАТАР-МАШЫНІСТКА: «Перш за ўсё я б ім забараніла да тэлефонаў падыходзіць. Глядзіце самі — усе вышэйшыя пасады займаюць стаўленікі ЦК, абкомаў, райкомаў. Цяперашнім апальным апаратчыкам варта толькі тэлефонны нумар набраць, каб усе іх асабістыя праблемы хуценька вырашыліся».**

**А. ЦЕМІРАЗЕЎ, ПЕНСІЯНЕР: «А вы думаеце, камуністы вінаватыя? Але ж пры тых камуністах у вайну перамаглі. А колькі ў крамах усяго было! Гэта толькі пры Брэжневе з'явілася мафія... Не чапайце камуністаў!»**

**У. СТАЛЕТАЎ, ВАЙСКОВЕЦ: «Нічога не магу сказаць. Я б чалавека вызначаў не па наяўнасці партбілета. Але што галоўныя камуністы добра нашкодзілі — гэта так. Я супраць рэпрэсій».**

**Паляванне на ведзьмаў... Трэба зразумець, што кожны чалавек хоча жыць лепш. Хацелі гэтага і камуністы. І жылі. За кошт нас з вамі. І пралічыліся...**

**Алесь ПАЛЫНСКІ.**

## Тэлетайп

**НА КРУГІ СВАЯ**

Над будынкам Мінгарсавета побач з дзяржаўным сцягам рэспублікі лунае бела-чырвона-белы сцяг. Рашэннем Мінскага гарсавета, зыходзячы з неабходнасці аднаўлення гістарычнай справядлівасці і з нагоды чатырохсотгоддзя надання месту Менску герба, пастаноўлена: пацвердзіць герб, нададзены гораду дванаццатага студзеня 1591 года, звярнуцца ў ВС БССР з прапановай адмяніць рашэнне другой сесіі ВС БССР першага склікання ад 29 ліпеня 1939 года, згодна з якім горад Менск быў перайменаваны ў Мінск. Вырашана таксама разам з афіцыйным сцягам рэспублікі выкарыстоўваць бела-чырвона-белы.

**СПАД ВЫТВОРЧАСЦІ!**

**Беларускі ўрад гатовы ўзяць на сябе забеспячэнне былых прадпрыемстваў саюзнага падпарадкавання матэрыяльнымі рэсурсамі на 70 працэнтаў. Большага, паводле слоў В. Ф. Кебіча, і не спатрэбіцца, бо чакаецца непазбежны спад аб'ёмаў вытворчасці на 12 — 15 працэнтаў.**

**БЕЛАРУСЬ — ПАЎДНЁВАЯ КАРЭЯ**

Адбыўся афіцыйны візіт у Паўднёвую Карэю беларускай урадавай дэлегацыі на чале са Старшынёй Савета Міністраў Кебічам. Прадстаўнікоў нашай рэспублікі прымаюць як дэлегацыю суверэннай дзяржавы. Падпісаны дакументы аб эканамічным супрацоўніцтве.

**ЖЫВЕ КАМУНІЗМ!**

**У Маскве адбылося першае нелегальнае пасяджэнне аргкамітэта па адраджэнню партыі камуністаў. Адна з мяркуемых назваў — Саюз камуністаў. У аргкамітэт не ўвайшоў ніхто з былых кіраўнікоў арганізацыйна-кіраўнічых структур партыі або МГК КПСС. Гэтая інфармацыя прачытана ў «Известиях». У адказ на гэта «Правда» заявіла, што дзейнасць КПСС не забаронена, яна толькі прыпынена, і камуністы ў праве дабівацца адмены указа і пастаноў, якія кідаюць цень падазрэння на ўсіх членаў партыі. Услед за гэтым былы рупар кампартыі выказаўся супраць «нелегальшчыны».**

**ГАРЫ КАСПАРАЎ — СПОНСАР... САНКТ-ПЕЦЯРБУРГА**

Сёмага лістапада ў Санкт-Пецярбургу пройдуць урачыстасці з выпадку перайменавання горада. Па словах мэра Санкт-Пецярбурга А. Сабчака, на аднаўленне гістарычнай назвы горада мэрыя не патраціць ні капейкі. Ён мае намер, у прыватнасці, звярнуцца па дапамогу да Гары Каспарава, які паабяцаў выдзеліць на перайменаванне горада два мільёны рублёў.

**ФОНД ДАПАМОГІ ПУТЧЫСТАМ**

**Украінская рэспубліканская газета для дзелавых людзей «Кантракт» заснавала фонд гуманітарнай дапамогі путчыстам (скарочана ФГДП), задача якога — садзейнічаць захаванню жыцця і гуманізацыі ўмоў утрымання мяцежнікаў пад вартай. Путчысты, на думку «Кантракта», унеслі вялізны ўклад у ініцыіраванне народна-дэмакратычнай рэвалюцыі 1991 года і не павінны застацца без заахвочвання.**

**АДНЫМ АБЗАЦАМ**

— Да працаўладкавання былых работнікаў апарату КПСС прыступілі на Маскоўскай біржы працы. Сюды звярнулася пакуль каля 50 былых работнікаў партапарату, пад той час, як сваіх месцаў у Маскве пазбавіліся сама меней 6 тысяч чалавек. Толькі ў адным ЦК КПСС было звыш 1200 работнікаў апарату і 700 чалавек абслугі.

— Спынілі існаванне кампартыя Казахстана і Арменіі. У Алма-Аце прынялі рашэнне перайменаваць партыю з камуністычнай у сацыялістычную.

— Грузія спыняе ўсе афіцыйныя адносіны з СССР.

— Цэнтральная выбарчая камісія выдала 21 пасведчанне кандыдатам на пост Прэзідэнта Украіны.

— У Кыргызстане распушчана піянерская арганізацыя рэспублікі. Замест яе ствараецца саюз дзіцячых і юнацкіх арганізацый.

— Эстонія першай з трох прыбалтыйскіх дзяржаў, якія атрымалі нядаўна незалежнасць, афіцыйна звярнулася з просьбай аб уступленні ў Міжнародны валютны фонд.

— КНДР афіцыйна прызнала незалежнасць Літвы, Латвіі і Эстоніі. Да гэтага тое ж самае зрабілі больш як 50 дзяржаў.

— Прэзідэнт СССР М. Гарбачоў распарадзіўся перадаць чэк на 100 000 долараў у дапамогу пацярпеўшым ад чарнобыльскай аварыі ў Бранскай вобласці.

— Зараз у Савецкім Саюзе налічваецца каля 30 чалавек, якіх «Міжнародная амністыя» адносіць да катэгорыі «вязняў сумлення». Пра гэта паведаміла ў інтэрв'ю карэспандэнту ТАСС Эн Бэрлі.

# «З ЛІТАСЦІ Я ПАВІНЕН БЫЦЬ СУРОВЫМ...»

*«Комсомольская правда», 7 верасня 1991 г.*

Чым больш аддаляемся ад жнівеньскіх падзей, тым больш трывожна і няўтульна становіцца ў мяне на душы.

Вось і прагучала карэннае, асноватворнае слова: здрада. Удзельнікаў загавору прыцягваюць да адказнасці па расстрэльнаму 64-му артыкулу Крымінальнага кодэкса РСФСР.

Стоп. Гэта мы ўжо праходзілі. У адна тысяча дзевяцьсот трыццаць сёмым, а таксама і раней, і пазней. І людзей майго пакалення на гэтай крывавай мякіне ўжо не ашукаеш. Бо здрада Радзіме мае на ўвазе ворага, у інтарэсах якога гэтую самую здраду ажыццяўляюць. Юрысты і следчыя тых лютых, але далёка не цудоўных гадоў, накшталт Крыленкі і Вышынскага, доўга такіх не шукалі. Да іх паслуг быў увесь спіс замежных разведак ад японскай да перуанскай уключна. Хачу спадзявацца, што і цяперашнія апалагеты прававаой дзяржавы сярод нашых прафесійных служыцеляў юстыцыі не затрымаюцца з адпаведнымі доказамі. (І, наогул, што гэта ў нас за правасуддзе такое, якое пастаянна кідаецца ад абвінаваўчага ўхілу ў апраўдальны і назад. Страшна жыць у краіне, дзе судовыя рашэнні залежаць ад чарговай газетнай кампаніі).

У адваротным выпадку кваліфікацыя спробы дзяржаўнага перавароту, як здрады Радзіме, акажацца абсалютна неабгрунтаванай. Тут, напрыклад, зусім слушна дапусціць, што, адважыўшыся на антыканстытуцыйныя дзеянні, загаворшчыкі проста па-свойму тлумачылі інтарэсы гэтай самай Радзімы. Пераможцам не варта было б забываць, што, па нядаўніх апытаннях грамадскай думкі, праведзенай ужо па слядах путчу,40 працэнтаў апытаных выказалі яго ініцыятарам падтрымку. Упэўнены, што ў выпадку перамогі загавору такіх аказалася б у два разы больш. Зараз трэба было б не распальваць у масах нізкія страсці, а пасільна растлумачваць гэтым самым 40 працэнтам падманутых гібельнасць для краіны абранага загаворшчыкамі шляху. Толькі ці да гэтага, калі з'явілася такая добрая магчымасць беспакарана пабясчынстваваць...

Не варта было б пераможцам забываць і пра тое, што значная большасць з іх дзеляць з пераможанымі адказнасць за саўдзел у будаўніцтве ў нашай краіне велічнага будынка "рэальнага сацыялізму".

Калі прыняць сённяшні пункт погляду некаторай, найбольш радыкальнай часткі пераможцаў на тое, што адбылося, то, выходзіць, усе ахвяры застойных гадоў, адсядзеўшыя і якія яшчэ сядзяць, блізкія забітых і недажыўшых, выгнаныя з краіны і абылганыя, таксама маюць права прад'явіць гэтым учарашнім яшчэ камуністам абвінавачванне ў здрадзе Радзіме? Так, ці не?..

Толькі, Божа, нас выратуй ад такога звядзення рахункаў! Я толькі радуюся, што ўчарашнія прадстаўнікі партыйнай і савецкай наменклатуры знайшлі ў сабе духоўную мужнасць пераасэнсаваць свой лёс і пайсці насустрач свайму народу. Я жадаю ім на гэтым шляху ўсяго самага найлепшага.

Каюся, я сам "иўдейска страха ради" і дзеля хлеба надзённага часам хітрыў на паперы, хоць ніколі і ні ад каго не хаваў сваіх негатыўных адносін да камуністычнай ідэалогіі. Гэта могуць пацвердзіць усе мае шматгадовыя сябры ад Булата Акуджавы і Юліў Эдліса да Юрыя Каракіна і Фазіля Іскандэра ўключна. Але тым не менш я ніколі не прагнў ні крыві, ні помсты ў адносінах да яе носьбітаў. Прызнанне імі сваіх памылак для мяне зусім дастатковая маральная кампенсацыя.

Таму мне незразумелая тая радыкальная помслівасць , якую праяўляюць сёння іншыя цяперашнія прагрэсісты, яшчэ ўчора асыпаныя ўсімі магчымымі міласцямі і ўзнагародамі часоў застою. З якой гэта ласкі любімец усіх сучасных яму правадыроў Яўгеній Еўтушэнка, які ледзь не да апошняга дня пахваляўся сваёй асабістай дружбай з Фідэлем Кастра або марксісткай Ванесай Рэдгрэйв, ператвараецца сёння ў гэткага айчыннага Макарці і ўчыняе паляванне за ведзьмамі ў Саюзе пісьменнікаў? Дзеля чаго другі пісьменнік, якога я вельмі паважаю як празаіка, пражыўшы адно з самых шчаслівейшых жыццяў у савецкай літаратуры, раптам заклікае народ вырошчваць пяньку, каб віць з яе вяроўкі для камуністаў? Хіба ж магчыма было, каб Віктор Гюго, які вярнуўся з амаль 20-гадовай ссылкі, дзе ён прабыў па міласці путчыста Напалеона III, пачаў бы квітацца з братамі Ганкур, якія ўсе гэтыя гады добра жылі пры імператарскім двары? Ці мажліва было б, каб удзельнік французскага Супраціўлення Андрэ Мальро помсціў Франсуа Марыаку, які займаў у акупіраванай Францыі вельмі сумніцельную пазіцыю? (Нават такі актыўны калабарант, як Селін, атрымаў толькі ссылку ў суседнюю Бельгію, дзе і памёр). Ці мажліва было б, каб выгнаннік Мілаш патрабаваў да адказу канфарміста Івашкевіча?

Сцвярджаю, немажліва. А ў нас некаторыя барацьбіты за свабоду і дэмакратыю ад літаратуры, ледзь прарваўшыся да ўлады, спяшаюцца апячатаць Саюз пісьменнікаў сваіх апанентаў. Божухна, ды калі ж мы ўсё-такі пасталеем?

Дарэчы, гэтак жа дзіўна прысвойваць званне Герояў Савецкага Саюза загінуўшым ля "Белага дома" юнакам. Да таго ж недарэчна: Саюз практычна не існуе, а колькасць герояу павялічваецца. Успомнім лепш мудрыя словы Томаса Мана: "Няшчасная краіна, якая мае патрэбу ў героях". Няўжо інтэлектуалы, што акружаюць Барыса Ельцына, не маглі, або не захацелі ўказаць яму на зневажальны для загінуўшых фальш гэтай акцыі?

Мне лягчэй было б зразумець усе гэтыя эксцэсы і непаразуменні, калі б мы аказаліся першымі ў працэсе вызвалення ад таталітарызму. Першапраходцам можна дараваць памылкі. Яны ідуць усляпую. Але за апошнія гады "аксамітныя" і менш аксамітныя рэвалюцыі пракаціліся па краінах усяго так званага сацыялістычнага лагера. Чаму ж мы не хочам улічваць ужо асвоены імі вопыт?

Там таксама прыцягваюць да адказнасці путчыстаў. Але толькі за канкрэтныя злачынствы: загады, якія крымінальна караюцца, карупцыю, генацыд супраць уласнага народа.

Ярузельскі, старшыня дзяржавы і партыі Польшчы ў адной асобе, учыніў дзяржаўны пераварот у поўным сэнсе гэтага слова. Прычым не толькі ў сваіх уласных інтарэсах, але і ў інтарэсах замежнай дзяржавы, г.зн. Савецкага Саюза. Перасадзіў усю апазіцыю, забараніў усе апазіцыйныя выданні, пры ім праліта шмат крыві (дастаткова ўспомніць хаця б зверскае забойства бацькі Папялушкі), але нават ён дажывае свой век у самым цэнтры Варшавы, а яго партыйныя аднадумцы не толькі жывыя-здаровыя, не толькі захавалі за сабой сродкі масавай інфармацыі, але і некалькі дзён таму ледзь не звалілі ў парламенце ўрад Бялецкага.

Яго чэха-славацкі саюзнік Густаў Гусак, які ажыццявіў дзяржаўны пераварот з дапамогай акупацыйных войск (вось ужо сапраўды здрада радзіме ў чыстым выглядзе!), адпраўлены на пенсію. З яго паплечнікаў да судовай адказнасці прыцягнуты толькі першы сакратар Пражскага гаркома партыі за канкрэтны загад страляць у дэманстрантаў. Прадстаўнікі партыі засядаюць у парламенце. Партыя працягвае кантраляваць свае органы масавай інфармацыі. І нават пасля ўсяго, што здарылася, набірае на выбарах 11 працэнтаў галасоў. Дарэчы, гэта больш як мільён выбаршчыкаў.

Тодара Жыўкава, верай і праўдай служыўшага замежнай дзяржаве, мяркуючы па ўсяму, благаславіўшага замах на папу рымскага і забойства пісьменніка Георгія Маркава, які збег з краіны, прыцягваюць (праўда, усё яшчэ ніяк не могуць прыцягнуць!) да суда за карупцыю.

Эрыха Хонекера прыцягваюць да адказу толькі за канкрэтны загад страляць у бягучых на захад суайчыннікаў і (хаця і гіпатэтычна) таксама па абвінавачванню ў карупцыі.

Затое "стукачоў" сваіх адкрыта засвечваюць. Не прыгнятаюць, не караюць, а толькі перакрываюць ім доступ да ўлады.

А ў нас усё наадварот: сваіх учарашніх аднадумцаў гатовы засудзіць аж да пакарання смерцю. А вось стукачоў не чапай! Гэта, паводле слоў шчыра паважанага мной Вадзіма Віктаравіча Бакаціна, можа ўнесці раскол у наша грамадства. Няўжо Вадзім Віктаравіч не заўважае, што яно ўжо даўно расколата, і цяпер, мяркуючы па ўсяму, назаўсёды?

Але яшчэ горш, што мы зноў і зноў карыкатурна паўтараем сваю ўласную гісторыю эпохі Лютага і яго вынікаў. Перачытваю зараз "Акаянныя дні" Буніна. І толькі хваравіта дзіўлюся: як падобна! Палітыкі і інтэлектуалы, якія крычаць толькі аб небяспечнасці справа. Памятаем, праходзілі. Керанскі і левая руская інтэлігенцыя таксама крычалі, а выпіхнулі іх з гістарычнай сцэны злева. Ужо ў старасці ў эміграцыі незабыўны Аляксандр Фёдаравіч у адказ на пытанне, што б ён рабіў у Расіі ў выпадку вяртання лютаўскай сітуацыі, журботна сказаў:"Змагаўся б з керанщчынай". Добра, што здагадаўся. Праўда, вельмі позна. Як ні шкада адзначаць, але, на жаль, дагэтуль таталітарызм прыходзіў у свет толькі злева. Напрыклад, з нетраў італьянскай сацыялістычнай партыі і рабочай партыі Германіі. Справа дагэтуль прыходзілі сюды толькі аўтарытарныя рэжымы, што, зрэшты , таксама не Бог ведае якое шчасце для чалавецтва.

Не паспеў новы міністр абароны СССР заняць крэсла, якое вызвалілася, як тут жа абяцае краіне і 80-працэнтнае абнаўленне каманднага саставу Савецкай Арміі. І гэта, на жаль, мы зноў-такі праходзілі: адзін вусаты пан у свой час ужо ажыццявіў такую аперацыю, дагэтуль расхлёбваем ...

У той жа самы час прамысловасць спыняецца, інфляцыя, паводле сцвярджэння старшыні Дзяржаўнага банка СССР, дасягне да канца года тысячы працэнтаў. А любімая Барысам Мікалаевічам радыёстанцыя "Свабода", якая пасадзейнічала яму ў разводзе з сумежнымі рэспублікамі, не на жарт занялася раздзелам Расійскай Федэрацыі. Дык ці не прыйдзецца яму ў бліжэйшай агляднай будучыні аказацца прэзідэнтам Маскоўскай вобласці?

Улічваючы ўсё гэта, можна толькі дзівіцца, як па-еўрапейску апранутыя і дагледжаныя мужчыны і прыбраныя, быццам на вячэрні прыём, жанчыны з ліку народных выбраннікаў цэлымі днямі горача і зацікаўлена абмяркоўваюць, хто і дзе быў у ноч перавароту?

Ды азірніцеся ж, нарэшце, вакол сябе, мілыя! Якое тысячагоддзе на двары? Пад вамі ж зямля гарыць!

Мне абавязкова скажуць: якое маральнае і грамадзянскае права маю я разважаць аб становішчы ў краіне, седзячы ў небяспечнай далечыні, пад абаронай заходняй дэмакратыі? Асмелюся сцвярджаць, што ў мяне ёсць такое права — права суайчынніка, які перажывае за лёс роднай краіны і аказаўся за яе межамі не зусім па сваёй волі.

У маім жыцці быў свой "Белы дом", побач з якім я штосьці не бачыў амаль нікога з цяперашніх рашучых антыкамуністаў. Некаторыя з іх сядзелі ў гэты час у кабінетах, моўчкі і ўслых здзекуючыся з нашай палітычнай наіўнасці. Гэтым "домам" была для мяне ў тыя гады кватэра Андрэя Сахарава. Была і свая рашучая ноч, калі арыштавалі Аляксандра Салжаніцына. І ўсе мы, хто ўваходзіў у той час у яго ідэйнае акружэнне, чакалі самага горшага. Але тым не менш, сабраўшыся раніцай на сахараўскай кухні, падпісалі патрабаванне да ўрада вызваліць пісьменніка і апублікаваць "Архіпелаг ГУЛАГ". Нас аказалася ўсяго 9 чалавек. Дзе яны прападалі тады, гэтыя тысячы сённяшніх лютых антыкамуністаў? (Я не кажу аб моладзі, я кажу аб людзях свайго пакалення).

Успамінаю я і напісаны мной Зварот да сусветнай грамадскасці з прапановай вылучыць Сахарава на Нобелеўскую прэмію свету. Немалой колькасці "прарабаў перабудовы" мог бы я сёння напомніць пра свае званкі да іх з гэтай нагоды! Але, на жаль, згадзіліся падпісаць дакумент разам з вашым пакорным слугой толькі Ігар Шафарэвіч (дарэчы, далёка не гарачы прыхільнік Сахарава) і Аляксандр Галіч. Амаль аднačасова з намі асобнае пісьмо на гэтую ж тэму апублікаваў на Захадзе Аляксандр Салжаніцын (таксама не з ліку аднадумцаў Сахарава).

Зыходзячы з гэтага, я лічу, што маю права папярэдзіць усіх, хто сёння патрабуе помсты і крыві: калі вы запусціце гэты карны перпетуўм-мобіле, то заўтра апынецеся там жа, дзе сядзяць зараз яго першыя кліенты. У такім выпадку, калі прыйдзе ваша чарга, не крычыце перад смерцю , што вас падманулі. Не, вы хацелі быць абманутымі. І скардзіцца вам не будзе на каго, толькі на саміх сябе.

Закончу папярэджаннем з "Гамлета" ў перакладзе Барыса Пастарнака: "З літасці я павінен быць суровым. Няшчасці пачаліся, рыхтуйцеся да новых..." І яшчэ больш павучальнае з Джакома Леапардзі:"Пры ўсялякім дзяржаўным ладзе падман, нахабнасць і нікчэмнасць будуць панаваць на зямлі. Свет — не што іншае, як вялізны загавор нягоднікаў супраць сумленных людзей. Дзевятнаццатае стагоддзе таксама не ў сілах змяніць гэту звычайную рэч, адрадзіць і ўзвысіць чалавечую прыроду, як і дзевятае, дзесятае або якія-небудзь будучыя стагоддзі". На жаль!

**Уладзімір Максімаў.**

Парыж.



## ЗВАРОТ
## СОЙМА БНФ "АДРАДЖЭННЕ" ДА БЫЛЫХ КАМУНІСТАЎ

Шаноўныя суайчыннікі!

Спраўдзіліся прадбачанні Беларускага Народнага Фронта "Адраджэнне". Дзейнасць камуністычнае партыі прыпынена і, хутчэй за ўсё, не адновіцца ў ранейшым выглядзе. У грамадстве паўстала новая сітуацыя, і яна, натуральна, непакоіць былых камуністаў, выклікае страх за свой лёс, боязь праследавання за пераканanні.

Беларускі Народны Фронт з моманту свайго ўзнікнення дэклараваў і паслядоўна ажыццяўляў прынцып яднання і супрацоўніцтва ўсіх сіл, зацікаўленых у вяртанні ад таталітарнае сістэмы да дэмакратыі, у нацыянальным адраджэнні і незалежнасці Беларусі, у стварэнні здаровае эканомікі, не зважаючы на партыйную прыналежнасць. Афіцыйная камуністычная прапаганда намагалася прадставіць Фронт крыважэрным ворагам камуністаў, які толькі прагне расправы над імі.

БНФ "Адраджэнне" на сваіх з'ездах і канферэнцыях некалькі разоў прымаў грунтоўныя заявы аб стаўленні да камуністычнае партыі і да камуністаў. У іх сцвярджалася, што Фронт адрозніваe юрыдычную адказнасць партыі як арганізацыі і яе кіраўнікоў за свае злачынствы перад народам ад палітычнай і маральнай адказнасці радавых камуністаў. Апошнія ўтрымлівалі сваімі ўзносамі антынародную партыйную верхавіну з яе прывілеямі, таму яны маральна адказныя за становішча. Аднак звычайныя члены гэтае партыі ў астатнім ня розняцца ад іншых людзей, і пра юрыдычную адказнасць радавых камуністаў пытанне не можа ставіцца. Беларускі Народны Фронт не дапусціць якога б ні было цкавання людзей за членства ў КПСС — КПБ.

Камуністычная партыя ніколі не была ўласна партыяй. Гэта была ўсеабдымная карпаратыўная дзяржаўная структура. У шмат якіх галінах прафесійны і службовы рост быў магчымы толькі пры ўмове членства ў партыі. Многія сталі камуністамі вымушана, пад націскам абставінаў; некаторыя ўступалі ў партыю, верачы ў чысціню яе мэтаў. Зараз КПСС яшчэ раз выявіла сваё антынароднае, злачыннае аблічча і сыходзіць з гістарычнай арэны.

Шаноўныя сябры! Знікаюць тыя цёмныя сілы, што вымушалі вас крывадушнічаць, ісці супраць здаровага сэнсу, пагаджацца з антынароднымі рашэннямі. Вы свабодныя ад абавязкаў перад банкрутам КПСС. Але незалежнай Беларусі, нашаму грамадству патрэбны і ваш розум, і ваша актыўная грамадзянская пастава. Заклікаем вас далучыцца да стваральнае працы дзеля пабудовы нармальнага дэмакратычнага грамадства, рынoчнай эканомікі, дзеля адраджэння беларускае культуры, мовы, нацыянальнае свядомасці. Зараз, як ніколі, патрэбна яднанне ўсіх грамадзян нашае рэспублікі ў адстойванні яе незалежнасці.

# НЕЗАЛЕЖНАСЦЬ ПА-БАРЫСАЎСКУ

Як усе ведаюць, у нас у краіне адбыўся дзяржаўны недаварот. Чакалі яго так доўга, што нават напалохацца як след не паспелі, асабліва на Беларусі, а калі спалохаліся — было позна: і недаваротчыкаў быццам абясшкодзілі, і дэпартызаванымі сталі, і нават незалежнымі. Вось толькі што змянілася пасля нашай незалежнасці? О-о-о, гэта складанае пытанне. І каб адказаць на яго, бадай, не варта кранаць сталіцу, бо твар нацыі заўсёды вызначае, так бы мовіць, правінцыя. Ну, вось, хаця б геаграфічная сярэдзіна рэспублікі — Барысаў.

Зайшоў пасля недавароту аўтар гэтых радкоў у мясцовы універмаг, ці як сведчыць шыльда "Дом торговли", і спытаў у маладой прадаўшчыцы:

— Шпалеры маеце?

Тая ў адказ не залюбіла:

— Чиво? Какие есчё чпалеры? Вы что, русcково языка не знаете?

— Але ж мы не ў Расеі - абураюся, — гэта вы павінны ведаць дзяржаўную мову незалежнай рэспублікі, калі працуеце ў грамадскім месцы!

— А мне до фонарика, лежные мы или незалежные, мой же папа военный, — адпарыравала тая. — Меня вашим мовам не обучали и обучать не собираются, — і засмяялася радасна, — Ха-ха-ха!

Сапраўды, чаму не радавацца барысаўчанам, бо па чутках, па прапанове аднаго з асноўных недаваротчыкаў, маршала Язава, пад Барысавам будуецца яшчэ цэлы гарадок на 750 кватэр для вайскоўцаў з Заходняй групы войскаў. Быццам мала ў нас тых войскаў! І будуюць яго, каб ужо зусім весела стала — туркі. Пакуль іх у горадзе тысяча, а хутка будзе аж чатыры тысячы. Вось яна, мудрасць цэнтра. З аднаго боку "абмаскальваюць", а з другога — ужо і "абтурэчваюць". Хоць тыдзень па горадзе хадзіць будзеш, а роднага слова не пачуеш. У царкве і то па-расейску, а ў касцёле — па-расейску ды па-польску. Мо таму не стрываў і выйшаў нядаўна адвячоркам з гармонікам на вуліцу роднага горада старшыня мясцовай рады беларускай мовы імя Ф.Скарыны, настаўнік Валеры Захараў, расцягнуў той гармонік і заспяваў нешта па-мясцоваму.

— Чиво ета он запел? — спыталі адзін аднаго мясцовыя бэйбусы і "ради понту" нацюкалі маладому старшыні "в пятак", што магчыма яшчэ менш паспрыяе таму, каб рада хоць раз сабралася на сваё пасяджэнне — іх жа не было ў горадзе аніводнага. А варта было б сабрацца. Моўнае пытанне ў горадзе крычыць само за сябе. Аўтаадказчыкі на вакзалах, у кінатэатрах, рэклама — як былі па-расейску, так і засталіся. Набярэш адпаведны нумар, здымеш слухаўку, а адтуль пачуеш:







— Дорогие товарищи, севодня у нас очень интересный двусирийный индийский фильм...

Ці вось расчыніла свае дзверы беларуская гімназія № 2. Спытаеце, а дзе нумар 1? А нумар адзін, аказваецца, гімназія, толькі расейская.

А вось мясцовая газета "Адзінства". Пад падпарадкаваннем былога выпускніка "вэпэша" т.А.Алпатава яна становіцца ўсё больш рускамоўнай. Да галадовак пратэсту справа даходзіла, а яго наадварот па маленькай галоўцы мясцовыя ўлады гладзяць, давай, "абмаскальвай" далей, асвятляй на старонках газеты сабачыя выстаўкі ды "светскую жизнь" мясцовых лабідудаў.

Вось яшчэ дзіва.

Дырэктар барысаўскага медвучылішча Генадзь Сяргеевіч Суханіцкі працуе ў горадзе нядаўна — сам прыехаў сюды з Расеі. Але пачуцця хаця б самай маленькай павагі ці адказнасці, што ён трапіў у іншую рэспубліку, а не ў паўночна-заходні край, у яго няма. Па розных неістотных прычынах выжыў з работы двух маладых выкладчыкаў — М.Цішука і І.Хамічэнку, старшынь гарадской рады БНФ — толькі за тое, што яны, па-першае, прадстаўлялі народны фронт і, па-другое, памкнуліся выкладаць лекцыі для навучэнцаў на роднай мове. Вучэбны працэс жа Генадзь Сяргеевіч арганізаваў так, што выпускнікамі медвучылішча ў большасці аказваюцца ўсе, толькі не беларускія дзяўчаты ды юнакі. Куды яны паедуць працаваць? Вядома ж, у Расею ці іншыя рэспублікі. Смешна?




Ці вось яшчэ. Як цяклі шырокім струменем масла ды мазут з вытворчага аб'яднання "Экран" у рэкі Сху ды Бярэзіну, так і пасля незалежнасці цякуць. Аніякія захады не дапамагаюць, бо прадпрыемства кіруецца з... — самі здагадваецеся.

І ўсё па-ранейшаму непахісна стаяць на скрыжаванні вуліц і на плошчы горада гіганцкія помнікі "правадырам": вусатыя ў галіфэ і лысыя ў штанах.

А тут усё спяць, толькі калі са сну прачухаюцца, пытаюць:

— А чиво ета у нас будит, га?

**Юры СТАНКЕВІЧ.**

# Прымусь дурня Богу маліцца

**Усё тое, аб чым гаворыцца ў гэтым артыкуле, — праўда. Я мог бы назваць яшчэ больш фактаў, імёнаў, на падставе якіх частку з маіх «герояў» варта было б прыцягнуць да крымінальнай адказнасці за перавышэнне паўнамоцтваў. Але агульная карціна мяне сёння хвалюе больш, чым падрабязнасці.**

25 жніўня Вярхоўны Савет БССР прыняў свае, як цяпер ужо высвятляецца, не зусім законныя рашэнні па дзейнасці беларускага камсамола. Не ведаю, хто як зараз сябе адчувае з «народных» дэпутатаў, але ў той момант, у момант галасавання рукі ў іх трэсліся, відаць, ніколькі не менш, чым у Янаева ў час вядомай прэс-канферэнцыі. У каго — ад радасці (маўляў, знішчыў гадзіну), у каго — ад страху (толькі б да мяне не дабраліся або мяне не ўспомнілі). Рашэнне першых — на іх сумленні. З другімі больш складана, у іх сёння замест сумлення страх. Я іх разумею, але дараваць не магу.

26 жніўня пачалася вакханалія апячатвання памяшканняў. Ужо ў гадзіну ночы першага сакратара Шумілінскага райкома камсамола паднялі з ложка, каб апячатаць сакрэтнае справаводства. Сакрэтнага справаводства ў камсамола даўно няма, але «служыцелі закона» не разгубіліся, апячаталі кабінет сакратара і знялі шыльду. У Брэсцкім абкоме апячаталі сейф са сцягам. У Лідзе, каб жыццё сабе не ўскладняць, апячаталі ўвесь будынак, дзе разам з райкомам і гаркомам КПБ знаходзіўся не толькі камсамол, але і падатковая інспекцыя. Прыкладаў прыводзіць можна шмат.

Ачуняўшыя камсамольскія сакратары кінуліся ў праваахоўныя органы. Вось тыповая для той абстаноўкі размова з пракурорам.

Сакратар: Нас апячаталі!

Пракурор: І што далей?

Сакратар: Нас закрываюць! Прыпыняюць дзейнасць!

Пракурор: І што далей?

Сакратар: Гэта незаконна! Гэтага ў пастановах Вярхоўнага Савета няма! Вось жа тэкст у «Народнай газеце»!

Пракурор (старанна чытае тэкст): Гм, сапраўды незаконна...

Сакратар: Дык дайце пісьмовае заключэнне!

Пракурор: Не дам.

Сакратар: Але чаму?

Пракурор, не гаворачы слова «баюся», няўпэўнена пацiскае плячыма і ветліва паказвае на дзверы.

Добра, калі сакратар райкома або гаркома камсамола — мужчына, які, як Аляксандр Бужак з Баранавіцкага гаркома, здольны сам аднавіць справядлівасць. Саша сам сарваў незаконна накладзеную на дзверы кабінета пячатку (усё здымалася на відэаплёнку камсамольцамі) і пачаў працаваць. А пракурор (дзякуй яму!) зрабіў вывад: адмена беззаконня не ёсць новае беззаконне. І Бужака вось такім чынам апраўдаў.

А як быць, калі вайну вядуць з дзяўчынай? Напрыклад, месца дзеяння — раённы цэнтр Лёзна, што ў Віцебскай вобласці. Час дзеяння — з 25 жніўня па 4 верасня.

У нядзелю, 25 жніўня, першага сакратара райкома Тамару Дрылёнак выклікалі ў сельсавет, дзе райком арандуе чатыры пакоі. Як пад канвоем (не ведаю, ці была зброя, — злачынца ж небяспечны), даставілі ў РАУС і апламбіравалі адзіную «рухомую маёмасць» — старую машыну.

У панядзелак, 26 жніўня, намеснік начальніка РАУС М. Н. Пятроўскі сам апячатаў сейф з дакументамі, якія не з'яўляюцца сакрэтнымі і пад пастанову Вярхоўнага Савета не трапляюць, апячатаў пластылінам. Але ўжо вечарам, напэўна, апамятаўся, а раптам сарвуць. І вось у аўторак, 27 жніўня, кіраўнік спраў райвыканкома Л. А. Вараб'ёва апячатала сейф і картатэку сургучом. Яе думкі разгадваць не бяруся, але справу яна сваю зрабіла добрасумленна.

Але і гэтага Лёзненскаму РАУС здалося недастаткова. М. Н. Пятроўскі ў сераду, 28 жніўня, робіць наступнае распараджэнне: уваход у райком камсамола нават яго работнікам забаронены. Проста забаронены, без аргументаў, без тлумачэння. Як у фільме «Вяселле ў Малінаўцы»: «Скідай боты, улада перамянілася!» Зрэшты, выключэнне Пятроўскі ўсё ж зрабіў: Тамары Дрылёнак і загадчыцы сектара ўліку хадзіць на работу дазволілі. Ведайце, маўляў, якая наша ўлада міласэрная: вы супраць яе путчы ўчыняеце, а яна да вас з усёй душой!

У тую ж сераду з'явілася ў друку ведамае рашэнне калегіі Міністэрства народнай адукацыі БССР. Сёння яно ўжо адменена ў той частцы, якая тычыцца камсамола. Дзякуй за гэта членам калегіі: разумны чалавек не той, хто не робіць памылак, а той, у каго хапае смеласці іх выпраўляць. Калегія сваю памылку выправіла. Але ведалі б у міністэрстве, што адбываўся ў чацвер, 29 жніўня, на настаўніцкай канферэнцыі ў Лёзна.

Задоўга да нядзельных падзей была дамоўленасць: прыйдзе на настаўніцкі форум сакратар райкома камсамола, прынясе ў падарунак кнігі для маладых настаўнікаў, выступіць з віншаваннем. Тамара прыйшла. Але ў раённым Доме культуры ёй проста ветліва намякнулі: вам, маўляў, тут не месца. Яна засталася, села, як вучаніца, якая правінілася, на «галёрцы», паслала ў прэзідыум запіску: «Прашу слова». Спрэчкі ўжо падыходзілі да канца, а слова не давалі. А між тым у дакладзе прагучала: дзейнасць камсамола ў школе спынена. І камсамольскія падарункі прэзідыум пачаў уручаць на свой погляд. Як быццам камсамола больш няма. І старшыня Лёзненскага райвыканкома П. П. Блахін, які сядзеў у прэзідыуме, на жаль, нічога не зрабіў.

Аднак сакратар райкома камсамола патрабавала даць ёй слова. Прэзідыум адмовіў. Але падтрымалі настаўнікі. Тыя самыя настаўнікі, якія традыцыйна нападалі на камсамол, абвінавачвалі «функцыянераў» і «бюракратаў» ва ўсіх смяротных грахах. А на гэты раз падтрымалі: вельмі моцна сядзіць у радавым настаўніку пачуццё спачування да няправільна прыгнечанага. Шумам, свістамі, апладысментамі, асуджаючымі кіраўніцтва канферэнцыі, прымусілі даць Тамары слова.

Яна выйшла на трыбуну і расказала аб тым, як беззаконна, з перавышэннем паўнамоцтваў травяць у Лёзненскім раёне маладзёжную арганізацыю, аб тым, як у яе прыступілі, без суда ўжо пачалі дзяліць камсамольскую маёмасць. Пра прадстаўніка РАУС успомніла асобна — ён паскромнічаў, прыгледзеў сабе (або аддзелу) усяго толькі самавар.

Уяўляю сабе пасяджэнне Дзяржкамітэта БССР па маёмасці, якому даручана прадставіць да будучай сесіі Вярхоўнага Савета БССР прапановы па выкарыстанню камсамольскіх сродкаў і іншай маёмасці. Чырвоны ніткай павінна прайсці ў яго рашэнні: «Лёзненскаму РАУС перадаць у вечнае карыстанне самавар з райкома камсамола! І гравіроўку зрабіць на самавары: маўляў, за паспяхову барацьбу з арганізаванай злачыннасцю!»

Позна вечарам, 31 жніўня Тамара вярталася з пленума ЦК ЛКСМБ. У раённай газеце «Сцяг перамогі» на першай старонцы ўжо ўбачылі свет радкі: «На тэрыторыі раёна спынена палітычная дзейнасць партыйных і камсамольскіх органаў». У яе ж сумачцы ляжаў тэкст тэлеграмы, якая пайшла напярэдадні ва ўсе Саветы нашай рэспублікі, у якой за подпісам члена Прэзідыума Вярхоўнага Савета Д. П. Булахава чорным па беламу быў зварот да кіраўніцтва мясцовых органаў улады і праваахоўных органаў: не дапусціць беззаконнага абмежавання дзейнасці камсамола!

На жаль, яно было і ёсць! І ў гэтым немалую ролю адыграла прэса.

Пяць дзён працягвалася інфармацыйная блакада вакол камсамола, газеты, быццам забыліся аб тым, што публічнасць — гэта не толькі тады, калі я гавару, што хачу, але і калі кожны мае магчымасць сказаць усё, што ён думае.

Першым асмеліўся парушыць загавор маўчання беларускі тэлецэнтр. Дзякуй Аляксандру Ягораву, Ніне Чайцы, Але Сарокінай — пашанцавала хоць штосьці сказаць аб сітуацыі ў камсамоле! Але газеты!.. Было брыдка, калі журналісты, якія яшчэ месяц таму пераконвалі нас у гатоўнасці супрацоўніцтва, хавалі вочы. Страх? І страх таксама. Паспрабуй, выкажы тое, што не спадабаецца. Можа быць такое...

Дэпутат раённага Савета, старшыня камісіі па справах моладзі Тамара Дрылёнак запрасіла прадстаўнікоў раёнкі на сумеснае пасяджэнне бюро, райкома і групы дэпутатаў. Адмовіліся.

Першага верасня, у нядзелю (усё ж), прайшла прызначаная сустрэча. Ніхто з прадстаўнікоў раённых улад не прыйшоў, хоць запрашалі. Прынялі «Зварот камсамольцаў усіх пакаленняў і моладзі раёна». Спадзяваліся хоць на нейкую рэакцыю. Рэакцыя не прымусіла сябе доўга чакаць: вечарам намеснік старшыні райвыканкома П. І. Вараб'ёў пазваніў дамоў Тамары і катэгарычна патрабаваў не займацца актыўнай дзейнасцю.

Я пішу гэтыя радкі 5 верасня. 2 верасня, у панядзелак, пракурор Лёзненскага раёна М. В. Садковіч абяцаў дэпутату райсавета Тамары Дрылёнак ва ўсім разабрацца на працягу двух дзён. І сёння ўсё разбіраецца.

Думаю, пазней яны будуць апраўдвацца: «Мы так зразумелі пастанову Вярхоўнага Савета!» Што ж, кожны разумее ўказы па-свойму, у меру ўласнай подласці. У Яўгенія Шварца ў п'есе «Дракон» адзін нягоднік па імені Генрых абараняецца ад абвінавачвання: «Я не вінаваты! Мяне так вучылі!» І ў адказ: «Усіх вучылі, але чаму ж менавіта ты аказаўся першым, лепшым вучнем?»

Усяму віной страх, вядома. Але і старая прывычка: лепш перагнуць, чым недагнуць палку, адрапартаваць аб выкананні плана. Бо і такое бывае: 2 верасня дырэктар адной са школ у Магілёўскай вобласці ўласнаручна зрываў камсамольскія значкі з пінжакоў і фартухоў сваіх вучняў і крычаў: «Дурні, самі здымайце! Вас жа ўсіх хутка садзіць будуць!» Што цяпер будзе рабіць гэты дырэктар? І як ён зможа размаўляць з дзецьмі? Не ведаю.

Страх пануе паўсюдна. Народныя дэпутаты БССР даюць свае тэлефоны ў «Народнай газеце»: «Званіце, даносьце!» Што гэта — 37-ы год вяртаецца? «Знамя юности» публікаваць гэты заклік да ўсеагульнага «стукацтва» адмовілася. «Чырвоная змена» таксама. Але хтосьці ж палічыў, што і маладзёжная прэса здольная на подласць!

...Раздаюцца званкі ў мяне ў кабінеце. Хто лаецца на камсамол, хто падтрымлівае. А жыццё працягваецца... Аб адным шкадую. Калі закончыцца гэты цяжкі час і ўсё супакоіцца, дурні будуць па-ранейшаму таксама маліцца аднаму богу — Загаду. Калі б зараз яны лбы паразбівалі — усім бы нам потым жыць лягчэй стала.

**Аляксандр ФЯДУТА,**
**сакратар усё яшчэ дзеючага ЦК ЛКСМБ.**



*З успамінаў пра лета*

# МАЕ МАЛЕНЬКІЯ ПРЫНЦЫ

**«Усе дарослыя спачатку былі дзецьмі, толькі мала хто з іх пра гэта памятае», — пісаў Антуан дэ Сент-Экзюперы. Успамінаецца ягоны Маленькі прынц, што з'явіўся перад лётчыкам у пустыні як напамінак пра «ўнутраную радзіму» — дзяцінства. Пісьменніку яно ўяўлялася «маленькім хлопчыкам з залатымі валасамі». А колькі такіх хлопчыкаў, дапытлівых, няўрымслівых непаседаў, адпачывала сёлета ў летніках!**

Калі трапляеш у асяроддзе дзяцей, сам знянацку становішся маленькім. Раней я ведала пра гэту метамарфозу тэарэтычна, з аповедаў аднакурсніц, якім даводзілася працаваць важатымі. Улетку паспрабавала сама на справе зменшыць свой узрост на дзесяць год. Адбылося ж такое незвычайнае «амаладжэнне» ў аздараўленчым летніку «Зубраня», што ў Смалявіцкім раёне.

Шмат цікавых мерапрыемстваў было запланавана, толькі надакучлівы чэрвеньскі дождж часам перашкаджаў ім. Крос у лесе, конкурсы на лепшую гульню, камічны футбол, кірмаш, турыстычная эстафета, «Зарніца», канцэрты мастацкай самадзейнасці — балазе гэтаму надвор'е не перашкодзіла. Асабліва спадабалася дзецям выступленне групы «Эскіз», у прыватнасці, Людмілы Яфімчык і Юрыя Драбініна. Паміж песнямі гучалі шчыры смех і апладысменты: клоун Алесік і ягоны «брат» Дуся весялілі юных гледачоў.

Вы думаеце, лёгка працаваць з дванаццацігодкамі? Яны ўжо па-даросламу скептычныя і адначасова яшчэ па-дзіцячаму непасрэдныя. Задаюць пытанні накшталт:

— Чаму Люда штораз пазірае на мяне, а танчыць толькі з Вовам?

Альбо:

— Чаму мяне на вальс не запрашаюць хлопчыкі? Вы іх папрасіце, каб запрасілі.

Не думалася, што выбар з атрада ўдзельніцы на конкурс «Міс малютка» выкліча столькі спрэчак і нават слёз. Хлопцы, многім з каторых падабалася Люда, аддавалі свае галасы менавіта за яе, дзяўчаты прапаноўвалі Олю. Мы, важатыя, вырашылі не ўмешвацца, пакуль... дзеці не пасварыліся.

Увечары, якраз перад планёркай, да мяне падышоў Павел і ціха, амаль шэптам, сказаў:

— Давайце забудзем пра сённяшні выпадак, а заўтра я папрашу прабачэння ў Светы.

У конкурсе з нашага атрада ўдзельнічала не адна, як патрабавалі ўмовы, а дзве прыгажуні — Оля і Люда. Аднак усе без выключэння дзяўчаткі мілыя, абаяльныя, зграбныя. Горкі смутак («а чым я горшая?») застаўся ў глыбіні душы кожнай.

Гляджу ў заплаканыя вочы Наташы.

— Што здарылася?

— Мой кот любімы... яго ўжо няма дома... збег.

Затое якой радасцю свяціўся Наташын твар, калі маці прывезла радасную навіну: Барсік прыбег дадому і з нецярплівасцю чакае сваю гаспадыню.

Цікава, на якой мове будзе размаўляць Наташа дома, пасля вяртання з летніка? Напэўна, па-беларуску! Нам хацелася далучыць дзяцей да роднай мовы. Напачатку рэакцыя была адмоўная: маўляў, навошта вы заўсёды размаўляеце не па-расейску? Але ў канцы змены некаторыя хоць і з памылкамі, карысталіся беларускай мовай, прасілі перакласці многія словы. Алег Колесень, напрыклад, занатаваў слова «асадка», якое яму надзвычай спадабалася.

Прыемна, што начальнік летніка В. А. Пятроўская падтрымлівала нашы пачынанні.

— У «Зубраняці» працую з 1985 года, — распавядала Вольга Антонаўна. — Ведаю: немажліва распачынаць добрую справу без даверу, у атмасферы напружанасці. Кожнае дзіця павінна выявіць свае здольнасці. А як зрабіць гэта пад прымусам? Не варта навязваць штосьці нецікавае, бо дзеці стаміліся пасля школы, ім патрэбна раскаванасць.

Вольга Антонаўна паглядзела ў акно:

— Бачыце, колькі соснаў? Паветра тут цудоўнае, але... самі разумееце, праблем таксама хапае. Домікі, дзе зараз жывуць дзеці, будуць зносіць. Праз два гады з'явіцца дзесяць двухпавярховых. Запланавана будаўніцтва сталоўкі на 600 чалавек, кіназалы...

Якім стане «Зубраня» праз некалькі год? В. А. Пятроўская ведае адказ: у яе шмат планаў, задумаў, пошукаў. Можа мне яшчэ раз захочацца наведаць гэты летнік, каб мае маленькія прынцы і прынцэсы нагадалі мне пра «ўнутраную радзіму».

**Таццяна СТАРАСЦЕНКА,**
**студэнтка МДПІ імя М. Г. Горкага.**

*Пагуляем?*

# Чым бы дзіця ні цешылася...

**У час татальнага дэфіцыту бацькі ўсё часцей задаюцца пытаннем, дзе набыць дзіцяці цацкі?**

Мітусімся па крамах, зазіраем у вочы сяброў — патрэбны цацкі, добрыя: нешта электроннае, механічнае, у крайнім выпадку, вялізны футравы сабака ці мядзведзь. Але не заўсёды дарагая цацка так патрэбна дзіцяці, як гэта здаецца з першага погляду. Праз некалькі дзён заўважаем, што яна — тая, за якой мы маяліся ў чэргах — валяецца ў кутку, а дачка гуляе са старой лялькай альбо водзіць на вяроўцы шчотку для вопраткі — «вожыка».

Мы і не здагадваемся, што, не атрымліваючы падыходзячую цацку, дзіця самастойна шукае яе інтуітыўна ў прадметах, што знаходзяцца навокал. І знаходзіць — у скрынках, шрубках, кавалачках тканіны. Можна дапамагчы малому — зрабіць самім дома танныя, але такія патрэбныя дзіцяці цацкі. Заклічце на дапамогу фантазію і пачынайце. Нам дапаможа ў гэтым загадчыца Мінскага цэнтра гульні і цацкі **Валянціна Васільеўна Бурмістрава.** Вось, напрыклад, што яна расказала пра звычайную вяроўку.

Вяроўкай можна «маляваць» на падлозе лічбы і літары, нават ствараць цэлыя кампазіцыі. Можна «намаляваць» вялікую «змейку», а потым пахадзіць па ёй басанож. Карысна — служыць прафілактыкай плоскаступнёвасці, спрыяе лепшай каардынацыі рухаў!

З вяроўкі можна зрабіць на дыване «класы» і паскакаць разам з сяброўкай. А калі да канцоў вяроўкі прывязаць скалкі, то, трымаючыся за іх, можна паспаборнічаць у перацягненні каната.

А хочаце, каб у пакоі адкрыўся вернісаж? Тады замацуйце на нацягнутай вяроўцы прышчэпкамі дзіцячыя малюнкі.

Самым маленькім можна прапанаваць нанізваць на вяроўку гумавыя пракладкі ад накрывак для кансервавання або прымацоўваць да яе прышчэпкамі ляльчыну вопратку. Гэта цудоўная гульня, бо яна спрыяе сенсорнаму развіццю дзіцяці. А, як вядома, сенсорны «голад» вядзе да значных затрымак агульнага развіцця малога.

А калі паміж спінкамі крэслаў нацягнуць вяроўку, атрымаецца сетка для гульні ў «пухбол». У гульні задзейнічаны два іграві і дзве пяровыя пушынкі. Пушынкі перадзьмуваюцца на поле праціўніка і прайграе той, на чыё поле ўпадзе пушынка. Цудоўная дыхальная гімнастыка для лёгкіх, а гэта прафілактыка шматлікіх захворванняў, у тым ліку і прастудных.

Вось вам і вяроўка!

Упэўнена, вы самі зможаце працягваць «эксперыменты» з гэтым немудрагелістым прыстасаваннем.

**Гульні запісала Наталля ПЛЫТКЕВІЧ.**



# «Герой нашага часу»,
## або Хто і як клапоціцца пра нашы душы




**Заняпад беларускай культуры, а канкрэтна культуры нашага стольнага горада Мінска, агульнавядомы. Але за гэтай канстатацыяй факта мы ўсе разводзім рукамі, маўляў, ведаем, а што зробіш?..**

**Вядома, большасць праблем упіраецца ў нашу агульную беднасць. Але ёсць і іншыя прыклады — паглядзіце на тую ж самую Прыбалтыку, культурны ўзровень якой значна вышэйшы, нягледзячы на тое, што за апошняе дзесяцігоддзе аб'ёмы вытворчасці, ды й сама працаздольнасць працоўных Беларусі былі вышэйшымі. Значыцца, уся справа ў людзях, у тых, хто павінен адказваць за развіццё гэтай культуры, нягледзячы на ўмовы сацрэалізму.**

На ўсе гэтыя думкі падштурхнулі мяне вандроўкі па парках адпачынку Мінска, што па ўсіх канонах шоу-бізнесу павінны прыносіць прыбыткі, а на самай справе развальваюцца літаральна на вачах.

Яскравым прыкладам гэтага з'яўляецца парк імя 50-годдзя Вялікага Кастрычніка, які знаходзіцца каля універмага «Беларусь».

Гэты парк быў заснаваны ў 1951 годзе Заводскім райвыканкомам, які адвёў для гэтых мэт 130 га сапраўднага лесу, і называўся ў тыя часы Лесапарк Заводскага райвыканкома. А канкрэтна за яго адказваў трактарны завод, які адразу ж надаў тэрыторыі «таварны выгляд»: закупіў і паставіў абсталяванне, атракцыёны, пабудаваў прафілакторый. Далей парк ужо развіваецца самастойна за кошт прыбыткаў, якія меў у выніку сваёй дзейнасці.

У 1974 годзе парк пераходзіць у падпарадкаванне ўпраўлення культуры гарвыканкома і страчвае сваю фінансавую самастойнасць, нават пазбаўляецца ўласнай бухгалтэрыі. Куды пайшлі грошы, зробленыя паркам, адказаць цяжка, галоўнае, што ён, акрамя мізэрнага заробку для сваіх работнікаў, больш не бачыў з гэтых прыбыткаў ні капейкі.

Каля пятнаццаці гадоў парк нічога не атрымліваў дзеля развіцця сваёй дзейнасці. А старое абсталяванне ўсё больш і больш прыходзіла ў нягоднасць. І вельмі хутка парк стаў стратным. Акрамя таго, 80-я гады вызначыліся і чахардой дырэктарскіх панаванняў. Дырэктар ставіўся ў гэты парк толькі дзеля таго, каб потым праз пару гадоў, пайсці на павышэнне. Безумоўна, такім дырэктарам інтарэсы парку, а значыцца і нашы з вамі, былі вельмі і вельмі «да лямпачкі», галоўнае — ціха ды спакойна адсядзець неабходны «тэрмін».

Адным з апошніх дырэктараў гэтай катэгорыі быў Чэслаў Нікадзімавіч Муліца, прызначаны на гэту пасаду ў 1986 годзе. Зараз ён працуе намеснікам старшыні ўпраўлення культуры гарвыканкома і таму з'яўляецца героем таго, аб чым будзе расказана ніжэй.

Вось характарыстыка яго работы на пасадзе дырэктара парку, дадзеная ягонымі ж былымі таварышамі па службе пад час размовы: «Перш-наперш сваю дзейнасць ён пачаў з чысткі адміністрацыі парку, падбіраючы калектыў па свайму стылю кіраўніцтва». А пра сэнс гэтага стылю распавядаў сам жа Чэслаў Нікадзімавіч: «Галоўнае — перасядзець...». У сакавіку (да пачатку сезона адпачынку) парк аказаўся цалкам не падрыхтаваны. Не было праведзена такіх работ, як расфарбоўка атракцыёнаў, іх дробны рамонт і інш. У той жа 1986 год праверку тэхнікі парку зрабіў Белсаўпроф і, зразумела, забараніў эксплуатацыю многіх атракцыёнаў. Замест таго, каб выклікаць адпаведную тэхнічную камісію, запатрабаваць у гарвыканкома грошы на рэканструкцыю, дырэктар пайшоў па больш лёгкаму шляху — выдаў загад аб спісанні састарэлых атракцыёнаў. І іх спісалі, проста зрэзаўшы на карані. Ды і гэтыя атракцыёны не былі самымі старымі, самыя старыя да гэтага часу круцяцца, проста яны былі больш складанымі тэхнічна, з імі трэба было мець шмат клопату.

Стыль кіраўніцтва запомніўся ягоным супрацоўнікам, як цэлы шэраг інтрыг, плётак, шантажу і г. д. Але ж гэта, вядома, нядзіўна, ці мала мы такіх дырэктараў маем! І ўсё ж было б яшчэ нічога, каб гэта гісторыя не мела працягу.

У жніўні 1989 года парк пераходзіць на арэнду і самаакупнасць, заводзіць сваю бухгалтэрыю і пачынае самастойна падлічваць свае страты ды прыбыткі. Калектывам выбіраецца новы дырэктар. Пачынаюць ажыццяўляцца задумы па паляпшэнню якасці адпачынку гараджан, а было гэта зрабіць не так проста. Напрыклад, чаго каштавала работа па арганізацыі агульнавядомага чэшскага «Месяца-парку». Чэхі паставілі тады жорсткія ўмовы: заасфальтаваць пляцоўкі, падвесці напружанне ў 220 В, забяспечыць жыллём іхніх людзей колькасцю ў 80 чалавек, правесці ваду ды каналізацыю, забяспечыць харчаваннем. І ўсё гэта ў вельмі кароткія тэрміны. Дастаткова сказаць, што дзеля правядзення гэтых работ неабходна было атрымаць дазвол ад такіх арганізацый, як Мінскводаканал, ГалоўАПУ, пажарная бяспека, харчгандаль і інш. А за спазненне на кожныя суткі парк павінен быў выплаціць штраф у тысячу рублёў.

І пайшоў калектыў парку па дапамогу да Чэслава Нікадзімавіча. Вядома, Муліца абяцаў дапамагчы, але ягоны стыль кіраўніцтва яшчэ больш расквітнеў на пасадзе намесніка старшыні ўпраўлення культуры гарвыканкома. Абяцанняў шмат, а справы — ніякай... І давялося калектыву бегаць па ўсіх інстанцыях гарвыканкома. Вынікі? Самыя адмоўныя. Так, Мінскводаканал паведаміў, што не згодны на правядзенне водаправода па нейкай нязначнай прычыне. Намеснік старшыні па гандлю гарвыканкома заявіў, што хай чэхі снедаюць у рэстаране. А чэхі ж прыехалі з сем'ямі, у іх малыя дзеці. Карацей, стала відавочна, што парк чакае буйны штраф. Але тут аказалася, што адпачынак жыхароў г. Мінска хвалюе Заводскі райвыканком значна больш, чым упраўленне культуры гарвыканкома. За тыдзень райвыканком здолеў і трубы, і кабель пракласці, і харч арганізаваць. У выніку ўсяго ад «Месяца-парку» парк атрымаў прыбытак каля 130 тысяч рублёў, спазніўшыся толькі на чатыры дні.

Пасля гэтай, як і іншых спраў, сэнс заставацца пад апекай упраўлення культуры гарвыканкома і плаціць яму працэнты, страціўся канчаткова, і, відавочна, калектыў парку пачаў меркаваць аб пераходзе пад пратэктарат Заводскага райвыканкома, які на справе паказаў сваю заклапочанасць аб яго стане і які падтрымаў ініцыятыву калектыву. Нарэшце мары парку здзейсніліся. Выканаўчы камітэт гарвыканкома, разгледзеўшы ўсе акалічнасці, даў згоду аб перадачы парку з-пад юрысдыкцыі ўпраўлення культуры ў юрысдыкцыю райвыканкома. Але гэта рашэнне надта ж абурыла Чэслава Нікадзімавіча, які вырашыў змагацца з незалежнасцю пры дапамозе цэлага нашэсця правяраючых. І гэта нягледзячы на тое, што зусім нядаўна парк дасканала праверыла кантрольна-рэвізійнае ўпраўленне з Масквы. Муліца абвінаваціў парк у наступных грахах:

1. Чаму не скончана будаўніцтва аб'екта каапературам «Рост»?
2. Чаму на тэрыторыі парку пабудавана стаянка для машын?
3. Чаму без яго ведама ўзняліся цэны на атракцыёны?

На падставе гэтых фактаў можна было патрабаваць звальнення непаслухмянага дырэктара. Але пры бліжэйшым разглядзе гэтых пытанняў высвятляюцца факты, якія цалкам мяняюць паварот справы. Пачну з апошняга:

1. Чаму ўзнялі цэны, зразумела, бо цяпер яны павысіліся на ўсё, у тым ліку і на электраэнергію. І парк мае поўнае права на гэту акцыю, бо знаходзіцца на гаспадарчым разліку.

2. Наконт стаянкі для машын, то адбылося ўсё наадварот. Гарвыканком разам з ГалоўАПУ, без паведамлення дырэкцыі парку даў дазвол каапературам на будаўніцтва стаянкі, а паколькі парк юрыдычна падпарадкоўваўся гарвыканкому, то тады каму скардзіцца?

3. А факт з «Ростам» самы цікавы: у свой час сам Чэслаў Нікадзімавіч настояў на тым, каб парк заключыў кантракт з кааператывам «Рост» на будаўніцтва чытальні. Што ж, на першы погляд, прапанова слушная. Дырэктар заключае кантракт і выпісвае паперу, па якой кааператыў набывае цэглу і іншыя будматэрыялы па льготных цэнах. Але ў адзін цудоўны дзень з будпляцоўкі грузяць цэглу на машыну і вывозяць з парку. На пытанне «Куды?» каапературы адказалі: «Не ваша справа, цэгла куплена за наш кошт». Толькі яны забыліся дадаць, што па льготнай цане. Калі б не было паперы ад парку, яны б куплялі гэту цэглу па павышанай цане. Дырэкцыя разрывае кантракт з гэтым кааператывам.

Гэта ўсё Чэслаў Нікадзімавіч ведаў, але ён быў не ў курсе пра тое, што перад тым галоўны інжынер гэтага кааператыва пакінуў тлумачальную запіску, згодна з якой становіцца вядома, шо матэрыялы ўсё ж былі выкарыстаны:

1. Цэглы — 2,5 тыс. шт.
2. Цэменту — 1,0 т.
3. Слупоў металічных — 38 шт.
4. Сеткі «рабіца» — 300 м².

Работу на аб'екце выконвалі рабочыя кааператыва. Але разлік за выкананыя работы не рабіўся заказчыкам т. Муліцай (дак. ад 13.11.1990).

Відаць, пайшлі гэтыя матэрыялы камусьці на дачу...

Даведаемся мы і яшчэ пра цікавыя факты. Аказваецца, у гаражы парку да 10 мая 1991 г. стаяла ўласная машына Муліцы. Няхай так, усё роўна парк не меў сваіх машын, але былы дырэктар яшчэ ні капейкі не плаціў за арэнду. З часу свайго дырэктарства ён захапіў ключы ад гаража і так іх нікому і не аддаў. На гэты факт ёсць дакументы — пратакол абслугоўвання калектыву парку, а таксама рэгулярныя праверкі пажарнікаў. Усяго Чэслаў Нікадзімавіч павінен за гэта парку 700 рублёў.

Глядзім далей. Аказваецца, каб вырашаць свае пытанні, парк павінен быў плаціць свайму куратару толькі за тое, што той падпісваў неабходныя паперы. Вось толькі некаторыя прыклады:

1. Акт ад 4 мая 1990 г. № 11 — за красавік 1990 г. Муліцы — 100 руб.
2. Акт ад 7 верасня № 21 — за май—чэрвень 1990 г. Муліцы — 800 руб.

Дык вось чаму Чэслаў Нікадзімавіч так абурыўся, калі парк вырашыў адысці з-пад юрысдыкцыі гарвыканкома. Не пра інтарэсы культуры ён так клапаціўся, а пра свае ўласныя, бо з-пад яго апекі ўплывала яшчэ адна «кармушка».

І гэта толькі па аднаму парку, але ж гэты чалавек курыруе культуру ўсяго нашага горада, а раз-пораз выходзіць і на рэспубліканскі ўзровень.

Гэтыя ўсе дакументы, факты і матэрыялы мы сабралі, шаноўныя чытачы, не дзеля таго, каб абурыць ці заінтрыгаваць імі вас. Зусім не. Проста наша ранейшае жыццё было настолькі абязлічаным, што ва ўсіх бедах мы шукалі перш-наперш нейкія аб'ектыўныя прычыны, забываючы, што на дзяржаўных пасадах могуць сядзець далёка не анёлы. Асабліва гэта датычыць нашай культуры, на якую звярталі (ды і звяртаем) вельмі мала ўвагі.

**Алесь ШАВЕЛЬ,**
**старшыня гісторыка-патрыятычнага аб'яднання «Чырвоны Жонд».**



# ЗА СЦЕНАМІ "САКРЭТНАГА" ЦК

**Я раскажу вам показку. Аднаго разу прыходзіць Чукоўскі да У. І. Леніна і кажа: «Уладзімір Ільіч, я паэму напісаў, «Муха-Цакатуха» называецца, для дзяцей». «Ну, чытайце», — адказаў Ільіч.**

**Муха, Муха, Цокотуха,**
**Позолоченное брюхо!**
**Муха по полю пошла,**
**Муха денежку нашла.**

**Пошла Муха на базар...**

**«Як на базар! Там жа спекуляцыя! Забараніць!» — усхваляваўся Ленін.**

**Мінуў час. Чукоўскі прыйшоў з той жа паэмай да Сталіна. «Лепшы сябра дзяцей» згадзіўся яго выслухаць. Чукоўскі пачаў:**

**Муха, Муха, Цокотуха,**
**Позолоченное брюхо!**
**Муха по полю пошла,**
**Муха денежку нашла...**

**«Як так! Савецкія грошы па палях раскіданы! Забараніць!»**

**Настойлівы паэт не спыніўся і звярнуўся да Хрушчова:**

**Муха, Муха, Цокотуха,**
**Позолоченное брюхо!**
**Муха по полю пошла...**

**«Што гэта ў вас мухі па палях ходзяць! Яны ж мне ўсю кукурузу патопчуць! Нельга так, шаноўны!»**

**У гады застою неўтаймоўны паэт звярнуўся да Брэжнева:**

**Муха, Муха, Цокотуха,**
**Позолоченное брюхо...**

**«Што гэта за культ мухі! — не згадзіўся Ільіч II. — У мяне яшчэ не ўсе грудзі ў золаце, а ў яе ўжо і бруха!! Забараніць!»**

**Але на гэтым рана ставіць кропку. Прыходзіць Чукоўскі да Андропава. Той, сам будучы паэтам, таксама згадзіўся выслухаць свайго калегу. На гэты раз размова была кароткай.**

**Муха, Муха, Цокотуха...**

**«Што-што там пра ЦК!» — насупіўся Юрый Уладзіміравіч...**

***

Цяпер ніхто такіх пытанняў задаваць не будзе. Таму і ўзялі мы слова «сакрэтных» у двукоссе, што сакрэтаў там не засталося. Як не засталося і самага галоўнага ЦК...

I

«За сценамі сакрэтнага ЦК...» Спачатку пра самі сцены. Звернемся ў акадэмічны «Збор помнікаў гісторыі і культуры Беларусі». Артыкулы пра сялібы ЦК КПБ і ЦК ЛКСМБ стаяць там побач, як і самі гэтыя будынкі.

«Будынак ЦК КПБ. Дом № 38. Будаваўся з цэглы ў 1939—41 гг., завершаны ў 1947 г. Архітэктары — А. Воінаў, У. Вараксін.

Цэнтральны аб'ём займае квартал паміж вуліцамі Энгельса і Чырвонаармейскай. Аднесены ад «чырвонай лініі» на 40 м у глыбіню квартала, што дало магчымасць арганізаваць перад ім зялёны партэр... Абліцоўка цокаля чырвоным гранітам і апрацоўка ўсяго збудавання ў светлых танах узмацняюць уражанне манументальнасці і параднасці.

Вялікая ўвага нададзена арганізацыі ўнутранай прасторы. Цэнтральная частка цокальнага паверха занята вестыбюлем з гардэробам. У цокальным паверсе знаходзяцца бібліятэка, АТС, друкарня, сталовая з дапаможнымі памяшканнямі. З вестыбюля дзве бакавыя лесвіцы вядуць на першы паверх: на галоўнай восі размешчаны фае і вынесеная ў прыбудову двухсветлавая зала пасяджэнняў на 350 месцаў. На пяці паверхах уздоўж светлавога калідора знаходзяцца рабочыя кабінеты. Сувязь паміж паверхамі ажыццяўляецца па дзвюх двухмаршавых лесвіцах і ліфтах.

Цікава выкананы інтэр'ер залы пасяджэнняў. Сцены, афарбаваныя пад штучны мармур, вохрыста-карычневага тону, ляпная столь, драўляныя разныя дзверы, лаканічнасць мастацкіх сродкаў — усё гэта надае памяшканню своеасаблівую мастацкую выразнасць. У афармленні залы прымаў удзел скульптар А. Бембель. Ён выканаў ляпную кампазіцыю партала сцэны з выявай У. І. Леніна. Ва ўнутранай апрацоўцы памяшканняў выкарыстаны паркет, мармур, тынкоўка. Памяшканні пятага паверха маюць ляпную столь... Будынак ЦК КПБ — прыклад савецкай грамадскай архітэктуры».

Раней мала хто з журналістаў, акрамя рэдактараў, спадобіўся пабачыць усю гэтую прыгажосць. Цяпер жа, пабываўшы там, скажу: працаваць там можна. Праўда, няма ў будынку ні золата, ні слановай косці, але зроблена усё, каб эліта партыйнага апарату адчувала сябе няблага. Зноў жа, у офісе сярэдняй заходняй фірмы можна ўбачыць і не такое, але на ўзроўні нашай краіны...

Як вы ведаеце, будынак апячатаны. Пра гэта паведамляе і абвестка на дзвярах. Два старшыны міліцыі, якія ахоўваюць ЦК (можна лепей сказаць — былое ЦК?), сцвярджаюць: ніхто з былых цэкістаў у памяшканні не працуе, толькі бухгалтэрыя налічвае і выдае зарплату. Што ж, апаратчыкі таксама людзі, ім таксама есці хочацца.

Але ж людзі працягваюць паломніцтва ў былую «святыню». Нядаўна прыходзіла бабулька і прасіла прапусціць яе... да Слюнькова! Даведаўшыся, што ні яго, ні ягонай партыі тут ужо няма, страшэнна здзівілася: дык мы ж, кажа, у Савецкім Саюзе жывём! Дзе ж растлумачыш старой, што Саюза і таго ўжо няма...

У кабінетах адносны парадак. У нас работнікам ЦК не прыйшлося на працягу гадзіны «збіраць манаткі» і ісці праз раз'юшаны натоўп, як гэта было ў Маскве. Камісія, створаная Вярхоўным Саветам, павінна будзе перагарнуць дзесяткі тон паперы — пастановы, перапіску, іншую службовую дакументацыю, каб высветліць урэшце, якія сакрэты былі ў ЦК. Скажам толькі, што і ў гэтым свяцілішчы было сваё свяцілішча, хорам у хораме — спецразмеркавальнік, які падпарадкоўваўся галоўнаму Архангелу пры Госпаду Богу — кіраўніцтву справамі ЦК. Праўда, асартымент таго спецразмеркавальніка бяднейшы за асартымент дробнай такійскай крамы, але ж, але ж...

Архітэктурныя сакрэты будынка, накшталт бункераў, бамбасховішчаў, падземных ходаў і іншага яшчэ чакаюць сваіх археолагаў. Відавочна, што «касцякоў у ланцугах» яны там не знойдуць, але ўнясуць пэўную яснасць у пытанне аб тым, які ён — падмурак улады. А ўлада ў гэтым будынку была сканцэнтравана амаль бязмежная...

Мы не ставілі сваёй задачай высвятляць, хто забыў пантофлі пад сталом аднаго з кабінетаў. Гэта цікавае толькі, што ў таго, хто іх насіў, або няма праблем з абуткам, альбо ён спадзяецца вярнуцца ў свой кабінет...

Што ж датычыць архіваў, вазьму на сябе адказнасць сцвярджаць, што ніякіх асаблівых сакрэтаў у іх не знойдзецца. Тым больш такіх, якія трэба вывозіць на шматтонных грузавіках, як кажа аб гэтым агенцтва АБС (адна бабулька сказала). Усе дакументы, што датычаць путчу і зносін ЦК КПБ і ГКЧП, калі яны былі, на мой погляд, можна памясціць у адну папку і вынесці. Але, як сведчыць гісторыя, у такіх выпадках экс-кіраўнікі часцей за ўсё ратуюць ад чужога вока схаваныя ад жонак у службовых сейфах лісты палюбоўніц.

II

...Дарогу ў ЦК ЛКСМБ журналісты маладзёжных газет ведаюць лепш. Якога колеру дыван у кабінеце першага сакратара, мы таксама ведаем. Але гэтага сакрэту не адкрыем, бо раптам ён будзе падыходзіць па колеру да штаб-кватэры якога-небудзь «абаронцы дэмакратыі»...

Незд'емнай часткай ЦК ЛКСМБ з'яўляюцца вахцёры. У даперабудовачныя часы яны пільна сачылі за кожным з наведвальнікаў, цяпер жа столькі рознага народу ходзіць — у джынсах, у спартыўных касцюмах, а часам нават і ў шортах — што «ветэраны камсамола», якія сядзяць на вахце, ужо ні на каго не звяртаюць увагі, «не пушчаюць» у будынак толькі ў абедзены час. Яны статысты, брамнікі арганізацыі, членскі білет якой мелі 99 працэнтаў беларусаў. Ім ёсць што ўзгадаць. Пажылая жанчына, з якой я неяк гутарыў, успамінала, як у пачатку 50-х справаводства камсамола пераводзілі з беларускай на рускую мову... Але ў гэтым няма сакрэту, як няма пад Цэнтральным Камітэтам ні скляпенняў, ні бункераў...

Наогул хочацца сказаць, што кожны райком, кожны гарком — гэта ЦК у мініяцюры. Усё тое ж — толькі рангам ніжэй ды памерам менш. Звернемся зноў да «Збору помнікаў гісторыі і культуры Беларусі»: «Будынак ЦК ЛКСМБ. Дом № 40. На рагу вуліц К. Маркса і Чырвонаармейскай. Пабудаваны ў 1953 годзе з цэглы. Архітэктар Г. Заборскі.

Чатырохпавярховы Г-падобны будынак. Кампазіцыйным цэнтрам з'яўляецца галоўны ўваход у скошанай вуглавой частцы, падкрэсленай дзвюма калонамі. Сцены дэкарываваны рустам, ляпным беларускім арнаментам і завершаны складаным карнізам, збоку дваровага фасада выступае гранёны аб'ём актавай залы.

Будынак — прыклад савецкай архітэктуры з творчым выкарыстаннем класічнай спадчыны».

Згадзіцеся, раней тут таксама быў адзін з калідораў улады. Праўда, не такі шырокі, як у суседнім будынку. Цяпер жа ў пакоях ЦК сядзяць каля 30 адказных і столькі ж «безадказных» супрацоўнікаў. Кабінет першага — не вельмі вялікі, я б сказаў звычайны. Іншыя ж кабінеты нагадваюць штабы пад час правядзення вайсковай кампаніі. У іх часам сядзіць па чатыры-пяць чалавек, а калі палічыць наведвальнікаў, якія не страшацца ардэнаносных дзядоў на вахце, у гэтых кабінетах проста не павярнуцца. Тым, хто сядзіць за дзвярамі гэтых кабінетаў, не да сакрэтаў. Некалькі дзён таму галоўны штаб ЦК — агульны аддзел — быў апячатаны. Скажам шчыра, панічнага настрою сярод супрацоўнікаў ЦК не было. Пацукоў на караблі не выявілася: усе засталіся на рабочых месцах. Цяпер пячаці зняты, дзейнасць камсамола працягваецца, бо Вярхоўны Савет здолеў нарэшце зразумець, што толькі дурань будзе займацца зараз палітыкай. «Карты баявых дзеянняў» у штабе камсамола цяпер носяць выключна эканамічны, сацыяльны характар. А «баявыя данясенні» застануцца сапраўды баявымі. Як і ва ўсіх цывілізаваных краінах, моладзь будзе змагацца за свае правы.

А ўсё ж такі, што за людзі сядзяць за сценамі сакрэтнага ЦК? Кар'ерысты, заклапочаныя толькі аб сваёй кішэні, ці маладыя хлопцы і дзяўчаты, якія пайшлі ў Цэкамол, жадаючы нешта зрушыць, вылезці з той багны, куды завяла рэспубліку 74 гады «строительство развитого социализма»? Хочацца верыць, што гэта менавіта так. Бо сістэмы, якая панавала столькі гадоў, няма. Сістэмы няма, а моладзь засталася. І ёй трэба неяк выжыць.

**Алесь ПАЛЫНСКІ.**

P. S. Усё ж такі, на якія пытанні жадае знайсці адказ грамадскасць у былых засакрэчаных архівах? Можа, на пытанне «ці быў Ленін агентам масонаў?» Альбо «ці з'яўляецца Кастрычніцкая рэвалюцыя вынікам помсты Ульянава-малодшага за Ульянава-старэйшага?» А магчыма, грамадскасць цікавяць пытанні: ці не з'яўляліся сталінскія лагеры палігонам для стварэння новага чалавека і ці не быў Сталін новым увасабленнем душы Навуходанасора? Здаецца, што камісія хутчэй за ўсё знойдзе там толькі сведчанні аб тым, колькі з'елі ікры і выпілі каньяку партыйныя дзеячы за сем з паловай дзесяцігоддзяў...



# Як зарабіць мільён?

**Мне — 21, яму — 23. У мяне ў заначцы пару тысяч, у яго — «Мерсэдэс», пашывачны цэх і нешта там яшчэ. Я таксама хачу мець тое, што ёсць у яго. Але як мне скрануцца з мёртвага пункту прывітага за столькі год непрыняцця прыватніцкіх настрояў, нявер'я ва ўласныя сілы і страху перад заўтрашнім днём! Падкажы, малады капіталіст Кірыл Дзмітрыеў.**

— Кірыл, што неабходна для таго, каб пераадолець пабудаваны камідэёлагамі бар'ер і распачаць уласную справу?

— Пустая кішэня і жаданне працаваць сёння ёсць шмат у каго. Але не заўжды справа атрымліваецца. Чаму?

— Значыцца, мазгоў мала. Альбо кампаньёны падвялі. Ці дзяржава падманула. Можна ўсё добра палічыць ды сапсуе справу дрэнна падабраны кампаньён. Палічыць яшчэ лепш, а цябе абдзярэ дзяржава. На перспектыву цяжка працаваць: абы хутчэй кішэню набіць.

— Як ты зразумеў, што табе трэба займацца прадпрымальніцтвам?

— А як ты зразумеў, што табе трэба займацца журналістыкай?

— Але ж без эканамічнай адукацыі, напэўна цяжка?

— Нашы універсітэты ўсё роўна нічога карыснага не дадуць. Патрэбны вопыт і інтуіцыя, падобная да прыроджанага пачуцця гумару.

— Але ж упэўненасць у наступным дні таксама павінна быць, як лічыш?

— Бардак у нашай краіне будзе працягвацца яшчэ прыблізна 10 — 15 год. Трэба разняволіць спачатку свядомасць людзей, іх розум. Свабодная эканоміка немагчыма без свабодных людзей.

— А ў цябе гэта ўпэўненасць была?

— Канешне, не. Але я ўжо перагарэў, не баюся.

— Што вы збіраліся рабіць, калі даведаліся пра ваенны пераварот?

— Зліваацца з ценявой эканомікай. Дайшло нават да таго, што збіраліся развозіць па кватэрах сыравіну, хаваць станкі. Але хутчэй за ўсё лёгкім пярэпалахам, калі б перамаглі путчысты, мы б не абышліся.

— Што б ты параіў тым людзям, якія хочуць зарабіць мільён? З чаго пачаць?

— А навошта ён патрэбны, мільён?

...?!

— Калі ў цябе ёсць машына, кватэра, дача, жонка, сабака і грошы, то колькасць іх страчвае сваю каштоўнасць.

— Мо гэтыя грошы патрэбны, каб расшыраць вытворчасць?

— Гэта не галоўнае. Потым, калі ўсё ёсць, грошы як такія не патрэбныя. Усе жаданні задаволены. Атрымліваеш задавальненне толькі ад самога працэсу працы.

— Тады перафразую пытанне: з чаго пачынаць таму, хто жадае распачаць сваю справу?

— З рэгістрацыі. Гэта, канешне, жарт. Спачатку чалавек павінен канкрэтна зразумець, што ж ён хоча рабіць, усё палічыць. Прафесіянальна падрыхтавацца і, лепш за ўсё, папрацаваць у якой-небудзь фірме, каб увайсці ў курс справы.

— Цябе не турбуюць «квадратныя» хлопцы?

— Ніхто не жадае крыміналу. Акрамя таго, Мінск не такі вялікі горад і ўсе прадпрымальнікі ведаюць адзін аднаго. Калі і патурбуюць, то толькі заезджыя «гастралёры».

— А калі я не ўваходжу ў кола, дзе «ўсе ведаюць адзін аднаго» і распачынаю сваю справу, чым для мяне гэта можа скончыцца?

— Наш рынак — гэта бездань. Справы хопіць кожнаму, аб вялікай канкурэнцыі гаварыць проста смешна. Тым больш, што палова пачынаючых прадпрымальнікаў існуюць у асноўным на падмане і абяцанках. Зрабі справу, зарабі грошы, тады да цябе будуць ставіцца з павагай. А так...

— Як ты лічыш, што неабходна зрабіць рэспубліцы, каб пачаць жыць хоць крыху лепш?

— Беларусь знаходзіцца на шляху з Захаду на Усход. Пры жаданні мы маглі б стаць багацейшай краінай Еўропы. Для гэтага неабходны толькі разумныя людзі ў кіраўніцтве рэспублікі і ў бізнесе. Дайце нам магчымасць свабодна і спакойна працаваць.

— А ты ўпэўнены, што калі пачнецца прыватызацыя, людзі пажадаюць выкупляць дзяржаўную маёмасць ва ўласнае карыстанне?

— Прасцей трэба ставіцца да ўсяго гэтага. Вы прыміце добры закон, а гаспадары на зямлю альбо на вольнае памяшканне заўжды знойдуцца. Я схільны думаць, што ў вялізным Саюзе карэнныя змены правесці амаль немагчыма. У кожнага народа свае жаданні і імкненні, свае ідэалы. Таму спачатку трэба разабрацца кожнаму ў сваёй кватэры. І я прапаную зрабіць вольныя цэны, але кампенсаваць гэта, аддаўшы людзям ва ўласнасць кватэры, раздаць па дваццаць сотак зямлі.

— Значыць ты за выхад Беларусі з Саюза?

— Я супраць развалу эканамічнага саюза. Калі тыя эканамічныя сувязі, што існуюць сёння, будуць разарваны, гэта будзе намнога страшней, чым грамадзянская вайна. У такім выпадку адзіны каардынуючы цэнтр проста неабходны. Магчыма, толькі на пачатку — свабодная эканоміка расставіць усё па сваіх месцах.

**Матэрыялы паласы падрыхтаваў аглядальнік «ЧЗ» па пытаннях эканомікі Зміцер ЛУКАШУК.**

**Фота С. Брушко.**




# Для тых, хто стварае МП

**САЮЗ**

— Пастанова СМ СССР «Аб мерах па стварэнню і развіццю малых прадпрыемстваў», 08. 07. 90 г.

— «Асновы заканадаўства Саюза ССР і саюзных рэспублік аб арэндзе», 21. 11. 89 г.

— Указ Прэзідэнта СССР «Аб увядзенні камерцыйнага курсу рубля да замежных валют і мерах па стварэнню агульнасаюзнага валютнага рынку», 26. 10. 90 г.

— Пастанова СМ СССР «Аб узаемаадносінах дзяржаўных прадпрыемстваў са створанымі пры іх кааператывамі», 2. 11. 90 г.

— Пастанова СМ СССР «Аб фарміраванні валютных фондаў 1991 г.», 7. 12. 90 г.

— «Асновы заканадаўства аб інвестыцыйнай дзейнасці ў СССР», 10. 12. 90 г.

— Указы Прэзідэнта СССР «Аб стварэнні ў 1991 годзе пазабюджэтных фондаў стабілізацыі эканомікі», «Аб увядзенні падатку з продажу», 29. 12. 90 г.

— Закон СССР «Аб прадпрыемствах у СССР», 4. 06. 90 г.

— Закон СССР «Аб агульных асновах мясцовага самакіравання і мясцовай гаспадаркі ў СССР», 9. 04. 90 г.

— «Асновы заканадаўства Саюза ССР і рэспублік аб занятасці насельніцтва», 15. 01. 91 г.

— Закон СССР «Аб маёмасці ў СССР», 6. 03. 91 г.

— Закон СССР «Аб падатках з прадпрыемстваў, аб'яднанняў, арганізацый», 14.06.90 г.

— Закон СССР «Аб валютным рэгуляванні», 1.03.91 г.

— Закон СССР «Аб мытным тарыфе», 26.03.91 г.

— Пастанова СМ СССР «Аб устанаўленні каэфіцыента росту выдаткаў на аплату працы па галінах народнай гаспадаркі, прамысловасці (відах асноўнай дзейнасці) на 1991 г.» 18.12.90 г.

— Указ Прэзідэнта СССР «Аб рэформе рознічных цэн і сацыяльнай абароне насельніцтва», 19.03.91 г.

— Указ Прэзідэнта СССР «Аб увядзенні часовага парадку збірання падаткаў з прадпрыемстваў, аб'яднанняў, арганізацый і грамадзян», 22.03.91 г.

— Закон СССР «Аб агульных асновах прадпрымальніцтва грамадзян у СССР», 2.04.91 г.

— Закон СССР «Асновы заканадаўства аб замежных інвестыях у СССР», 5.07.91 г.

— Закон СССР «Аб гандлёвых знаках і знаках абслугоўвання», 3.07.91 г.

— Закон СССР «Аб абмежаванні манапалісцкай дзейнасці ў СССР», 10.07.91 г.

— Закон СССР «Аб парадку вырашэння працоўных спрэчак», 11.05.91 г.

— «Асновы грамадскага заканадаўства Саюза ССР і рэспублік», 31.05.91 г.

— Закон СССР «Аб парадку вывазу, перасылкі і выпатрабавання асабістых дакументаў савецкіх і замежных грамадзян і асоб без грамадзянства з СССР за мяжу», 24.06.91 г.

**БССР**

— Пастанова СМ БССР «Аб парадку вывазу (адпраўка) тавару і іншых матэрыяльных каштоўнасцей за межы БССР», 6.11.90 г.

— Закон БССР «Аб індэксацыі прыбыткаў насельніцтва з улікам інфляцыі», 21.12.90 г.

— Закон БССР «Аб арэндзе», 12.12.90 г.

— Закон БССР «Аб маёмасці ў Беларускай ССР», 11.12.90 г.

— Закон БССР «Аб прадпрыемствах у Беларускай ССР», 14.12.90 г.

— «Кодэкс Беларускай ССР аб зямлі», 11.12.90 г.

— Закон БССР «Аб мясцовым самакіраванні і мясцовай гаспадарцы ў БССР», 2.02.91 г.

— Пастанова ВС БССР «Аб парадку прымянення на тэрыторыі Беларускай ССР у 1991 г. Закона СССР «Аб падатках з прадпрыемстваў, аб'яднанняў і арганізацый», 13.02.91 г.

— Закон БССР «Аб Нацыянальным банку Беларускай ССР», 21.12.90 г.

— Закон БССР «Аб банках і банкаўскай дзейнасці ў Беларускай ССР», 14.12.90 г.

— Закон БССР «Аб інвестыцыйнай дзейнасці ў Беларускай ССР», 29.05.91 г.

— Закон БССР «Аб прадпрымальніцтве ў Беларускай ССР», 28.05.91 г.

— Закон БССР «Аб эканамічнай неплацежаздольнасці і банкруцтве», 30.05.91 г.

— Закон БССР «Аб знешнеэканамічнай дзейнасці Беларускай ССР», 25.10.90 г.

— Пастанова СМ БССР «Аб малых прадпрыемствах у Беларускай ССР», 20.05.91 г.









# Паклапаціліся студэнты

Вельмі дарэчы прыйшлася 3-й дзіцячай бальніцы Мінска дапамога байцоў студэнцкага атрада «Пралеска». У час адпачынкаў персаналу не хапала, а маленькім пацыентам, як і ў любую іншую пару года, патрабавалася не толькі спецыялізаваная дапамога, але і клопат.

У сваю чаргу і будучым медыкам (а менавіта яны ўваходзяць у састаў атрада) нядрэнна падмацаваць практыкай атрыманыя ў час заняткаў веды, акунуцца ў праблемы і клопаты лячэбнай установы. Ды і зарабіць да стыпендыі зарплату медсястры (менавіта на такія пасады была залічана большасць членаў атрада) аказалася нялішнім.

«Пралеска» — гэта дваццаць восем студэнтаў педыятрычнага факультэта Мінскага медыцынскага інстытута. Будучыя ўрачы выконвалі абавязкі паставых сясцёр: раздавалі лякарствы, рабілі малым ін'екцыі, праводзілі больш складаныя медыцынскія маніпуляцыі. А заадно прыбіралі памяшканні, кармілі, купалі, даглядалі сваіх пацыентаў. Бо іх падапечныя такія маленькія і бездапаможныя, што без цёплых клапатлівых рук ім не абысціся.

НА ЗДЫМКАХ:

● Алег КУЛЬБАЦКІ са сваімі падапечнымі.

● Першакурсніца Вольга МАЗАНІК раздае малым малочную сумесь.

● У рэанімацыйным аддзяленні. Дзмітрый КОЗІЧ дзяжурыць ля цяжкахворага дзіцяці.

● Члены атрада «Пралеска» Мінскага медінстытута (злева направа) Алег КУЛЬБАЦКІ, Вольга ЧАПУРКІНА, Дзмітрый ПЛАКСА, Алена КАПОШЫНА, Ала САМСОН і Юрый ДАНОВІЧ.

Фота Уладзіміра ВІТЧАНКІ.
(БЕЛТА).



# З дачкою незабыўнага Рушчыца

Фердынанд Рушчыц... Выдатны мастак, пейзажыст, дэкаратар, графік, майстра ксіаграфіі і лінагравюры. Каларыст, які тонка адчуваў і разумеў рэчаіснасць, эмацыянальныя пейзажы якога заўсёды заключалі сімвалічны сэнс. Мала хто з людзей, не звязаных з мастацтвам, знаёмы з творчасцю гэтага жывапісца, ураджэнца Беларусі, патрыёта роднай зямлі, «тутэйшага» па светаўспрыманню, па адчуванню беларускага асяроддзя. Толькі ранняя карціна «Ля касцёла» (Беларускі дзяржаўны музей БССР) сучасным беларусам можа нагадаць, што такі мастак існаваў... Гульня лёсу, які раз'яднаў Беларусь і Рушчыца, зрабіла яго ў нашым уяўленні чужынцам, палякам, які пасля Брэсцкага міру «афіцыйна» апынуўся за мяжой. Але гісторыя яго жыцця паведамляе пра сумленнага беларуса, выдатнага знаўцу старажытных камяніц, які быў старшынёй таварыства па ахове помнікаў гісторыі і пакінуў цікавыя творы, адначасова простыя і адначасова велічныя.



І вось да нас, па запрашэнню Суполкі «Пагоня» Саюза мастакоў БССР, з Варшавы, на цэлы тыдзень завітала спадарыня Барбара Рушчыц — дачка Фердынанда Рушчыца. Спадарыня Рушчыц па прафесіі археолаг-егіптолаг, кожны год выязджала на раскопкі ў Егіпет, Судан. Але на сваёй радзіме не была паўстагоддзя.

У праграму візіту Барбары Рушчыц уваходзіла экскурсія па Мінску, знаёмства са старым Мінскам, фальклорнае свята «Юр'е» на Белай дачы, наведанне вёскі Багданава Валожынскага раёна Мінскай вобласці, дзе жыла сям'я Рушчыцаў, і яе ваколіц, Вільні, а таксама падарожжа па гістарычных цэнтрах Беларусі: Заслаўі, Міры і Нясвіжы.

У падарожжа ў Мір і Нясвіж з Барбарай Рушчыц адправіліся мастакі Суполкі «Пагоня» А. Марачкін, Я. Кулік, У. Сулкоўскі, для якіх Рушчыц стаў некалі светачам у сусвеце мастацтва, адным з духоўных настаўнікаў.

У самым пачатку паездкі, у час шчырай размовы, спадарыня Барбара сказала, што яе дзіцячыя ўспаміны Багданава па-ранейшаму яркія. Яна памятае свайго бацьку дзесяцігадовай дзяўчынкай, калі яму было 64 гады. Памятае, як ён узнавіў у Багданаве на вербную нядзелю т. зв. «пальмачку», калі на маладую галінку чаплялі кветачкі і стужачкі. Пры наведванні роднай хаты Барбара Рушчыц адразу знайшла пагорак з адвечнымі хмарамі, што на пейзажы «Зямля», «старыя яблыні», успомніла касцёл каля Вішнева («Ля касцёла»). А з размовы мастакоў можна было даведацца, што яшчэ пасля вайны па хатах, у Багданаве, было шмат малюнкаў Фердынанда Рушчыца. У аднаго дзеда засталася нават шафа з дома Рушчыцаў. Але дзе тое ўсё цяпер? Вечныя пытанні, вечныя нявырашаныя праблемы. Што ўжо казаць пра «забытага» намі на пэўны час Рушчыца, калі дом Дуніна-Марцінкевіча неміласэрна разбураны, і засталася толькі загароджаная плацінай рачулка. Шлях бег з імпэтам па пагорках, і дзеля яго таксама, не думаючы пра нашчадкаў і спадчыну, пілавалі старыя, шматвяковыя дрэвы, пакінутыя рамантычнымі і ўзвышанымі пэндзлямі мастакоў. І на гэтым сумным фоне ўсё больш жывымі і светлымі станавіліся ўспаміны пра вядомага жывапісца, пра івянецкі і віленскі перыяд жыцця, калі Рушчыц працаваў загадчыкам кафедры жывапісу ў Віленскім універсітэце, пра яго чулыя адносіны да таленавітай моладзі. Пётра Сергіевіч, карціны якога ўпадабаў Рушчыц, атрымаў ад яго злоты за адну з «купленых» работ.

Праехалі Івянец, успомнілі добрым словам нябожчыка Апалінарыя Пупко, вядомага рэзчыка па дрэве. У Міры спадарыня Барбара наведала вучылішча мастацка-рэстаўрацыйных работ, а потым з прыемнай апантанасцю выбірала цікавыя кропкі для здымак мураваных вежаў, і хацелася верыць, што мы яшчэ пры гэтым жыцці ўбачым аднаўлены замак, асвечаны паходняй гісторыі.

Незвычайна прыемна было суправаджаць Барбару Рушчыц у гэтым падарожжы, бо ў вачах яе жыла ўдзячная радасць і гонар ад усведамлення сваёй прыналежнасці да Беларусі. У Нясвіжы мы прыпыніліся на месцы, дзе раней знаходзілася Нясвіжская семінарыя, убачылі рэстаўрацыю «былога жылога дома», углядзеліся ў прыгожую цемень фрэсак Фарнага касцёла Дамініка Бернандоні, цёзку Іль Джэзу ў Рыме, і пешку крочылі да Нясвіжскага замкава-паркавага комплексу. Галоўны ўрач цяперашняга санаторыя дазволіў, з нагоды прыезду мастакоў і спадарыні Рушчыц, падняцца па мармуровай лесвіцы ў Камінную залу, аздобленую старажытнай разьбой нясвіжскіх майстроў і карычневай кафляй з выціснутымі на ёй рамонкамі. Далей абышлі палац знадворку, углядаліся праз маладое лісце хмызняку ў высокія дрэвы парку Альба на другім беразе Нёмана, у роў з сінім адлюстраваннем нябёсаў, слухалі гістарычныя апавяданні Куліка і легенды пра Нясвіж Марачкіна.

Апошняй са спадарыняй Барбарай развіталася купка старасвецкіх таполяў, якія яшчэ працягвалі заставацца алеяй насуперак сучаснай шашы.

Завяршальным і самым запамінальным момантам у сустрэчы са спадарыняй Барбарай Рушчыц стала вечарына, прысвечаная Фердынанду Рушчыцу, якая адбылася ў Доме літаратара. У Камінай зале сабраліся мастацтвазнаўцы, мастакі, крытыкі, прадстаўнікі прэсы, студэнты БГТМІ, фальклорная суполка «Ліцвіны». Сярод іх дактары мастацтвазнаўчых навук Дробаў Л. Н. і Шматаў Б. Р., кандыдат мастацтвазнаўчых навук М. Раманюк, сябры творчай Суполкі «Пагоня» М. Купава, Я. Кулік, старшыня Беларускай Грамады Фэлікс Янушкевіч і іншыя. Вядучыя, мастацтвазнаўцы Яўген Шунейка і Таццяна Гаранская кіравалі ходам выступленняў.

Пачаў вечарыну загадчык кафедры тэорыі і гісторыі мастацтва М. Раманюк. Ён адзначыў, што Рушчыц быў аўтарам першага беларускага плаката. У сваіх гравюрах і ілюстрацыях ён шырока выкарыстоўваў беларускі народны арнамент, матывы слуцкіх паясоў у жывапісных работах.

Цікавай і насычанай была прамова аўтара першага агульнага даследавання жывапісу Беларусі XIX — пачатку XX стст. Дробава Л. Н.

Увогуле вечарына адрознівалася ад усялякіх афіцыйных мерапрыемстваў, дзе ўсё строга і прадумана і рэгламентавана, а на душы ў прысутных халодна і пуста. Часта ігралі скрыпкі, ірвалі сэрца няспешныя беларускія песні. І думалася пра абкрадзеных няведаннем роднай гісторыі, роднай культуры беларусаў, бо настальгія па забытых, неданесеных раней да душы скарбах мастацтва, гучала і ў скрыпках, і ў словах прамоўцаў. А можа, прыезд спадарыні Рушчыц стане нарэшце той выратавальнай галінкай, якая дапаможа вярнуць на ранейшае месца цэлы гістарычны пласт, звязаны з імем яе бацькі.

На захадзе сонца, у маленькім дворыку Дома літаратара, быў зроблены «здымак на памяць», які праз колькі год верне памяць кожнага да гэтай незвычайнай падзеі.

Пасля вяртання ва ўтульную атмасферу залы новыя факты пра Рушчыца паведаміў крытык Г. Сакалоў-Кубай. Ён расказаў пра ліст ад чалавека, які хлопцам быў паштаношай у Багданаве, а яго бацька працаваў на млыне, добра знаёмым па пейзажу «Млын». Гэты чалавек добра памятаў Рушчыца, яго маляванне з натуры, яго ветласць і добразычлівасць, яго шыкоўную беларускую мову на фоне навакольнай трасянкі. З гэтай крыніцы можна таксама даведацца, што Фердынанд Рушчыц меў знаёмства з Францішкам Багушэвічам.

Нарэшце з адказным словам удзячнасці выступіла спадарыня Барбара. Яна вельмі стамілася за гэты нялёгкі час успамінаў і перажыванняў і прасіла дазволу адказваць на пытанні папольску. Прысутным адкрываліся новыя старонкі біяграфіі мастака і яго сям'і. Напрыклад, у сям'і Рушчыцаў было 6 дзяцей, а зараз у Варшаве жыве яго малодшы сын, які назваў свайго сына ў гонар дзеда Фердынандам.

На заканчэнне мастак М. Купава падарыў спадарыне Рушчыц сваю паштоўку з гербам «Пагоня», маючы на ўвазе, што адраджэнне імя Фердынанда Рушчыца, як і адраджэнне Беларусі, сімвалічна адбываецца пад знакам гістарычна неўміручай «Пагоні». Т. Гаранская паднесла дачцэ славутага мастака, у выглядзе такога ж сімвалічнага падарунка, беларускі абрус.

Вечарына скончылася развітаннем з Барбарай Рушчыц, аўтографамі на акварэльным партрэце Ф. Рушчыца, пажаданнем новай хуткай сустрэчы.

Вечарына ўразіла, як можа ўразіць твар шчаслівага чалавека, і надала ўпэўненасці мастакам у вырашэнні пытанняў па захаванню сваёй спадчыны. Застаўшыся сам-насам за кубкам гарбаты, яны вырашылі арганізаваць творчую экспедыцыю ад Саюза мастакоў у Багданава, дзе даволі складаная сітуацыя: 6 гадоў назад старшыня саўгаса загадаў разабраць на дровы касцёл і гэтымі дровамі 2 разы прапалілі лазню. Трэба спяшацца з музеем на радзіме Рушчыца, каб не страціць рэшткі пакінутага часам мастацкага скарбу. Былі меркаванні, што патрэбна экспедыцыя, і каб больш уважліва ўгледзецца ў абрысы беззабаронных храмаў, замкаў, палацаў,

Другой часткай праграмы па выратаванню спадчыны Рушчыца называлі выданне на Беларусі і ў Польшчы дзённікаў мастака, захаваных спадарыняй Барбарай, і арганізацыя выставы твораў мастака ў Вільні, Віцебску, Мінску. Гэта будуць важныя, патрэбныя крокі. А самае прыемнае, што не абарвалася повязь часоў, якая звязвае нас з мастаком, з яркім і чыстым талентам. З мастаком, які надаў сваёй творчасці лепшыя рысы дзвюх культур — беларускай і польскай, які без чыёй-небудзь дапамогі ўгледзеўся ў глыбіню вытокаў нашага ўзаемапранікнення, і адчуў радасць першаадкрывальніка ў пошуках этнаграфічнай і мастацкай блізкасці. Менавіта Фердынанд Рушчыц сваім талентам і сваім жыццём актуалізаваў праблему польска-беларускіх культурных сувязей. І, нарэшце, трэба і нам углядзецца ў далягляды, адкрытыя фарбамі мастака, адчуць нашу духоўную еднасць і дапамагчы адраджэнню спадчыны.

**К. МЯШКОВА.**

**НА ЗДЫМКАХ:** карціны Ф. Рушчыца «З берагоў Вілейкі» (1900 г.) і «Зімовая казка» (1904 г.).



# АДПАЧЫНАК НА ЗЯМЛІ ПРОДКАЎ



Бацькоўскі камітэт беларускамоўных класаў мінскіх школ быў адным з ініцыятараў адкрыцця ў Дзяржынскім раёне летніка "Грунвальд". Такую назву месца адпачынку падлеткаў атрымала невыпадкова. Яно напамінае аб адной са слаўных старонак гісторыі зямлі нашай, калі Вялікі князь Вітаўт разам з польскім каралём Ягайлам выйграў бітву ў крыжаносцаў Тэўтонскага ордэна. Сённяшні ж "Грунвальд" быў заклікаsuccessfully унесці свой уклад у адраджэнне беларускай мовы, нацыянальных традыцый.

...Прайшоўшы фарпост летніка, разам з беларускай тут можна было пачуць хуткую польскую мову. Тлумачылася ўсё проста: прыехала сюды адпачываць група дзяцей з Гданьска і Беластоку. Іх апякун Алена Глагоўская расказвае:

– У Польшчы жыве шмат беларусаў, якія калісьці аселі тут у пошуках работы. Але мы хочам і многае стараемся рабіць, каб дзеці нашы ведалі свае карані, не забывалі мову бацькоў і дзядоў, традыцыі сваёго народа. Цудоўную магчымасць зносін на беларускай мове дваццаць тры падлеткі з Польшчы атрымалі ў "Грунвальдзе".

Усяго ж у летніку адпачылі амаль 200 школьнікаў з розных гарадоў Беларусі, Масквы, Ленінграда і пасланцаў беларускіх культурных таварыстваў, якія дзейнічаюць за мяжой.

**НА ЗДЫМКАХ:**

1. На адсутнасць апетыту тут не скардзіліся.
2. Фалькларыст Алесь ЛОЗКА кіраваў у лагеры гуртком народных рамёстваў. Ён знаёміў рабят з мастацтвам пляцення з лазы.

**Я.БЫКОЎСКІ (Белта). Фота аўтара.**



*Наша кнігарня*

# МАСКОЎСКІЯ ДЫЯЛЕКТЫ




Здаецца, мінулі тыя часы, калі ў СССР рабілася ўсё магчымае, каб зніклі з ужытку ўсе мовы. Меркавалася стварыць адзіную савецкую мову. Існавала думка, што ў аснову савецкай мовы будзе пакладзена руская, але яна будзе істотна зменена. Аб народных гаворках сцвярджалася, што яны ўжо амаль зніклі, што захаваліся толькі дзе-нідзе ў "мядзведжых" кутках, напрыклад, сям-там на Палессі ў Беларусі, сям-там у Архангельскай вобласці ў Расіі і г.д. Лічылася, што на большай частцы тэрыторыі СССР ніякіх народных гаворак ужо не існуе, што некаторыя іх асаблівасці захаваліся толькі ў мове старых людзей, што моладзь ужо гаворыць на "чыстых" літаратурных мовах. Народныя гаворкі лічыліся перажыткам "праклятага мінулага". Меркавалася, што яны спрыяюць адасобленасці, індывідуалізму і гэтым самым з'яўляюцца тормазам для будаўніцтва светлай будучыні. Вядома, вучоныя даследавалі народныя гаворкі, але вымушаны былі неяк "выкручвацца". Афіцыйна "тлумачылі", што запісы робяць толькі ад найбольш старых людзей, што многія з іх ужо толькі часткова помняць сваю гаворку, аднак не карыстаюцца ёю. У афіцыйных колах была пашырана думка, што пры даследаванні народных гаворак можна ўстанавіць нейкія механізмы, дзякуючы якім можна будзе паскорыць знішчэнне жывой народнай мовы вёсак, мястэчак, невялікіх гарадоў.

І вось у такіх абставінах у 1969 г. маскоўскі навуковец Настасся Філімонаўна Іванова(яна ж Вайценка — гэта яе дзявочае прозвішча), выдала кнігу "Словарь говоров Подмосковья" на 598 старонках разглядаецца каля чатырох тысяч слоў, сабраных аўтарам). Гэта ў сталічнай вобласці Расіі, дзе, як многія лічылі, у той час ужо ніводнага дыялектнага слова выявіць было немагчыма.

А вось у 1991 годзе выйшла з друку другая буйная праца Настассі Філімонаўны Вайценка "Лексический атлас Московской области". У атласе 160 карт. На іх пракартаграфаваны дыялектны матэрыял, сабраны ў 300-х вёсках Маскоўскай вобласці. Картаграфуюцца назвы сельскагаспадарчых пабудоў, посуду, адзення, з'яў прыроды, грыбоў, раслін, абрадаў і іншыя. Кожная вёска на картах атласа мае свой нумар, на асобнай карце кожнае слова мае адпаведны знак. Гэта звычайны дыялектны атлас. Ён дае добрае ўяўленне аб дыялектным ландшафце Маскоўскай вобласці. Але ў атласе ёсць свая "незвычайнасць", якая заключаецца ў тым, што гэта атлас СТАЛІЧНАЙ вобласці. Сапраўды, незвычайнага тут няма, бо ў сталічных абласцях таксама жывуць людзі, якім хочацца прыгожа, вобразна гаварыць, а не абмяжоўвацца афіцыйным казённым слоўнікам, хочацца захоўваць традыцыі сваіх продкаў, не саромецца, як раней было прынята, дыялектнай мовы, любіць сваю малую Радзіму, урэшце рэшт.

Па-рознаму гавораць у Маскоўскай вобласці. Масква як бы прыцягвае розныя мясцовыя назвы з захаду, поўдня, поўначы, усходу. У Падмаскоўі можна пачуць словы, якія знаходзяць аналогіі ў гаворках Беларусі. Да такіх слоў, у прыватнасці, адносяцца: "хлев", "сход" (ступенькі парога), "толока", "котух", "куток", "кут", "жбан", "красноголовик" (грыб падасінавік), "веселка" (від бярозы), "олешник", "игрище" (месца, дзе збіралася моладзь), "хмыз" (сухія галінкі). У заходняй частцы Маскоўскай вобласці пашырана слова "пунька". Гэта тое ж, што беларуская "пуня". Словы "пуня", "пунька" пашыраны на вялікай тэрыторыі: у Беларусі, Смаленскай вобласці і нават на захадзе вобласці Маскоўскай.

**Ф.КЛІМЧУК, дыялектолаг, кандыдат філалагічных навук.**

# НАШ СЯБРА — ВОЛЬНЫ ВЕЦЕР

Гэта бадай апошні качэўны народ, свабодны ад прапісак і чэргаў, замшэлай маралі і ханжаства, свабодны на працягу стагоддзяў ад пільнага ціску дзяржавы — цыганы. Яны фактычна ігнаравалі ўлады, здабываючы сабе на пражытак самымі рознымі прымальнымі для іх метадамі: гандлярствам, махлярствам, гаданнем... Але й не толькі. Бачыў я й гадалак, бачыў цягніковых і вакзальных рупліўцаў з сумніцельным таварам, але бачыў і цыганскія палаткі-шатры з адкрытым усяму свету няхітрым скарбам, разбітыя на цыбульных плантацыях Паволжа, бачыў аседлых працавітых цыганоу у Беларусі. Іх няма ла...

Цыганы, бадай, адзіны народ, які не заявіў пра свой суверэнітэт, дзяржаўную мову і незалежнасць. Яны й без гэтага вольныя. Як вецер.

**В.КУЛІК.**







**На здымках: цыганскі табар.**

**Фота В.ЗЯНЬКО, г.Стоўбцы.**

# СВАБОДНАЯ БАЛТЫЯ — СВАБОДНАЯ БЕЛАРУСЬ

Сардэчна віншуем літоўцаў, латышоў і эстонцаў! Яны дамагліся свайго, фактычна вярнуўшы волю і незалежнасць. Хоць за рэальную самастойнасць ім, відаць, давядзецца яшчэ пазмагацца (крый Божа, каб толькі не на барыкадах!). Але тыя працэсы, якія цяпер там адбываюцца, не могуць не ўсяляць сапраўднай надзеі. Яны здабылі волю. Але якой цаной... Расстрэлы, дэпартацыі, вынішчэнне інтэлігенцыі, нядаўнія эканамічныя блакады, разгул апрычнікаў з АМАНаў, забойствы мірных людзей... Мы перажывалі за вас, літоўцы, за вас, латышы... Абрывалі тэлефонныя трубкі, пракліналі зламыснікаў і дзякавалі вам за вашу мужнасць, за нястомнасць і няскоранасць. Вы абудзілі й нас, і нашу годнасць...

Цяпер Балтыя вольная — але якой цаной... Не дай Бог нам, ды і кожнаму іншаму народу, заплаціць гэту цану за свабоду. Калі гавораць, што на беларусаў незалежнасць звалілася неспадзявана, як снег у траўні, я ў правільнасці гэтага сумняваюся, яна аплачана — у Вільні, у Рызе. Не, не магла наша краіна, Беларусь, застацца прыгоннай у асяроддзі вольных дзяржаў Балтыі ды й Украіны.

І яшчэ хочацца сказаць пра надзею, што новыя ўрады незалежных балтыйскіх дзяржаў будуць працягваць традыцыю спрыяння беларускім культурным суполкам, беларускаму нацыянальнаму руху ў межах сваіх дзяржаў, як гэта рабілі іх папярэднікі больш за паўсотні год таму. Яскравыя прыклады гэтага падае і сённяшні выпуск "Сумежжа" — артыкулам Ю.Гайдука пра беларусаў Латгаліі.

За нашу і вашу свабоду!

**Валер КАЛІНОЎСКІ,**
**вядучы рубрыкі "Сумежжа".**

Тэл.32-11-43.





На здымках: *Літва і Латвія ў трагічныя дні 1991-га.*

Фота У.ПАЖЭ І В.ЗАЎЯЛАВА.

# БЕЛАРУСЫ Ў ЛАТГАЛІІ: учора і сёння

*Перад кожным народам з ростам ягонай самасвядомасці, абуджэннем цікавасці да свайго мінулага непазбежна паўстаюць пытанні: "Хто мы?", "Адкуль мы?", "Колькі нас?". І, як тое не дзіўна, даследаваннямі беларускай эміграцыі, рассяленнем беларусаў у іншых краінах і саюзных рэспубліках займаліся і займаюцца амаль выключна замежныя ўстановы, нашыя ж навукоўцы да гэтага часу трымалі на тэме "табу". Таму з вялікай цікавасцю ўспрымаюцца матэрыялы кшталту "Беларуская эміграцыя" А.Латышонка ("ЧЗ", № 5, 1991), "Бяскрайні Паўночны захад" Ф.Д.Клімчука і А.І.Чабярук ("ЧЗ", № 19, 1991).*

*Адной з цікавых, але, на жаль, малавывучаных, з'яўляецца праблема беларускай нацыянальнай меншасці ў прымежных Беларусі рэспубліках, іх этнічная гісторыя, культурныя асаблівасці, уплыў іншамоўнага асяроддзя.*

Перабудова міжнацыянальных дычыненняў прымушае звярнуць увагу на вопыт нацыянальнага будаўніцтва 1920-х — пач.1930-х гадоў як у нашай краіне, так і за яе межамі. Так, важным чыннікам беларуска-латышскіх кантактаў у 1920-я — 1940-я гады было існаванне ў Латвіі беларускай этнічнай групы. Беларусы жылі пераважным чынам у прымежных раёнах Латгаліі (Усходняй Латвіі) ды ў Ілукстэнскім павеце Земгаліі. Тут дзейнічала каля 40 беларускамоўных пачатковых школ, гімназіі (г.Дзвінск (Даўгаўпілс), г.Люцына (Лудза), г.Індра, пас.Зілупе, г.Рыга). У Латвійскай Рэспубліцы меўся Беларускі аддзел Міністэрства асветы, выходзілі беларускія газеты і часопісы "Голас беларуса" (1925 — 29), "Думка беларуса" (1939), "Школьная праца" (1926 — 29), "Беларуская школа ў Латвіі" (1926 — 34) ды інш., працавала беларускае выдавецтва ў Рызе, дзейнічалі настаўніцкія курсы, Беларускі тэатр, клуб "Беларуская хата" (г.Рыга), існаваў шэраг грамадскіх арганізацый: культурна-асветніцкае таварыства "Бацькаўшчына", Таварыства беларускіх настаўнікаў, Беларускае тэатральнае таварыства .

Гісторыя фарміравання беларускага сельскага насельніцтва Латгаліі ахоплівае перыяд у некалькі стагоддзяў. Даследчыкі вызначаюць, што беларускае насельніцтва Латгаліі складаецца як з карэннага, якое з'явілася тут яшчэ ў XIV — XVI стагоддзях, так і з прышлага: нашчадкаў мігрантаў з Беларусі адносна позняга часу. Найбольш старажытныя паселішчы беларусаў мясціліся ў прымежных раёнах усходу Латвіі. У множстве міграцыйных плыняў пазнейшага часу беларусы ўдзельнічалі адначасна з рускімі. Найбольш актыўна міграцыя праходзіла ў XVIII—XIX стагоддзях шляхам бегства селян ад феадальнага прыгнёту, а пазней у выніку адміністрацыйных перасяленняў . Ужо да 1599 г. 2/3 жыхароў г.Рэзэкне складалі беларусы, а ў сярэдзіне XYII ст. мелася каля дзесяці цалкам беларускіх населеных пунктаў.Калі ж Латгалія была далучана да Расіі (1772 г.), у паўднёва-ўсходнім яе прымежжы жылі пераважна беларусы. У другой палове XIX ст. царскім урадам была зроблена спроба вярнуць з Курляндыі беглых сялян. У сувязі з гэтым граф Браун, які ажыццяўляў згаданы ўказ, пісаў, што "в Семигалии (усходняя частка Курляндыі — Ю.Г.) проживает более четырех с половиной тысяч душ беглых белорусов" ! з цягам часу яны і тут засталіся асноўным па колькасці насельніцтвам.

У 1897 г. на тэрыторыі Латвіі жылі ўжо 79 523 беларусы, што складала 4.1 працэнта. Аднак у далейшым іхняя колькасць рэзка паменшылася. У 1935 г., па звестках перапісу, у Латвіі пражывала толькі 26 867 беларусаў, у т.л. у Латгаліі 16 724. Ва ўсіх выпадках беларусы, паводле звестак перапісаў, жылі ў адных і тых жа мясцовасцях, а часта і населеных пунктах, што і рускія, а сярод назваўшых сябе беларусамі пераважная большасць — каталікі. Улічваючы гэта, а таксама тое, што этнаграфічнай экспедыцыяй пад кіраўніцтвам вядомага савецкага фалькларыста Т.С.Макашынай ў паўднёва-усходняй Латгаліі выяўлена група рускіх, у мінулым праваслаўных, духоўная культура якіх вельмі блізкая да духоўнай культуры беларусаў-каталікоў, Макашыной зроблена выснова, што беларускае праваслаўнае насельніцтва Латвіі ў першай палове XX ст. падвергласся значнай асіміляцыі, вынікам якой стала змяненне нацыянальнай самасвядомасці вялікай часткі латвійскіх беларусаў.

Многія даследчыкі звярталі ўвагу на тое, што за межамі Беларусі нашы суайчыннікі хутка асімілююцца. Гэтак А.А.Ракаў падлічыў, што на момант перапісу 1959 г. за межамі рэспублікі іх павінна быць каля 2 млн. , але насамапраўдзе іх там выявілася на 1/2 млн. менш. Слаба развітая нацыянальная самасвядомасць з'яўляецца выразнай рысай і беларусаў Латвіі. Кастусь Езавітаў, вядомы палітычны дзеяч, член Народнага Сакратарыята БНР, у кнізе "Наша крыніца: Чытаньне для вучняў беларускіх школ у Латвіі, Рыга, 1927", адзначаў, што "калі ж беларускую жанчыну або хлопца пачыналі пытаць, да якой яны належаць нацыянальнасці, дык яны ня ведалі, нават што і адказаць", называлі сябе проста "тутэйшымі", хоць наша мова ў XIX ст. была самай распаўсюджанай у Латгаліі, яе засвойвалі і карысталіся ёю латышы, палякі, часам рускія. У 1950-х гадах знойдзена група латгальцаў, што жартліва звала сябе "белахвосцікамі" й на пытанне аб нацыянальнасці зазвычай адказвала так: "Мы самі ня ведаем хто: беларусы ці палякі, ці латышы. Мова наша польская, але мы ня разумеем палякаў, што прыязджаюць да нас з Польшчы". Пры такой няпэўнай нацыянальнай свядомасці вырашаючую ролю ў самавызначэнні беларусаў адыгрывалі веравызнанне і нацыянальная палітыка дзяржавы, на тэрыторыі якой месцілася Латгалія. Так, у 1921 годзе ўрад Латвійскай Рэспублікі прадаставіў беларусам нацыянальна-культурную аўтаномію, і сярод іх падняўся ўзровень самасвядомасці, узнялася цікавасць да гісторыі і этнаграфіі свайго народа. Беларуская інтэлігенцыя, галоўным чынам настаўнікі, а гэтаксама вучні Дзвінскай (цяпер г.Даўгаўпілс) і Люцынскай (цяпер г.Лудза) гімназій узяліся за збор фальклору латгальскіх беларусаў. Свае працы яны змяшчалі ў штомесячніках "Ластаўка", "Школьная праца" (выдаўца — Дзвінская гімназія), газетах "Думка беларуса", "Голас беларуса" і іншых выданнях. У 1932 — 34 г.г. у Рызе існавала Беларускае Навукова-Краязнаўчае Таварыства, мэтай якога было збіранне і вывучэнне беларускага фальклору. Як мяркуецца, большасць сабраных матэрыялаў увайшла ў зборнік "Народная творчасць латгальскага беларуса", складзены С.П.Сахаравым.

Сярод збіральнікаў беларускага фальклору ў Латвіі 1920-х — 1950-х г.г. асабліва вылучаецца постаць С.П.Сахарава.

Сяргей Пятровіч Сахараў нарадзіўся 28 верасня 1880 г. у г.Полацку, рана страціў бацьку, дыякана мясцовага кадэцкага корпуса. У 1895 г. С.Сахараў скончыў Полацкае духоўнае вучылішча і быў прыняты ў Віцебскую духоўную семінарыю, у якой выкладаў беларускі этнограф і археолаг Дзмітро Давгяла. Ягоныя работы, а таксама працы вядомых даследчыкаў беларускага фальклору М.Нікіфароўскага, Я.Раманава, І.Насовіча істотна паўплывалі на семінарыста. Семінарыю С.Сахараў скончыў у 1901 г., але па духоўнай кар'еры не пайшоў, адмовіўся ад месца святара і працаваў настаўнікам у народнай школе, пасля ў Люцынскім шасцікласным вучылішчы. У 1907 — 11 г.г. С.Сахараў — студэнт Юр'еўскага (г.Тарту) універсітэта, скончыў юрыдычны і гісторыка-філалагічны факультэты. Усё далейшае жыццё навукоўца звязана з народнай адукацыяй у Латвіі. Шмат часу і сілы аддаў ён арганізацыі краязнаўчай працы сярод насельніцтва.

З 1911 г. С.Сахараў жыве ў Віцебску, дзе выкладае ў мясцовых гімназіях і працуе сакратаром архіўнай камісіі, па ініцыятыве якой у горадзе арганізавана аддзяленне Маскоўскага археалагічнага інстытута. З 1913 г. С.Сахараў — інспектар школ, у 1917 г. ён становіцца дырэктарам-арганізатарам Люцынскай беларускай гімназіі,а потым— загадчыкам Беларускага аддзела Міністэрства асветы Латвіі, кіруе Дзвінскай беларускай гімназіяй, працуе дырэктарам гімназіі ў Індры, арганізуе гімназію ў Зілупе, настаўнічае ў шэрагу школ. Яго працаздольнасць сапраўды здзіўляе і захапляе. Амаль на працягу ўсёй сваёй педагагічнай дзейнасці С.Сахараў з дапамогай дачкі Галіны, некаторых выкладчыкаў і вучняў гімназій збірае і сістэматызуе беларускі фальклор. Гэтая праца працягвалася да 1954 г., калі смерць перапыніла яе.

С.П.Сахараў вывучаў царкоўныя архівы, ён выдаў кнігу "Праваслаўныя цэрквы Латвіі", падрыхтаваў да друку зборнікі са свайго фальклорнага архіва (выйшаў толькі першы выпуск кнігі "Народная творчасьць латгальскіх і ілукстэнскіх беларусаў", Рыга, 1940), змяшчаў краязнаўчыя і публіцыстычныя артыкулы і фальклорныя матэрыялы на старонках беларускага перыядычнага друку.

Усяго ў архіве С.Сахарава каля трох тысяч тэкстаў, з іх толькі 414 надрукаваны. Ацэньваючы збор С.П.Сахарава ў цэлым, можна сцвярджаць, што ён з'яўляецца унікальным зборам нашага фальклору, як адзін з найбольш поўных зводаў народнай творчасці беларусаў увогуле і як адзіны па паўнаце і памерах збор фальклору той часткі нашага народа, якая была ў становішчы нацыянальнай меншасці.Ён адкрывае магчымасці вывучэння узаемадзеяння беларускай культуры з культурнымі традыцыямі іншых нацыянальнасцей. Шкада, што імя гэтага рупліўца, нястомнага змагара за правы беларусаў у Латвійскай буржуазнай рэспубліцы, выдатнага педагога, абвінавачанага ў змрочныя сталінскія часы ў "нацыяналістычных памылках", паўзабыта і аніяк ня ўвекавечана.

Культ асобы Сталіна і панаваўшая на той час нацыянальная палітыка фактычна разграмілі ўсе нацыянальныя беларускія арганізацыі, установы, школы, газеты і часопісы ў Латвіі, на працяглы тэрмін спынілася вывучэнне фальклору, матэрыяльнай і духоўнай культуры латвійскіх беларусаў, што ў сваю чаргу, не магло не адбіцца на іх сучасным стане ў Латвійскай Рэспубліцы.

Па перапісу насельніцтва, праведзеным у 1989 г., у Латвіі жыло 120,9 тыс.беларусаў (4,5 працэнта), з якіх 32,8 тыс. — у Латгаліі. Пры гэтым захоўваецца кампактнасць іх пражывання, у шэрагу сельсаветаў беларусы складаюць звыш паловы насельніцтва, часткова захоўваюць родную мову і нацыянальныя традыцыі. 80 працэнтаў беларусаў Латгаліі пражываюць у Даўгаўпілскім, Лудзенскім і Краслаўскім раёнах, дзе яшчэ можна пачуць беларускую мову. Цікава, што нацыянальныя абрадавыя традыцыі (пераважна вясельныя) і фальклор сталі больш трывалымі этнавызначальнымі фактарамі, чымсьці саманазоў і мова беларусаў. Так, у значнай ступені элементы традыцыйнага беларускага вяселля, асаблівасці фальклору, што адзначаліся некаторымі савецкімі этнографамі, бытуюць у асяроддзі некаторых рускіх, у мінулым праваслаўных беларусаў. Страціўшы канчаткова нацыянальную самасвядомасць і родную мову, яны ўсё ж захавалі пэўныя рысы нацыянальных традыцый.

Абуджэнне нацыянальнай свядомасці і грамадзянскай актыўнасці беларусаў у апошнія гады закранула і латвійскіх беларусаў, але, пакуль, як і на Беларусі, пераважна ў асяроддзі інтэлігенцыі, служачых, студэнцтва. У цэлым жа яшчэ моцны "сіндром "тутэйшых". Цяперака ў Латвіі існуюць дзве беларускія нацыянальна-культурныя арганізацыі: таварыства "Світанак" і Беларускі культурны цэнтр пры Балта-Славянскім таварыстве; ёсць таксама некалькі суполак Таварыства Беларускай Мовы імя Ф.Скарыны. Дзейнасць гэтых згуртаванняў накіравана не толькі на пашырэнне самасвядомасці латвійскіх беларусаў, прапаганду здабыткаў нацыянальнай культуры, але й на дасягненне ўзаемапаразумення з латышскім народам, збліжэнне з яго культурай, сувязі якой з нашай культурай маюць даўнія традыцыі (яшчэ С.П.Сахараў ва ўспамінах пісаў, што ў 1920-х г.г., у часе нацыянальнага ўздыму, "акрыленая і адухоўленая словамі Райніса беларуская інтэлігенцыя дружна прынялася за працу", падкрэсліваючы тым самым вялізную ролю, адыгрываемую латышскай культурай у жыцці беларусаў). Хочацца верыць, што нанава "закіпеўшая" адраджэнская праца рупліўцаў нацыянальнай культуры не згіне, прынясе плён, і беларуская мова, стагоддзямі гучаўшая на берагах Даўгавы, будзе чутна па ўсіх вёсках і мястэчках, дзе жывуць беларусы.

**Юльян ГАЙДУК.**











Малюнкі святлаценем

# «Працую... маці»

«Мама», «тата» — такія звыклыя для нас словы, але чаму гэтыя малыя так часта паўтараюць іх? Ці не таму, што ў паўсядзённай мітусні мы забыліся пра іх смак, страцілі навізну іх успрыняцця. А гэтыя дзеткі, адчуўшы асалоду ад існасці саміх паняццяў, не хочуць губляць.

Пасада Маргарыты Кундзікавай гучыць так: «маці-выхавальніца». На яе Маргарыта змяняла даволі прэстыжную пасаду загадчыцы дзіцячага садка... добраўпарадкаваную гарадскую кватэру. Была загадчыцай — вярнулася да сопляў, хвароб, гаршкоў. Акрамя сваіх, узяла яшчэ пяцёра дзетдомаўскіх з замаруджаным развіццём. «Малы Міхаська ўсіх называў «мама» і ўвесь час еў». Каля года Кундзікавы аббівалі парогі, дабіваючыся дазволу на сямейны дзіцячы дом, нават да Кебіча на прыём трапілі. Атрымалі дазвол разам з хаткай на ўскраіне Клічава. Хата не бог ведае якая, але Рыта — непапраўная аптымістка: «Нічога, адрамантуем».

З Сярожам яны вучыліся разам. І з самага пачатку ведалі, што ў іх будзе вялікая сям'я, шмат дзяцей. Думаюць узяць яшчэ пяцёра, разам з малымі збіраюцца ехаць у дзетдом, выбіраць «брацікаў і сястрычак», як гэта было ў мінулы раз. Дарэчы, адносіны ў сям'і вельмі пяшчотныя і лагодныя — нават язык не паварочваецца называць яе дзіцячым домам, хай сабе і сямейным.

Цяжкасцей, хаця аб іх тут не любяць гаварыць, хапае. У мінулым годзе ў Кундзікавых з'явілася ажно тры «першаклашкі». А клопату патрабуе яшчэ і хатняя гаспадарка, якой мама Рыта раней не мела: куры, свінні, карова. «Нам бы вось каня набыць»,— марыць Кундзікавы. Пакупкі ў краме — гэта вам не жартачкі, паспрабуй накармі сямейку: за адзін раз не данясеш.

А ўвогуле тыя, хто ў дзеяннях Маргарыты і Сяргея пачне шукаць карыслівыя мэты, будуць расчараваныя. Імі рухае іншы інтарэс...

А. СТРЭХАВА.

Фота Сяргея БРУШКО.





# ЛЮДЗІ НА БАЛОЦЕ

Хаты былі на востраве. Востраў гэты, праўда, не кожны прызнаў бы за востраў — аб яго не плёскаліся ні марскія, ні нават азёрныя хвалі. Навокал адно гніла куп'істая дрыгва ды моклі панурыя лясы...

Але такое становішча тут не палохала, людзям на востраве яно здавалася зусім звычайным. З усіх бакоў, блізка і далёка, ведалі яны — такія ж самыя выспы сярод бясконцых багнаў, дзікіх зараснікаў, што разлягліся на сотні вёрст з поўначы на поўдзень і з захаду на ўсход. Людзям тут трэба было жыць, і яны жылі...

Іван МЕЛЕЖ.

Прыязджала з Віцебска Яўгенія Мальчэўская. Звалілася нечакана — як снег на галаву. Выступала ў Чашніках на жнівеньскай нарадзе настаўнікаў, энергічная, баявая, бескампрамісная, крыла тут, расказваюць, камуністаў і ў хвост, і ў грыву. Такога выступлення не могуць прыпомніць нават і доўгажыхары. Як ні бурліла, як ні віравала недзе там, у сталіцах жыццё, водгалас тых бур рэдка далятаў да ціхмяных Чашнікаў. А калі і далятаў, то, сербануўшы цішыні, страчваў рахманасць, лагаднеў, рабіўся ручным. І вось на табе! Эх, Жэня, Жэня! Адкуль, скажы, гэтулькі нянавісці, гэтулькі з'едлівага запалу? Ці не ты сама яшчэ нядаўна настаўнічала тут, на Чашніччыне? Ці не ты сядзела на гэткіх самых канферэнцыях? Настаўніцтва дзівілася, абуралася. Зала гудзела і дружна «заплёсквала» нязгоднае выступленне. Ну, акурат як на першым З'ездзе народных дэпутатаў «заплёсквалі» словы Андрэя Сахарава.

А ў астатнім, цудоўная маркіза, усё прайшло спакойна, як заўжды, у правільным рэчышчы і без эксцэсаў. Палітыку стараліся не чапаць, балазе і без яе гаварыць было пра што, бо праблемы пад час пачатку новага навучальнага нарасталі, як снежны камяк. Да традыцыйных, як то нясконачаныя школьныя рамонты ды востры дэфіцыт настаўніцкіх кадраў, дабаўляліся ўласнаперабудовачныя. Цяпер настаўніку гісторыі ды літаратуры невядома, куды хаваць вочы пад шквалам немінучых з'едлівых вучнёўскіх пытанняў. Хоць ты збірай усе тыя «ізмы» ды «эсэсы», якімі поўняцца падручнікі, у прыпол і ўцякай прэч з класа вытрасаць у сметніцу. Але як жа пасля зайсці зноў, як паглядзець у вочы тым, хто заўсёды табе глядзеў у вочы і прывык верыць? Дый невядома, што цяпер рабіць з камсамолам, з піянерыяй? Яшчэ і сёння дзеці ідуць у школу з чырвонымі гальштукамі на шыі, а ў цябе па скуры мурашкі поўзаюць, бо тыя гальштукі нечакана падаліся пятлёю, якая звілася вакол шыі і ў любы момант можа зацягнуцца. Што тады? Будзе кроў. Будзе многа крыві. І які дзяржстрах ад гэтага зможа застрахаваць? Нечакана паняцце «дзяржстрах» перастала быць нашым саюзнікам і зрабілася дзяржаўнай палітыкай. Генетычна засеўшы ў кожным з нас ці то з семнаццатага, ці то з трыццаць сёмага, ён падымае галаву пры нагодзе. І ў дзевяноста першым раптам матэрыялізаваўся напачатку ў выглядзе павукападобнай абрэвіятуры ДКНС, якую нават не кожнаму пад сілу вымавіць, пасля ж зазваніў «кантактнымі тэлефонамі», аб'яўляючы аб набліжэнні эпохі стукачоў. О, як жа настаўнікі павінны маліцца богу, што УСЁ ГЭТА адбылося пад час летніх канікулаў, пазбавіўшы іх пакуты дзевятнаццатага і дваццатага жніўня заходзіць у клас і НЕШТА гаварыць дзецям аб палітыцы партыі на сучасным этапе. І крывіць душою, як рабілі многія газеты. Смешна. Цяпер смешна. Хто сказаў, што партыйныя газеты безумоўна падтрымалі хунту? Сярод найпершага клопату ДКНС была якраз забарона эротыкі. Але ж ужо на другі дзень надзвычайнага становішча партыйны друк, падаючы заявы і нашых, і вашых адначасова побач, застракацеў такой, прабачце, палітычнай прастытуцыяй, якой нават не снілі часы плюралізму.

Сёння тыя ж газеты аднадушна, наперабой, усё роўна, як спаборнічаюць, бяздумна ўслаўляюць парад суверэнітэтаў. І зноў эйфарыя? Няўжо так цяжка зразумець: суверэнітэты можна аб'яўляць бясконца (што мы, дарэчы, і робім: 27 ліпеня, 25 жніўня, якая дата наступная?) затое падвесці пад іх рэальны фундамент, на жаль, немагчыма аднымі дэкларацыямі. Асабліва ж, калі сядзіш, прабачце, без штаноў на чарнобыльскім папялішчы і ў цябе адняло мову.

Што такое раённая рада ТБМ, у Чашніках не чулі. Як казаў папулярны вядучы «Поля цудаў», «нет такой буквы в этом слове, увы». Дакуль жа будзем, як той драўляны Бураціна, закопваць грошы ў пясок, спадзеючыся, што ў краіне дурняў вырасце залатое дрэва?

Хто тут займаецца каардынацыяй моўнай палітыкі, сказаць цяжка. А можа, райком партыі, адкуль-небудзь з падполля? Яшчэ зусім нядаўна ён расквартаваў у белакаменным прыгожым асабняку, надта ж нетыповым для чашніцкай архітэктуры, вяршыў лёсы людскія. Прыгожым — не тое слова. Убачыш той асабняк — адразу ўспамінаеш класіку:

**Белы хорам стаяў, недаступнай сцяной**
**Грозна, думна глядзеў на прыволле.**
**У нагах у яго рассцілаўся абшар**
**Хвоек гонкіх і пахані чорнай,**
**Сонных вёсак шары, хат амшалых,**
**як мар,**
**Хат з сям'ёй душ падданых,**
**пакорных.**

Будынак не апячатвалі. Незадоўга, як бы прадчуваючы пагібель, райком літасціва пацясніўся, пусціўшы бамжуючых кватарантаў тыпу падаткавай інспекцыі і г. д. Ну, ды бог з ім, годзе іранізаваць, ляжачага не б'юць.

І ўсё ж нехта кіруе моўнай палітыкай, бо беларусізацыя — назавём так: паўзучая беларусізацыя — спакваля займае на Чашніччыне адну пазіцыю за адной. У сельскай мясцовасці ці не ўсе школы да гэтага часу пераведзены ўжо на беларускую мову навучання. А шчыра кажучы, ім проста вернута тое, што некалі было адабрана. У гарадскіх школах беларускімі сталі толькі першыя класы.

Слбвам, што такое дзяржаўная мова, лепей за ўсіх ведаюць пакуль адны настаўнікі беларускай мовы і літаратуры. З Ганнай Серафімаўнай Гурбо, настаўніцай з чацвёртай чашніцкай школы, гартаем праграмку па літаратуры. Праграмка старая, яшчэ дарэвалюцыйная — ажно тысяча дзевяцьсот дзевяностага года. Яе б у музей баявой ды працоўнай славы, ды, бяда, музея пакуль яшчэ няма. Школа новая — без тыдня год. А праграмкі іншай няма таксама. Не прыйшла яшчэ з Віцебска разам з рэвалюцыйнымі пераменамі. Дый хто дасць гарантыю, што Міністэрства народнай адукацыі адрэагуе на змены па прынцыпу «промедление смерти подобно»? А пачынаць урокі літаратуры трэба, і ў дзесятым класе, калі верыць злашчаснай праграмцы, трэба пачынаць менавіта з «Ролі КПСС у развіцці літаратуры». О, пра ролю КПСС, а заадно і НКУС, у развіцці беларускай літаратуры можна, вядома, распавядаць намнога болей чымся дзве гадзіны, як таго патрабуе праграма. Толькі як жа быць з перасцярогаю, напісанаю побач чорным па беламу: «Вучні павінны ведаць асноўныя палажэнні... дакументаў камуністычнай партыі па пытаннях літаратуры»? Смех то смех, але мы прывыклі па напісанаму.

А можа, прабачце, плюнуць на ўсё гэта і аддаць дадатковыя дзве гадзіны Янку Купалу, якога неабгрунтавана «рэпрэсіравалі», зашчаміўшы ў вузкія рамкі школьнае праграмы і навесіўшы біркі з уласных жа вершаў, загадалі ўладарным голасам Сцяпана Булата:

— Сні, таварыш, аб Камуне!

Аддаць дзве гадзіны, каб распавесці праўду таямніцы яго заўчаснай смерці, пра якую доўгія гады — Ганна Серафімаўна сама помніць — з'едліва пляткарылі, напіўся, маўляў, і зваліўся з лесвіцы.

Цікава, каму падобныя плёткі былі выгадны? Думаю, не адным НКУСаўцам. Некаму проста надта карцела прынізіць нацыянальны геній, свярбелі рукі пазбавіць беларуса ўласнае класічнае літаратуры. Не ведаю, мо і зараз хтосьці не супраць абмежаваць уяўленне школьнікаў пра Куляшова вершам «Камуністы», а пра Панчанку адзінымі-адзінюткімі «Белымі яблынямі», цудоўнымі, але ж...

**Гаворыце, што выйшлі вы з народа?**
**Куды? Чаму?**
**Якой цяпер пароды?**
**Я са свайго народа не выходзіў**
**І жыць да скону буду у народзе.**

Чую голас самога Пімена Емяльянавіча і, здаецца, пачынаю разумець: як ні старайся, немагчыма прынізіць тое, чаго немагчыма прынізіць. Вось ужо сапраўды: «Каб Сонца засланіць — вушэй асліных мала». Упэўнены, час і гісторыя яшчэ расставяць кропкі над «і», аддаўшы даніну ўсяму лепшаму, што набылі мы, у тым ліку і пад час нядаўняе сямідзесяцічатырохгадовай гісторыі, якую зараз «за кампанію» імкнёмся апляваць — хто каго пераплюне.

Не. Не настаў яшчэ час ісціны для дэмакратыі, як тое паспяшалася аб'явіць прэса. Якая ж ісціна, калі нават раскопваем могілкі і з нябожчыкаў здымаем мундзіры, затое перад «жывымі нябожчыкамі» ў мундзірах гатовы слацца, як ліст перад травою, у рабскім заміласванні. Калі над краінаю, якая прэтэндуе звацца цывілізаванаю, лунаюць ісціны «бананавых астравоў», значыць, не настаў яшчэ яе зорны час, а надыдзе тады, калі маладая дэмакратыя навучыцца адрозніваць зерне ад пустазелля.

У чацвёртай чашніцкай школе на свой страх і рызыку адмянілі... палітінфармацыі. Не зараз, але яшчэ раней, задоўга да тых трох жнівеньскіх дзён, якія ўскалыхнулі свет. Па словах дырэктара Валянціны Іосіфаўны Краўчанка, яна не магла са спакойнай душою глядзець на горкае дзіця, якога змушаюць мець сваю ўласную думку на апошнія падзеі ў дружалюбнай афрыканскай краіне. Палітыку замянілі ўрокамі маральнасці.

Такім чынам, безаблічны пралетарскі інтэрнацыяналізм уступіў месца слову Багдановіча, Скарыны. Што далей? Далей прыйшлі напалоханыя «нацыяналізмам» бацькі, якія нядаўна прыехалі з Варкуты, і заявілі пратэст. Дырэктар адказала катэгарычна: не падабаецца — шукайце іншую школу. Жорстка? Мне здаецца, па-іншаму нельга, бо, не навучыўшыся паважаць тую зямлю, на якой жывеш, той народ, які побач з табою каранямі вырас на гэтай зямлі, нельга прэтэндаваць на паразуменне, на дружбу, больш таго, нельга разлічваць на павагу да сябе. А адсюль адзін крок да трагедыі.

## ЗАМІЖ ПАСЛЯСЛОЎЯ

Чацвёртую школу пабудавалі ў Чашніках зусім нядаўна. Тэрыторыю вокал яшчэ лёгка назавеш новабудоўляю. А ісці да школы трэба... па канаве. Не ў папрок камунальнікам, бо можа ёсць і іншая, шырокая, асфальтаваная дарога, толькі людзі злаўчыліся напраскі, агародамі — карацей. Калі я запытаўся дарогу, мне проста так і растлумачылі: усе ходзяць па канаве...

У чашніцкім краязнаўчым музеі навуковы супрацоўнік Ніна Трафімаўна Кіндзяева працуе над летапісам краю. Збірае па каліву, запісвае ўспаміны старажылаў, што-колечы памятае яшчэ і сама. Зачытала мне некалькі старонак — нібы зварухнуліся, ажылі напластаванні гісторыі, нібы гіганцкая машына часу павярнула абароты назад. І заззялі зноў цэрквы золатам купалоў (дзе яны зараз?), і паўсталі над святынямі крыжы, указваючы дарогу да Бога. І яшчэ не пралілося так многа крыві, і яшчэ ў людзей ёсць вера.

Запомніўся малюнак. Месца Чашнікі было надта гразкае. Часам, праязджаючы па вуліцы, коні правальваліся па забараскі. Людзі вымушаны былі ўздоўж вуліц капаць канавы, каб неяк адвесці ваду...

А ўсю найноўшую гісторыю мы асфальтавалі. Асфальтавалі Чашнікі і падобныя да іх райцэнтры. Цвёрдым пакрыццём засцілалі ўсё: вуліцы, жывыя думкі, нязгодныя пераканання. Вымасцілі дарогу ў нікуды, шырокую і ясную. Але варта прайсці добраму дожджыку — і адкуль бярэцца ў Чашніках слота? Балота пад асфальтам нагадвае аб сабе. Зямля дыхае. Але такое становішча тут не палохае. Людзям трэба жыць — і яны жывуць.

Уладзімір МІХНО.



УСЕСАЮЗНАЯ КУЛЬТУРНАЯ АКЦЫЯ




«ГЛЯДЗІ НА МЯНЕ, ЯК НА РОЎНЮ»

**Гэта дэвіз першага беларускага фестывалю мастацтваў інвалідаў, які адкрыўся 7 верасня ў Мінску. З гэтымі словамі звяртаюцца да нас тысячы і дзесяткі тысяч людзей, чый лёс — бескаляровы, нерухомы, бязгучны — усё ж застаецца лёсам чалавечым, а значыць, павінен быць прыняты, падзелены, зразуметы...**





# «Глядзі на мяне, як на роўню»

На ўрачыстым адкрыцці фефестывалю ў Палацы культуры прафсаюзаў старшыня Цэнтральнага праўлення Беларускага таварыства інвалідаў па зроку А. І. Нятылькін своечасова напомніў нам, што ўзровень цывілізацыі нацыі, дзяржавы ў многім вызначаецца адносінамі да інвалідаў. А перад апошнімі мы яшчэ ў вялікім даўгу. І ці вымяраецца гэты доўг толькі недастатковымі інваліднымі каляскамі і іншымі прыстасаваннямі, неабходнымі лекамі і не менш неабходнымі музычнымі інструментамі для мастацкай самадзейнасці? Бо галоўны — доўг чалавекалюбства — яшчэ за намі. І ў першую чаргу трэба вярнуць яго.

«Галоўная каштоўнасць чалавека — яго душа, а не цела» — мудрая хрысціянская выснова, аб якой нагадаў протаіерэй Мінскага кафедральнага сабора Анатоль Кавалёў. Гэта галоўная каштоўнасць, амаль ужо разбураная,— на эмблеме фестывалю: бусел — птушка, якую вельмі шануюць на Беларусі за яе нораў, прыхільнасць да роднага дома, якая імкнецца ўвысь, да высокага, прыгожага, недасягальнага. Як павінна імкнуцца душа...



«Мы спрабуем даць адчуць гэтым людзям сваю чалавечую годнасць...»— словы міністра культуры БССР Я. К. Вайтовіча. А можа разам з гэтым мы паспрабуем адшукаць і сваё чалавечае прызначэнне? Мы, раствораныя ў палітыцы і штодзённых клопатах, выхаваныя чэргамі і няздзейсненай вераю ў светлую будучыню, азлобленыя і глухія адзін да аднаго. Можа, менавіта мы, надзеленыя зрокам, але пазіраючыя на ўвесь наш беспарадак невідушчымі вачыма, знойдзем асаблівы сэнс і ў тым, што людзі нялёгкага лёсу ў наш нялёгкі час знайшлі форму процістаяння злу ў надзеі на перамогу ў жыцці прыгожага, светлага, вечнага — мастацтва...

Сляпы мастак і глухі спявак. Што можа быць больш ненатуральным, больш жудасным? Аднак свой «Замак Вітаўта» член Саюза мастакоў СССР Анатоль Закрэўскі намаляваў у самых сакавітых фарбах, а вядомую песню «Белыя акацыі» Уладзімір Зубараў «праспяваў» жэстамі на «біс».



Любоў Сойчык з Беларускага таварыства інвалідаў па слыху танцуе, ні на хвіліну не страчваючы адчуванне музыкі, рытму, А спявачак, Анжаліку Худзік і Валянціну Грышкевіч выводзяць на сцэну сёстры міласэрнасці. І пад гарачыя апладысменты залы няўпэўненыя рухі сляпых жанчын перамагае моцны і прыгожы голас. Паэтэсе з Баранавічаў Святлане Клыга яшчэ пятнаццаць. У сваіх вершах яна малюе свой свет, сваё ўяўленне аб жыцці. А дапамагаюць ёй у гэтым і сонца, і дождждык, і жоўты восеньскі ліст. Але вершы свае Святлана, відаць, ніколі не прачытае са сцэны, бо яна... прыкавана цяжкай хваробай да ложка...

«Жыць, толькі жыць, марачы і кахаючы...». Так напісаў паэт-інвалід Ігар Давідовіч. У ім, гэтым радку, не толькі цяга да ўсеперамагаючага і вечнага — жыцця. У ім боль і сорам, у ім дакор нам і зварот да нас — глядзі на мяне як на роўню. Бо жыццё (а разам з ім каханне, надзеі, мары) — непадзельнае на хворых і здаровых, на старых і маладых.

Першы беларускі фестываль мастацтваў інвалідаў зрабіў свае першыя крокі. І няхай яны будуць не апошнімі, няхай творчасць узбагаціць і разнастаіць жыццё грамадзян-інвалідаў, дапаможа ім набыць пачуццё асабістай значнасці, чалавечай годнасці і веры ў свае сілы. Няхай назаўсёды разбурацца складзеныя ў грамадстве стэрэатыпы аб магчымасцях інвалідаў. І няхай гэты фестываль асвеціць сабой новыя падыходы да маральнага развіцця нашага грамадства.

**Майя ШЭНДРЫК.**

**На здымках:** моманты адкрыцця першага беларускага фестывалю мастацтваў інвалідаў у Палацы культуры прафсаюзаў і на ВДНГ БССР.

Фота **Я. ПЯСЕЦКАГА.**



## *Бывай, лета!*

**НА ЗДЫМКАХ:**

- **Курган Славы пад Менскам.**
- **Над Волмай.**
- **Заслаўскае вадасховішча.**

ФотаУладзіміра **МЯЖЭВІЧА (БЕЛТА).**




### ЗАДАЧА КЛАСІКА А. ГАЛІЦКІ

**Белыя:** Крg1. Фd6, Ле4, Сс6. Кс4. пп. g4, h4 (7).




**Чорныя:** Крf3. Сс2. Кb1, Ке6, п. h5 (5).

**Мат у 2 хады.**

Прапануем увазе аматараў шахмат двухходовую задачу выдатнага рускага майстра шахматнай кампазіцыі Аляксандра Галіцкага. Свае адказы прысылайце па адрасу: **220041, Мінск, Ленінскі праспект, 77, рэдакцыя «Чырвонай змены», шахматны клуб «Каіса».**

### АЛЁНА ЗАЯЦ—У ФІНАЛЕ

Моцны састаў сабраў паўфінальны турнір чэмпіянату краіны па шахматах сярод жанчын, які праходзіў у Віцебску. Да самага фінішу ўдзельніцы вялі бескампрамісную барацьбу за пуцёўкі ў фінал. У выніку лепшы вынік паказала масквічка міжнародны майстар Святлана Пруднікава. якая набрала 11,5 ачка. Другое месца заняла студэнтка БДУ імя Леніна міжнародны майстар Алёна Заяц, якая набрала 10,5 ачка. Яна заваявала права ўдзельнічаць у чэмпіянаце СССР 1991 года. У спаборніцтвах гулялі яшчэ дзве прадстаўніцы нашай рэспублікі. Міжнародны майстар з Віцебска Раіса Эйдэльсон набрала 9 ачкоў і заняла шостае месца, вынік мінчанкі кандыдата ў майстры Ірыны Бацвінік—6 ачкоў.

### БРОНЗА АЛЯКСЕЯ АЛЯКСАНДРАВА

У бразільскім горадзе Гуарапуава адбыліся чэмпіянаты свету сярод юнакоў і дзяўчат у ўзроставых катэгорыях да 16 і 18 гадоў. Бліскуча выступілі савецкія шахматысты ў старэйшай узроставай групе. Чэмпіёнам свету стаў Уладзімір Крамнік (Туапсе), другое месца заняў Канстанцін Сакаеў (Ленінград). Бронзавы медаль дастаўся мінчаніну чэмпіёну СССР сярод школьнікаў Аляксею Аляксандраву.

У дзяўчат ва ўзросце да 16 гадоў чэмпіёнкай стала прадстаўніца славутай грузінскай школы Ніно Хурцідзе (Тбілісі). Сярэбраны медаль выйграла Ілаха Кадымава (Гянджа), дарэчы, добра вядомая нашым шахматысткам, яна некаторы час жыла ў Мінску і ўдзельнічала ў беларускіх чэмпіянатах. Бронзавы медаль заваявала харкаўчанка Іна Дубінка.

Менш паспяхова гулялі нашы спартсмены ў іншых катэгорыях. Сярод юнакоў да 16 гадоў сярэбраны медаль заваяваў Аляксандр Анішчук (Севастопаль), у дзяўчат да 18 гадоў трэцяе месца заняла Ірына Зак (Бельцы).

### НОВЫЯ МАЙСТРЫ

Дзяржспорт СССР прысвоіў званне майстра спорту СССР па шахматах магіляўчаніну Вадзіму Аляксееву. За поспехі ў спаборніцтвах па перапісцы майстрам завочнай гульні стаў Анатоль Гурын з Кобрына.

### ІМКЛІВАЯ АТАКА

Сярод прадстаўнікоў новай хвалі трэба адзначыць 18-гадовага гросмайстра з Рыгі Аляксея Шырава. Зусім нядаўна ён атрымаў перамогу на моцным па саставу міжнародным турніры ў Швейцарыі. Прыводзім адну з партый таленавітага шахматыста, якая была згуляна на юнацкім чэмпіянаце свету ў 1989 годзе.

### А. ШЫРАЎ—М. ШТАНГЕЛЬ АБАРОНА УФІМЦАВА

1. d4 g6 2. e4 d6 3. Кс3 Сg7 4. f4 c6 5. Кf3 Сg4 6. Се3 Фb6 7. Фd2 Кf6 (Калі 7...Ф:b2, дык 8. Лb1! 9. Л:b7) 8. Се2 d5 9. e5 Кfd7 10. о-о-о Фа5 11. Кg5 С:е2 12. Ф:е2 h6? Чорныя яўна не прадбачаць камбінацыйнага адказу саперніка. 13. К:f7! Смелая ахвяра фігуры, за якую белыя атрымліваюць атаку на караля. 13...Кр:f7 14. f5! 15. Фh5+ Крg8 16. Лdf1 е6 17. g4! Фd8 18. gf ef 19. Лhg1 Фе7 20. Л:g7+! Рашаючы ўдар. 20... Кр:g7 21. Лg1+ Крf8 22. С:h6+ Л:h6 23. Ф:h6+ Крe8 24. Лg7 Фb4 25. а3. **Чорныя здаліся.** Калі 25...Ф:d4, дык 26. Лg8+ Крf7 27. Фh7+ Кре6 28. Ле8х.

### З УСМЕШКАЙ ВЫЙГРАЕ... АЛЁХІН

У адным з міжнародных турніраў чэмпіён свету А. Алёхін адклаў партыю ў цяжкай для сабе пазіцыі. На наступны дзень праціўнік Алёхіна з гонарам паказваў адкладзеную пазіцыю гросмайстру Тартаковеру і, дэманструючы выгадныя варыянты, спытаў: «Ну хто, па-вашаму, выйграе гэту партыю?»

Тартаковер адказаў коратка: «Алёхін».

«Як жа так?» — здзівіўся майстар.—Вы ж самі бачылі, што мая пазіцыя лепшая». Гросмайстар растлумачыў: «Вы ж не пыталіся ў мяне, чыя пазіцыя лепшая. Вас толькі цікавіла пытанне, хто выйграе».

Сапраўды, партыю выйграў чэмпіён свету.

***

— Ці задаволены вы сваім зяцем?

— Задаволены, але ён у шахматы гуляць не ўмее!

— Што ж тут дрэннага?

— Ды дрэннага нічога няма, уся бяда ў тым, што не ўмее гуляць, а гуляе...

## *Фотафакт*

**Каля 90 хлопчыкаў і дзяўчынак з усіх абласцей Беларусі пабывалі гэтым летам у экалагічным лагеры, размешчаным недалёка ад Маладзечна. Яны ўсе — пераможцы абласных і раённых экалагічных змен, сябры гурткоў натуралістаў, зялёных і блакітных патрулёў — сабраліся на маляўнічым беразе Віліі не толькі дзеля адпачынку, але і для правядзення эколага-біялагічных даследаванняў пад кіраўніцтвам навукоўцаў Акадэміі навук БССР і БДУ імя У. І. Леніна.**

**У лагеры дзейнічалі лабараторыі заалогіі, энтамалогіі, гідрабіялогіі, глебазнаўства і лясной гаспадаркі. Тут упершыню ў рэспубліцы быў створаны і экалагічны тэатр. У сваіх спектаклях юныя эколагі, выступаўшыя ў ролі сцэнарыстаў, рэжысёраў і акцёраў, расказвалі аб шкодзе, што наносіць чалавек прыродзе, высмейвалі экалагічнае бескультур'е.**

**Шмат новага і цікавага аб флоры і фаўне Беларусі даведаліся дзеці за час летніх канікулаў. І, безумоўна, гэтыя веды дапамогуць юным натуралістам лепш разумець і шанаваць прыроду роднага краю.**



**НА ЗДЫМКУ:** **заняткі па энтамалогіі з Любай КАЗЛОЎСКАЙ з Рэчыцкага раёна, Наташай МАРЧАНКА з Асіповічаў і Наташай ЛАНКЕВІЧ з Гродна праводзіў навуковы супрацоўнік інстытута заалогіі АН БССР Леанід Сцяпанавіч ЧУМАКОЎ.**

Фота **Уладзіміра ШУБЫ. (БЕЛТА).**

# Ад вясковага настаўніка— да наркома асветы



**...Антон быў восьмым дзіцем у сям'і беднага селяніна Васіля Баліцкага з вёскі Балічы Лашанскай воласці Гродзенскай губерніі. Ён нарадзіўся 4 верасня 1891 года. Шматдзетная сям'я Баліцкіх мела ўсяго шэсць дзесяцін зямлі. Як потым успамінаў А. В. Баліцкі, ён рос, выхоўваўся і вучыўся ў абстаноўцы галечы і голада.**

Пасля вучобы ў Лашанскім пачатковым вучылішчы Антон паступае ў Свіслацкую настаўніцкую семінарыю, якую заканчвае ў 1910 годзе з адзнакай. Затым ён працуе вясковым настаўнікам. Потым — вучоба ў Віцебскім настаўніцкім інстытуце. Тут пры непасрэдным удзеле Антона Баліцкага ствараецца літаратурна-рэвалюцыйны гурток, у склад якога ўваходзіць каля 15 студэнтаў. Пасля заканчэння інстытута ў студзені 1916 года Баліцкі мабілізаваны на ваенную службу. Як асобу, маючую пэўны адукацыйны цэнз, яго накіравалі ў ваеннае вучылішча. Праз чатыры месяцы Антон Васільевіч Баліцкі атрымлівае званне прапаршчыка. У якасці малодшага афіцэра ён служыў спачатку ў Растове-на-Доне ў 249-м пяхотным палку, а потым у Бендэрах у 100-м пяхотным запасным палку ў чыне падпаручыка. Тут і застала яго рэвалюцыя.

А. В. Баліцкі прыняў актыўны ўдзел у грамадзянскай вайне. Ён быў начальнікам аднаго з партызанскіх атрадаў, які ў 1919—1920 гадах дзейнічаў у тыле дзянікінцаў. У 1921 годзе Баліцкі напіша ў сваёй аўтабіяграфіі: «У 1919 годзе, скрываючыся ад добраахвотнікаў (салдат і афіцэраў добраахвотніцкай арміі Дзянікіна— Э. І.) у в. Бяляеўка Адэскай губерні, я арганізаваў там з рэвалюцыйна настроеных сялян і рабочых водаправоднай станцыі паўстанцкі атрад Прыднястроўя, з якім і аперыраваў супраць добраахвотнікаў».

З кастрычніка 1921 г. А. В. Баліцкі — намеснік наркома асветы БССР.

Моладзі нашай рэспублікі цяжка сабе ўявіць, якую спадчыну атрымала ў гэтай галіне Савецкая Беларусь. Успамінаючы першыя крокі культурнага будаўніцтва ў рэспубліцы, Антон Васільевіч пісаў у 1928 годзе: «Савецкая ўлада знайшла культурна-асветную справу ў поўным заняпадзе. Імперыялістычная вайна, што адбывалася на тэрыторыі Беларусі, эвакуацыя, грамадзянская вайна з белапольскай акупацыяй— усё гэта прывяло стан народнай асветы на тэрыторыі БССР да поўнага заняпаду».

У гэты час наркома Ігнатоўскага, яго намесніка Баліцкага можна было сустрэць у розных кутках нашай рэспублікі. Разам з мясцовымі партыйнымі і савецкімі органамі яны імкнуліся хутчэй вырашыць многія пытанні развіцця новай савецкай школы.

Нягледзячы на цяжкае эканамічнае становішча Савецкай Беларусі, колькасць школ хутка расла. Ужо ў 1921 годзе ў рэспубліцы налічвалася да 6 тысяч школ, у якіх навучалася каля 450 тысяч дзяцей, або 60 працэнтаў усіх дзяцей школьнага ўзросту, г. зн. значна больш, чым да рэвалюцыі. Працавала ў іх 10,8 тысячы настаўнікаў.

Калі Ігнатоўскі быў вылучаны на пасаду старшыні Інстытута беларускай культуры, пастановай Прэзідыума ЦВК БССР ад 12 лютага 1926 года народным камісарам асветы рэспублікі прызначаецца Антон Васільевіч Баліцкі. На гэтай адказнай пасадзе ён працаваў адносна невялікі тэрмін — крышку больш трох з паловай гадоў. Але можна без перабольшання сказаць, што гэты час — самы яркі этап на жыццёвым шляху аднаго з выдатных арганізатараў народнай асветы Савецкай Беларусі А. В. Баліцкага.

Вось што ўспамінае аб гэтым перыядзе сястра яго жонкі Ада Паўлаўна Высоцкая: «Антон Васільевіч часта выязджаў у раёны для арганізацыі адкрыцця сельскіх і гарадскіх школ. Ён шмат зрабіў па арганізацыі прафадукацыі, тэхнікумаў, рабфакаў і вышэйшых навучальных устаноў, падбору кадраў. Часта выступаў з дакладамі аб У. І. Леніне, аб народнай асвеце ў Беларусі, аб ліквідацыі непісьменнасці...»

З імем А. В. Баліцкага звязаны прынцыповыя змены ў арганізацыі і развіцці сістэмы народнай асветы Савецкай Беларусі. У сваім артыкуле «Прынцыповыя пытанні асветы» Антон Васільевіч адзначаў: «Настаўніцкаму з'езду, які на гэтых днях адбываецца, належыць абгаварыць цэлы шэраг прынцыповых пытанняў, якія датычаць будаўніцтва народнай асветы.

Асабліва важнай задачай у бліжэйшыя гады з'яўляецца праца па ўвядзенню ўсеагульнага абавязковага навучання дзяцей. Існуючая школьная сетка ахоплівае толькі 65 працэнтаў дзяцей узросту ад 8 да 11 гадоў... Ахапіць школаю ўсіх дзяцей школьнага ўзросту — вось задача, якая на працягу цэлага шэрагу гадоў будзе стаяць перад усёй рэспублікай цалкам і перад органамі Наркамасветы ў асаблівасці».

І вось ён наступіў — доўгачаканы для Баліцкага дзень. 7 красавіка 1926 года па яго ініцыятыве ЦВК і СНК БССР прынялі пастанову аб увядзенні на Беларусі ўсеагульнай абавязковай пачатковай адукацыі дзяцей ва ўзросце ад 8 да 11 гадоў.

На вялікі жаль, плённая дзейнасць Антона Васільевіча па развіццю народнай асветы, навукі і культуры Савецкай Беларусі спачатку затармазілася, а потым і зусім была спынена. У канцы 20-х гадоў на жыццёвым небасхіле Баліцкага з'явіліся чорныя хмары. Менавіта ў гэты час пачынаецца кампанія па выкрыццю так званага нацыянал-дэмакратызму. 31 жніўня 1929 года Антон Васільевіч быў вызвалены ад абавязкаў Народнага камісара асветы БССР.

Як жа склаўся яго далейшы лёс! Звольніць Баліцкага з работы звольнілі, але ўзамен другой не далі. Адразу ж стала цяжка матэрыяльна, але справа не толькі ў гэтым. Антон Васільевіч не прадстаўляў сабе жыцця без працы: навошта тады жыць!

А. В. Баліцкі звяртаецца да першага сакратара ЦК КП(б)Б Я. Б. Гамарніка. Пытанне аб яго далейшай працы абмяркоўваецца на пасяджэнні Бюро Цэнтральнага Камітэта Кампартыі 3 кастрычніка 1929 года. Яно прымае наступную пастанову: «Прасіць прэзідыум ЦКК аб пераглядзе сваёй пастановы ў частцы забароны т. Баліцкаму працаваць на адказнай працы і ў выпадку згоды ЦКК рашыць пытанне аб прызначэнні т. Баліцкага намеснікам дырэктара Белсельтрэста».

15 кастрычніка 1929 года адбылося пасяджэнне ЦКК КП(б)Б, на якім прысутнічалі таварышы Калінін, Рыськін, Ляўкоў, Лубуж, Вінаградаў, Лазоўскі, Юргенсон. Прыводзім вытрымку са стэнаграмы пасяджэння: «Слухалі: просьбу ЦК КП(б)Б аб пераглядзе пастановы ЦКК КП(б)Б ад 17/IX—1929 г. аб справе Баліцкага. Пастанавілі: ...лічыць немагчымым перагляд сваёй пастановы (аб забароне т. Баліцкаму займаць адказныя кіруючыя пасады на два гады і пасылцы яго на нізавую работу — Э. І.).

Старшыня ЦКК КП(б)Б (Калінін)».

Калі ж быў арыштаваны А. В. Баліцкі! Гэта адбылося 3 верасня 1930 года. А праз паўтара месяца — 18 кастрычніка рашэннем Бюро ЦК КП(б)Б ён выключаны з партыі пры разглядзе пытання па справе «Саюза вызвалення Беларусі».

На падставе артыкулаў $58^{11}$ і $58^{2}$ усе абвінавачваемыя былі кінуты ў канцлагер на 10 год кожны.

Антон Васільевіч адбываў пакаранне ў Беламорска-Балтыйскім лагеры НКУС. Па пастанове оперупаўнаважанага следчага аддзела УДБ НКУС Быхоўскага ад 20 чэрвеня 1937 года, па зноў адкрыўшыхся абставінах, якія сведчылі аб прыналежнасці Баліцкага да антысавецкай арганізацыі, ён, як гэта бачна з матэрыялаў справы, быў вернуты да следства.

25 верасня 1937 года Баліцкаму было прад'яўлена абвінавачванне ў тым, што ён з'яўляецца адным з кіраўнікоў нацыянал-фашысцкай арганізацыі ў Беларусі, вёў актыўна дыверсійна-шкодніцкую работу ў сельскай гаспадарцы, прамысловасці і савецкім апараце і на глебе шпіёнскай дзейнасці быў звязаны з польскім консулам у Мінску. На падставе артыкулаў 68, 69, 70 і 76 КК БССР А. В. Баліцкі быў прыгавораны да вышэйшай меры пакарання. 30 кастрычніка 1937 года прыгавор быў прыведзены ў выкананне.

Вызначэннем Ваеннай калегіі Вярхоўнага суда СССР ад 25 сакавіка 1958 года справа па абвінавачванню А. В. Баліцкага, асуджанага ў 1937 годзе, спынена за адсутнасцю складу злачынства.

Значна даўжэй прыйшлося чакаць рэабілітацыі па справе 1930—1931 гадоў. Аналіз матэрыялаў справы і дадатковая праверка, праведзеная ў 1988 годзе, сведчаць аб тым, што факт існавання на Беларусі арганізацыі «Саюз вызвалення Беларусі» не даказаны.

14 чэрвеня 1988 года судовая калегія па крымінальных справах Вярхоўнага суда Беларускай ССР прыняла рашэнне аб поўнай рэабілітацыі віднага дзяржаўнага дзеяча Савецкай Беларусі, былога наркома асветы рэспублікі, члена Цэнтральнага Выканаўчага Камітэта БССР Антона Васільевіча Баліцкага. Гэта адбылося праз 57 год пасля яго асуджэння і праз 58 год пасля яго арышту.

Э. ІОФЕ,
кандыдат гістарычных навук.

НА ЗДЫМКАХ: А. В. БАЛІЦКІ (1915); дэлегаты VIII З'езда Саветаў Беларусі, шосты (злева направа) у другім радзе А. В. БАЛІЦКІ.



**(Працяг. Пачатак у №№ 33—36).**

Цудоўнай ілюстрацыяй стану зацікаўленняў нямецкіх даследчыкаў беларускай праблематыкай у перыяд перадгітлераўскі можа быць дзейнасць вроцлаўскага Інстытута Усходняй Еўропы (Osteuropa-institut). Для прыкладу, да 1927 г. у выдаваных гэтым інстытутам нямецкамоўных «Гадавіках славянскай культуры і гісторыі» не з'явілася літаральна ніводнай працы, нават бібліяграфічнай нататкі, што датычыла б Беларусі. У 1928—35 гг., г. зн. да канца выхаду тых гадавікоў, апублікавана ў іх 3 артыкулы, 4 пашыраныя інфармацыі і каля 40 рэцэнзій, прысвечаных пытанням гісторыі, літаратуры, культуры і эканомікі Беларусі. За выключэннем двух рэцэнзійных нататак нямецкай аўтаркі Эмы Гаэртэль, усе астатнія матэрыялы былі падрыхтаваныя беларускімі аўтарамі, галоўным чынам Уладзімірам Самойлам і Антонам Луцкевічам.

Беларускае пытанне не набыло ў Нямеччыне большага значэння і пасля таго, як у 1933 г. да ўлады прыйшлі нацыянал-сацыялісты. Нягледзячы на тое, што адным з важнейшых пунктаў палітыкі Трэцяга Рэйха становіцца антыкамунізм і знішчэнне Савецкай дзяржавы, аднак да 1940 г. у Нямеччыне не было выпрацавана ніякіх дакладных праектаў развалу СССР. Беларускай і ўкраінскай справай у СССР і Польшчы, праўда, цікавіліся пэўныя інстанцыі партыйныя ды дзяржаўныя, а таксама вайсковая разведка, аднак іхнія погляды ў гэтай справе былі надта разрозненыя, бессістэмныя і не адлюстроўвалі памкненняў дзяржаўнай палітыкі, якую меў на ўвазе Адольф Гітлер. Сведчыць пра тое і адмова прадстаўленай у чэрвені 1938 г. Альфрэдам Розенбергам прапановы стварыць цэнтральны партыйна-дзяржаўны орган па справах выпрацоўкі адзінай усходняй палітыкі ў дачыненні да бальшавізму і дасягнення ў гэтай галіне планавай лініі.

Уплываў на гэта перш за ўсё канкрэтны ўклад геапалітычны, паводле якога агрэсіўныя намеры гітлераўскай Нямеччыны ў адносінах да СССР не маглі быць рэалізаваныя без супрацоўніцтва з Польшчай або без ейнай папярэдняй нейтралізацыі як дзяржавы дзеля выхаду такім чынам на непасрэдныя кантакты з СССР. Пачынаючы з 1935 г., Гітлер шматразова намагаўся схіліць польскі ўрад да сумеснага паходу на СССР, мэтай якога павінна была стаць, між іншым, заваёва Украіны і Беларусі. Пры магчымасці такога варыянту міжволі акрэслівалася спецыфічная канцэпцыя развіцця ўкраінскага і беларускага пытанняў, дзе пэўная роля адводзілася Польшчы. Апошні раз Гітлер зрабіў падобную прапанову ў студзені 1939 г. пад час сустрэчы з міністрам замежных спраў Юзэфам Бецкам, аднак засталася яна адхіленая польскім урадам. У гэтай сітуацыі пытанні ўкраінскае ды беларускае на пэўны час цалкам знікаюць з парадку дня вялікай нямецкай палітыкі. Выявай таго быў нямецка-савецкі пакт 23.08.1939 г., які акрэсліў межы зацікаўленняў абедзвюх гэтых дзяржаў у Польшчы, пакідаючы усе заходнебеларускія, заходнеўкраінскія, а нават і некаторыя этнічна польскія тэрыторыі ў сферы ўплыву СССР.

У такім стане спраў у 1933—1939 гг. дзейнасць прыхільнікаў развалу СССР, перш за ўсё Розенберга і падпарадкаванага яму Аддзела замежнай палітыкі Нямецкай нацыянал-сацыялістычнай рабочай партыі (Aussenpolitisches Amt der NSDAP, далей — АПА) не мела шанцаў поспеху і на беларускай тэрыторыі не атрымала прыкметных памераў. Варта аднак звярнуць увагу на падобныя спробы ўплыву на беларускае асяроддзе ў Польшчы. Ужо ўлетку 1933 г. АПА наладзіла сувязь з Фабіянам Акінчыцам — ідэолагам і лідэрам невялікай групы беларускіх нацыянал-сацыялістаў. Пры падтрымцы АПА гэтая група ў лістападзе 1933 г. прыступіла да выдання ў Вільні часопіса «Новы шлях». Амаль адначасова, пэўна таксама з ініцыятывы Акінчыца, у Берліне быў створаны Саюз беларускіх студэнтаў Нямеччыны. І ўсё ж гэтыя намаганні не прывялі да спадзяваных вынікаў. Той жа Саюз студэнтаў з прычыны малой колькасці беларускай моладзі, што займалася ў нямецкіх навучальных установах, не здолеў развіць шырокай дзейнасці, дый тыраж «Новага шляху» не перавышаў 500 асобнікаў, што сведчыла пра невялікую ягоную папулярнасць.

Не былі паспяховымі і спробы Акінчыца стварыць на абшары паўночнаўсходніх ваяводстваў польскай дзяржавы Беларускую нацыянал-сацыялістычную партыю. Прычынаю таго былі як недастаткова шырокая грамадская падтрымка фашысцкага руху, так і абмежаванне гэтага руху польскімі адміністрацыйнымі ўладамі, якія не без слушнасці расцэньвалі яго як гітлераўскую агентуру. У выніку Акінчыц у кастрычніку 1936 г. не атрымаў дазволу ўлад на скліканне з'езда беларускіх нацыянал-сацыялістаў, а ў пачатку 1937 г. дзейнасць ягонай групы была практычна забаронена. Адначасова забароненым аказалася выданне часопіса «Новы шлях». Ацэньваючы дзейнасць групы беларускіх нацыянал-сацыялістаў, Энгельгарт пісаў яшчэ пад час вайны, што значэння яна не мела.

Зацікаўленне беларускай праблематыкай выявілі таксама нямецкія навукова-даследчыя асяродкі. У 1937 г. заняўся ёю Нямецкі інстытут знешніх сувязяў пры Берлінскім універсітэце, у якім была створана беларуская секцыя з біблятэкай. Беларутэністычнымі працамі




кіраваў прафесар Герхард фон Мендэ. Улетку 1937 г. наведаў ён разам з некалькімі студэнтамі Вільню, дзе закупіў вялікую колькасць беларускіх кніг для інстытуцкай бібліятэкі і меў гутаркі з беларускімі дзеячамі. Беларускім пытаннем заняўся таксама Берлінскі інстытут унутраных і знешніх даследаванняў. Вынікі дзейнасці абодвух гэтых інстытутаў былі, відаць, прызначаныя галоўным чынам для службовых мэтаў, пра што сведчыць мізэрна малая колькасць апублікаваных імі прац.

Супрацоўніцтва з групай Акінчыца, даследчыя працы ды кантакты з беларускімі дзеячамі ў Вільні сведчылі пра імкненне Розенберга і АПА стварыць на тэрыторыі Заходняй Беларусі палітычны плацдарм для плануемага нападу на СССР. Тыя самыя мэты адлюстроўвалі яшчэ больш шырокія заляцанні з заходнеўкраінскімі асяроддзямі і арганізацыямі. Наконт гэтага Арно Шыкеданц, шэф штаба Розенберга, пісаў 14.06.1939 г. у сваёй нататцы да шэфа Рэйхс-Канцэлярыі Ганса Ламера наступнае: «...Зусім не выключана магчымасць, што ў выпадку нямецка-польскага канфлікту Саветы пад выглядам узброенай дапамогі Польшчы зоймуць тыя абшары (заходнебеларускія і заходнеўкраінскія — **Ю. Т.**), каб застацца на іхняй мяжы. Пры падобным новым падзеле Польшчы Вялікая Нямеччына відавочна страціла б найбольш шматабяцальныя перспектывы расчлянення самой Расіі, у той час як адцягванне ўвагі Саветаў ад тых дзяржаў, што ляжаць між намі, прынесла б для Нямеччыны толькі карысць. Тэрыторыі з беларускім і заходнеўкраінскім насельніцтвам мелі б неацэннае значэнне як асяродкі і базы для далёкіх перспектыў разбіцця Расіі... Разам з тым гэта мог быць найбольш адпаведны момант, каб уцягнуць абодва гэтыя народы ў арбіту нямецкіх інтарэсаў дзеля адпору Расіі...».

Нататка Шыкеданца зусім крыху апярэдзіла заключэнне нямецка-савецкага пакта, што сведчыла як пра нястачу каардынацыі ініцыятыў вядучых палітыкаў Трэцяга Рэйха ў дачыненні ўсходняй палітыкі, так і пра тое, што канцэпцыі Розенберга і ягоных супрацоўнікаў не мелі істотных уплываў на рашэнні Гітлера. Падпісанне таго пакта было для Розенберга неспадзяванкай і стрэсам. У сваім дзённіку 25.08.1939 г. ён занатоўваў: «Хіба можам мы яшчэ размаўляць пра выратаванне і выхаванне Еўропы, калі вымушаны прасіць аб дапамозе тых, хто руйнуе Еўропу?.. Калі да таго ж вымушаныя аддаць Савецкаму Саюзу тэрыторыю польскай Украіны, дык пасля карпацкай Украіны гэта другі з нашага боку ўдар, скіраваны ў большай ступені па сілах антымаскоўскіх».

Сапраўдны накірунак усходняй палітыкі Трэцяга Рэйха быў амаль непрадбачны нават для такіх гітлераўскіх дзеячаў, як Розенберг і Шыкеданц. У такой сітуацыі кіраванне адрасаванай для беларусаў нямецкай прапагандай натыкалася на зразумелыя цяжкасці. «Новы шлях» — адзіны рупар гэтай прапаганды на тэрыторыі Беларусі — займаўся, галоўным чынам, пытаннямі грамадска-гаспадарчай мадэлі нацыянал-сацыялізму, затое не датычыў прыблем адносін Трэцяга Рэйха да справы беларускай дзяржаўнасці. Напэўна гэтая акалічнасць у вялікай ступені спрычынілася да палітычнага банкруцтва групы Акінчыца. Усе астатнія заходнебеларускія арганізацыі і палітычныя ды грамадскія групы паставіліся да прапаганды фашызму абыякава або варожа. Адносілася гэта не толькі да Камуністычнай партыі Заходняй Беларусі (распушчанай Камінтэрнам у жніўні 1938 года) і кіраваных камуністамі легальных левых арганізацый, а таксама цэнтрысцкага, што стаяла на тэндэнцыях адзінага фронта, Беларускага народнага аб'яднання (БНА) і нават да досыць апантанай нацыяналістычнай групы, кіраванай ксяндзом Вінцуком Гадлеўскім, што гуртавалася вакол тыднёвіка «Беларускі фронт».

У 1936—1937 гг. «Беларускі фронт» шматразова выступаў роўна як супраць камунізму, так і фашызму, сцвярджаючы, што ніводзін з тых кірункаў «не нясе беларускаму народу незалежнасці і суверэнітэту, а толькі палітычнае ды эканамічнае падпарадкаванне і схіленне да фізічнага і духоўнага вынішчэння беларускай нацыі, нясе толькі няволю». Падобныя погляды выказваў і орган студэнцкага адгалінавання групоўкі Гадлеўскага — часопіс «25 сакавіка», які называў фашызм ворагам беларускага народа. Рашуча антыфашысцкія тэндэнцыі выказвала прэса БНА — «Хрысціянская думка» і «Шлях моладзі».

Новыя тэндэнцыі беларускай віленскай прэсы прыкмячаюцца ў 1938—1939 гг. Уплывае на гэта абвастрэнне палітычнай сітуацыі ў Еўропе, у тым ліку асабліва далучэнне Аўстрыі да Рэйха і раздзел Чэхаславакіі, а таксама спадарожная гэтым падзеям гітлераўская прапаганда, якая пераконвала ў імкненні Трэцяга Рэйха ахоўваць інтарэсы малых народаў і нацыянальных меншасцяў. Немалое ўражанне пры гэтым мелі пагалоскі пра рэгістрацыю ўкраінцаў і беларусаў у Нямеччыне, у рамках якой трэба было адказаць на пытанні аб сваёй вайсковай кваліфікацыі, а таксама пра маёнтак, канфіскаваны савецкімі ўладамі. Адначасова ў нямецкай прэсе з'яўляюцца звесткі аб прыкладах дыскрымінацыі польскімі ўладамі беларускага насельніцтва. Усё гэта стварала ўражанне зацікаўленасці Нямеччыны беларускім пытаннем. Уражанні тыя ўзмацнялі публікацыі польскай прэсы пра нібыта падтрыманне Нямеччынай ідэі беларускай дзяржаўнасці і ўцягванне Беларусі ў калаўрот нямецкай палітыкі. Асабліва красамоўнымі былі паведамленні пра з'езд беларускіх дзеячаў з Польшчы, СССР, ЗША, Літвы і Эстоніі, які нібыта меўся адбыцца ў чэрвені 1939 г. у Гданьску і ў рамках якога павінен быць прадстаўлены дэлегатам план нямецкага ўрада аб стварэнні незалежнай беларускай дзяржавы, а таксама гаварылася пра імкненне беларусаў падтрымліваць нямецкія намеры.

Газетныя сенсацыі, якія не мелі нічога агульнага з сапраўднымі планамі нямецкага ўрада, паўтараліся беларускай прэсай, узбуджаючы надзеі розных палітычных груповак на вырашэнне немцамі справы беларускай дзяржаўнасці. «Беларускі фронт», які яшчэ ў 1937 г. выракаўся ад фашызму, у пачатку 1939 г. выразна змяніў сваю палітычную лінію. У чэхаславацкіх падзеях орган групоўкі ксяндза Гадлеўскага прыкмячаў «практычную рэалізацыю права самавызначэння нацый, якая ў сваёй найчысцейшай форме была прадэманстравана Нямеччынай». Газета выказвала ўхвалу гітлераўскаму прынцыпу правадырства як механізму ўжывання ўлады і штораз часцей звяртала ўвагу на зацікаўленасць Нямеччыны беларускім пытаннем у кантэксце захопу і расчлянення СССР. «На нашу думку,— пісаў «Беларускі фронт»,— падзелу Расіі на асобныя нацыянальныя дзяржавы не трэба баяцца: гэта натуральны для нашага часу працэс».

Больш крытычна і грунтоўна ацэньвала сітуацыю прэса Беларускага народнага аб'яднання. Аднак, і яна не хавала задавальнення ад уяўных планаў. У канцы 1938 года «Хрысціянская думка» пісала ў перадавым артыкуле «Нямецкія імкненні і беларусы» наступнае: «Апошнім часам Нямеччына выказвае вялікае зацікаўленне Усходняй Еўропай — СССР, дзе ляжаць Украіна і Беларусь, не таму, што хацелі б дапамагчы ўкраінцам і беларусам збудаваць свае дзяржавы, а хутчэй таму, што спадзяюцца такім чынам разграміць СССР, адчыніць для сваёй прамысловасці вялікі рынак збыту ды прыдбаць хлебныя багацці Украіны і лясныя багацці Беларусі... Гэта, аднак, не азначае, што беларусы павінны ўжо цяпер баяцца нямецкіх планаў або ўжо цяпер з імі змагацца. Не! Трэба толькі мець на ўвазе, што ніхто не можа разлічваць на дапамогу без свайго інтарэсу, і што найбольш карыснай з'яўляецца толькі ўласная сіла. З гэтай прычыны не варта слепа захапляцца ні Гітлерам, ні іншымі дабрадзеямі, таму што кожны добры, але спярша для сябе, а потым для кагосьці». Падобны тэкст змясціў таксама «Шлях моладзі», дапаўняючы яго высновай, што для «беларусаў з гэтага ўсяго важным застаецца найперш тое, што беларуская справа, беларуская праблема становіцца праблемай міжнароднай».

Гэтыя спекуляцыі не выклікалі больш-менш шырокага водгуку ў народных масах не толькі ва Усходняй Беларусі, дакуль яны звычайна не дасягалі, але таксама ў заходняй частцы краіны, нягледзячы на пераважнае незадавальненне грамадска-эканамічнай палітыкай перадвераснёўскага (1939 г.) польскага кіраўніцтва. Ацэньваючы стан заходнебеларускай вёскі напярэдадні другой сусветнай вайны, «Беларускі фронт» адзначаў, што яна «напружана чакае хоць нейкіх зменаў... Тут маюць уплыў камуністы, але ў цяперашніх умовах мелі б яго і фашысты ды нават манархісты, каб такія існавалі. Філасофія сялянскіх мас наступная: нічога не гаварыць, нічога не бачыць, нічога не рабіць... Галодныя, абрабаваныя, непісьменныя сяляне не зацікаўленыя ніякімі палітычнымі або грамадскімі ідэямі... З энтузіязмам пойдуць яны за кожным, хто паабяцае ім хлеб і болей зямлі, каб той хлеб вырошчваць». Ацэнка гэтая не была беспадстаўнай, аднак у існуючых умовах хлеб і зямлю абяцалі толькі камуністы. Гэта і абумоўлівала сімпатыі пераважнай часткі сялянства да бальшавізму і СССР, выявою чаго было прыхільнае прыняцце ўступаючай у верасні 1939 г. Чырвонай Арміі. Не ігнаравалі таго нават аўтары, якіх цяжка падазраваць у прасавецкіх тэндэнцыях.

**Пераклад з польскай**
**В. МАРТЫНЕНКІ.**

**(Працяг будзе).**

# ЛІФТ у пекла

8. Пер Лагерквіст (Швецыя)

Намеснік дырэктара банка Йенсан адчыніў звонку дзверы шыкоўнага ліфта і пяшчотна прапусціў наперад грацыёзнае стварэнне, ад якога пахла пудрай і футрам. У ліфце яны апусціліся на мяккае сядзенне, цесна прытуліўшыся адзін да аднаго, і ліфт пайшоў уніз. Маленькая жанчына пацягнулася да Йенсана паўадкрытымі вуснамі, якія пахлі віном, і яны пацалаваліся. Яны толькі што павячэралі на адкрытай тэрасе атэля, пад зоркамі, і цяпер сабраліся павесяліцца.

— Як цудоўна было наверсе, каханы,— прашаптала яна.— Так паэтычна сядзець там з табой, быццам мы лунаем высока-высока, сярод зорак. Толькі там пачынаеш разумець, што такое каханне. Ты ж кахаеш мяне, праўда?

Намеснік дырэктара банка адказаў пацалункам яшчэ больш доўгім, чым першы. Ліфт апускаўся.

— Як добра, што ты прыйшла, мая маленькая,— сказаў ён,— я ўжо месца сабе не знаходзіў.

— Так, але калі б ты ведаў, які ён быў невыносны! Як толькі я пачала прыводзіць сябе ў парадак, ён спытаў мяне, куды я іду. "Туды, куды лічу патрэбным",— адказала я. Я ж не арыштантка. Тады ён сеў і глядзеў на мяне, глядзеў увесь час, пакуль я апраналася,надзявала маю новую бэжавую сукенку, як, па-твойму, яна мне пасуе? Што наогул падыходзіць мне больш, можа, усё ж ружовая?

— Табе ўсё падыходзіць, каханая,— захоплена адказаў намеснік дырэктара банка, — але такой чароўнай, як сёння, я яшчэ не бачыў цябе ніколі.

Удзячна ўсміхнуўшыся яму, яна расшпіліла футра, і вусны іх зліліся ў доўгім пацалунку. Ліфт апускаўся.

— Потым, калі я ўжо была гатовая і сабралася ісці, ён схапіў мяне за руку і сціснуў яе так, што да гэтага часу баліць, і хоць бы слова сказаў! Такі грубы, ты сабе ўявіць не можаш! "Ну, да пабачэння",— кажу я яму. Ён, вядома, на гэта ні слова. Упарты, што прама сіл няма.

— Бедная, мая маленькая,— сказаў намеснік дырэктара банка Йенсан.

— Быццам я не маю права пайсці крыху павесяліцца! Але, ведаеш, такіх сур'ёзных, як ён, напэўна, больш на свеце няма. Не можа глядзець на рэчы проста і натуральна, для яго ўсё пытанне жыцця і смерці.

— Бедная малютка, колькі табе давялося перанесці.

— О, я пакутавала страшна, страшна. Такіх пакут не ведаў ніхто. Толькі сустрэўшы цябе, я пазнала што такое каханне.

— Каханая!— сказаў Йенсан, абдымаючы яе. Ліфт апускаўся.

— Якая асалода,— загаварыла яна, апрытомнеўшы пасля яго абдымкаў,— сядзець з табой там, наверсе, і глядзець на зоркі, і марыць — о, я ніколі гэтага не забуду. Арвід жа такі немажлівы, заўсёды сур'ёзны, у ім няма ні кроплі паэзіі, для яго яна проста недаступная.

— Магу сабе ўявіць, каханая, як гэта жудасна.

— Праўда, жудасна? Не,— сказала яна з усмешкай, працягваючы яму руку,— навошта сядзець і размаўляць пра такія рэчы? Давай лепш выйдзем адсюль і павесялімся. Ты ж кахаеш мяне, праўда?



— Ты яшчэ пытаешся,— сказаў намеснік дырэктара банка і ўпіўся ў яе доўгім пацалункам так, што ў яе аж перахапіла дыханне. Ліфт апускаўся. Йенсан схіліўся над ёй і пачаў абдымаць; яна пачырванела.

— Мы будзем кахаць адзін аднаго сёння ноччу, як ніколі раней, так?..— прашаптаў ён. Яна прыцягнула яго да сябе і заплюшчыла вочы. Ліфт працягваў апускацца.

Ён апускаўся і апускаўся.

Нарэшце Йенсан устаў, твар яго быў чырвоным.

— Але што такое з ліфтам?— выгукнуў ён.—Чаму ён не спыняецца? Па-мойму, мы сядзім і размаўляем тут вельмі доўга — ці не так?

— Так, мілы, час ляціць вельмі хутка.

— Мы тут ужо бог ведае колькі часу! Што гэта азначае?

Ён паглядзеў праз краты дзвярэй. Чорная цемра — і нічога больш. А ліфт між тым усё апускаўся і апускаўся з добрай, роўнай хуткасцю, усё глыбей і глыбей уніз.

— Але бог мой, што гэта значыць? Мы быццам падаем у нейкую бяздонную яму, і гэта працягваецца ўжо цэлую вечнасць!

Яны спрабавалі разгледзець што-небудзь у гэтай бездані. Апраметная цемра — і яны пагружаліся ў яе ўсё глыбей і глыбей.

— Спускаемся ў пекла,— сказаў Йенсан.

— Мне страшна, каханы,— жаласна прагаварыла жанчына, павісаючы на яго руцэ.— Прашу цябе, пацягні хутчэй аварыйны тормаз!

Йенсан пацягнуў з усіх сіл. Не дапамагло: ліфт усё гэтак жа спяшаўся ўніз і ўніз, у бясконцасць.

— Гэта нейкі жах,— выгукнула яна, што нам рабіць?

—А што тут можна зрабіць?— адазваўся Йенсан.— Гэта падобна на трызненне.

Маленькую жанчыну ахапіў адчай, яна заплакала.

— Перастань, дарагая, не плач, нам трэба аднесціся да гэтага разумна. Тут усё роўна нічым не дапаможаш. Так, а цяпер прысядзем. Ну вось, пасядзім спакойна, прыцiснуўшыся адзін да аднаго, і паглядзім, што будзе далей. Павінен жа ён калі-небудзь спыніцца, хаця б перад самім д'яблам.

Так яны сядзелі і чакалі.

— І падумаць толькі,— сказала жанчына,— каб такое здарылася з намі менавіта тады, калі мы сабраліся пайсці павесяліцца!

— Так, вельмі дрэнна атрымалася,— згадзіўся Йенсан.

— Ты ж кахаеш мяне, праўда?

— Дарагая малютка,— сказаў Йенсан і моцна прыціснуў яе да грудзей. Ліфт апускаўся.

Раптам ён спыніўся. Навокал было так светла, што сляпіла вочы. Яны былі ў пекле. Д'ябал ветліва адчыніў дзверы ліфта і, адвесіўшы глыбокі паклон, сказаў:

— Добры вечар.

Апрануты ён быў шыкоўна, у фрак, які вісеў на валасатым спінным пазванку як на ржавым цвіку. Адчуваючы галавакружэнне,Йенсан і жанчына сяк-так выбраліся з кабіны.

— Дзе мы, о божа?— закрычалі яны, здранцвеўшы ад жаху пры выглядзе гэтай страшнай істоты. Д'ябал крыху збянтэжыўшыся, растлумачыў ім, дзе яны.

— Але гэта не так страшна, як прынята думаць,— паспяшаўся ён дадаць,— спадзяюся, паны нават атрымаюць задавальненне. Толькі на адну ноч, наколькі я разумею?

— Так-так!— паспешліва пацвердзіў узрадаваны Йенсан.— Толькі на адну ноч! Заставацца надалей мы не збіраемся, ні ў якім выпадку!

Маленькая жанчына задрыжэла і павісла ў яго на руцэ. Жоўта-зялёнае святло было такое рэзкае, што амаль немагчыма было што-небудзь разгледзець. Было вельмі горача. Калі вочы іх крыху прывыклі, яны ўбачылі, што стаяць на пляцоўцы, вакол якой высяцца ў прыцемках дамы з распаленымі да чырвані ўваходамі; гардзіны былі закрыты, але было відаць праз шчыліны, што ўнутры палыхае полымя.

— Паны, здаецца, кахаюць адзін аднаго?— пачулі яны голас д'ябла.

— Так, бясконца,— адказала жанчына, і яе цудоўныя вочы заблішчэлі.

— Тады вось гэтай дарогай, — сказаў д'ябал і ветліва прапанаваў праводзіць іх. Зрабіўшы некалькі крокаў, яны збочылі з плошчы ў цёмны завулак. Перад брудным парадным вісеў стары разбіты ліхтар.

— Сюды, калі ласка.— Ён адчыніў уваходныя дзверы і адступіў назад, прапускаючы іх.

Яны ўвайшлі. Іх сустрэла тоўстая, з ліслівай ўсмешкай чартоўка з вялікімі грудзямі і катышамі фіялетавай пудры ў барадзе і вусах. Яна моцна дыхала, яе вочы, падобныя на гарошыны перцу, глядзелі дружалюбна, з разуменнем, рогі на лбе былі абвітыя пасмамі валасоў і перавязаны кожны блакітнай шаўковай стужкай.

— Ах, дык гэта пан Йенсан з дамай,— сказала яна,— калі ласка, восьмы нумар.

І яна працягнула ім вялікі ключ. Яны пачалі падымацца ўверх па бруднай лесвіцы. Прыступкі блішчэлі ад тлушчу, на іх было цяжка не праслізнуцца; падымацца прыйшлося на два маршы. Йенсан адшукаў восьмы нумар, і яны ўвайшлі. Пакой быў невялікі, паветра цяжкае. Пасярэдзіне стаяў стол, пакрыты брудным абрусам, ля сцяны — ложак з адпрасаванымі прасцінамі. Пакой здаўся ім утульным. Яны знялі паліто, і вусны іх зліліся ў доўгім пацалунку.

Непрыкметна ў другія дзверы ўвайшоў чалавек у адзенні афіцыянта, але смокінг быў акуратным, а манішка такая чыстая, што,здавалася, свяціцца ў паўцемры ўласным светам. Ступаў ён нячутна, крокаў яго не было чуваць, а рухі здаваліся нейкімі механічнымі — неўсвядомленымі. Выраз твару строгі, нерухомыя вочы глядзелі прама перад сабой. Твар змярцвела бледны, а на скронях была відаць адтуліна ад кулі. Ён прывёў пакой у парадак, выцер туалетны столік, паставіў начны гаршчок і памыйнае вядро.

Яны не звярталі на яго асаблівай увагі, але калі ён сабраўся ісці, Йенсан сказаў:

— Напэўна, мы возьмем крыху віна, прынясіце нам паўбутэлькі мадэры.

Чалавек пакланіўся і знік.

Йенсан зняў пінжак. Жанчына вагалася:

— Ён жа яшчэ вернецца.

— Ну, дзетка, у такім месцы, як гэта, саромецца няма чаго, распранайся — і ўсё.

Яна зняла сукенку, какетліва падцягнула штонікі і села да яго на калені. Гэта было цудоўна.

— Падумай толькі,— прашаптала яна,— мы з табой адны, у такім незвычайным, рамантычным месцы! Як паэтычна! Я не забуду гэтага ніколі...

— Шчасце маё,— сказаў ён, і вусны іх зліліся ў доўгім пацалунку.

Чалавек увайшоў зноў, зусім бясшумна. Няспешнымі механічнымі рухамі ён паставіў шклянкі, наліў у іх віно. На яго твар упала святло начніка. У гэтым твары не было нічога асаблівага, калі не лічыць таго, што ён быў вельмі бледны, а на скроні ззяла прабітая куляй адтуліна.

Ускрыкнуўшы, жанчына саскочыла з каленяў Йенсана.

— Божа мой! Арвід! Дык гэта ты! Гэта ты! О бог мой, ён памёр! Ён застрэліўся!

Чалавек стаяў нерухома, ён глядзеў толькі наперад, на тое, што было перад ім. На яго твары не было пакут, ён быў строгім, вельмі сур'ёзным.

— Але, Арвід, што ты зрабіў, што ты зрабіў! Як мог ты?.. О, каханы, калі б хоць што-небудзь падобнае прыйшло мне ў галаву, можаш быць упэўненым, я засталася б дома з табой. Але ж ты ніколі нічога такога мне не казаў. Ты не сказаў мне пра гэта ніводнага слова! Адкуль жа мне было ведаць, калі ты не сказаў! О, божа...

Яе калацілі дрыжыкі. Чалавек глядзеў на яе як на чужую, незнаёмую, погляд быў ледзяны і бясколерны, ён, не спыняючыся, праходзіў скрозь усё, што аказвалася перад ім. Жоўта-белы твар блішчэў, ніякай крыві з раны не ішло, там проста была адтуліна.

— О, гэта страшна, страшна!— закрычала яна.— Я не хачу тут заставацца! Пойдзем зараз жа, я гэтага не вынесу!

Яна падхапіла сукенку, футра і капялюшык і выскачыла з пакоя. Йенсан пайшоў за ёй. Яны кінуліся ўніз па лесвіцы, яна паслізнулася і села ў пляўкі і попел ад цыгарэт. Унізе стаяла тая ж рагатая старая, яна дружалюбна і з разуменнем ухмылялася ў бараду, ківала галавой.

На вуліцы яны крыху супакоіліся. Яна апранулася, прывяла ў парадак свой туалет, папудрыла нос. Йенсан, быццам абараняючы, абняў яе за талію, пацалункамі спыніў слёзы, якія вось-вось ужо былі гатовыя паліцца з яе вачэй, ён быў такі добры. Яны пакрочылі да плошчы.

Обер-д'ябал па-ранейшаму там прагульваўся, яны зноў сустрэліся з ім.

— Як, ужо ўсё?— сказаў ён.— Спадзяюся, паны засталіся задаволеныя?

— О, гэта было жудасна!— усклікнула жанчына.

— Не гаварыце так, не можа быць, каб вы на самай справе так думалі. Паглядзелі б вы, васпані, як было раней — зусім інакш. А цяпер на пекла грэх скардзіцца. Мы робім усё, каб чалавек не толькі не адчуў болю, але і атрымаў задавальненне.

— Што праўда, то праўда,— згадзіўся пан Йенсан,— прыходзіцца прызнаць, што стала больш гуманна.

— О, так,— сказаў д'ябал,— мадэрнізавана ўсё зверхуданізу, як мае быць.

— Вядома, трэба ж ісці ў нагу з векам.

— Так, цяпер засталіся толькі душэўныя пакуты.

— І дзякуй богу!— усклікнула жанчына.

Д'ябал ветліва праводзіў іх да ліфта.

— Да пабачэння,— сказаў ён, адвешваючы нізкі паклон,— і запрашаем зноў.

Ён зачыніў за імі дзверы. Ліфт пайшоў уверх.

— Як усё ж добра, што гэта закончылася,— з палёгкай сказалі абое, калі, цесна прытуліўшыся адзін да аднаго, апусціліся на мяккае сядзенне.

— Без цябе я б ніколі не перанесла гэтага,— прашаптала яна. Ён прыцягнуў яе да сябе, і вусны іх зліліся ў доўгім пацалунку.

— Падумай толькі,— сказала яна, апрытомнеўшы ад яго абдымкаў,— каб ён мог зрабіць такое! Але ён заўсёды быў дзіваком. Ніколі не мог глядзець на рэчы проста і натуральна, для яго ўсё было пытаннем жыцця і смерці.

— Ну і неразумна.

— Мог жа ён сказаць мне пра гэта? Я б засталася дома. Мы маглі б сустрэцца іншым разам.

— Ну вядома,— сказаў Йенсан,— вядома, сустрэліся б іншым разам.

— Але, каханы мой, што мы сядзім і гаворым пра гэта?— прашаптала яна, абвіваючы рукамі яго шыю.— Усё ж засталося ў мінулым.

— Так, мая дзяўчынка, усё ў мінулым.

Ён абняў яе. Ліфт ішоў уверх.

**Пераклад М.КУЛАКОВІЧ.**
**Старонку вядзе П.СІМАНАУ.**

## Тэлебачанне

### Субота, 14 верасня

**Праграма Беларускага тэлебачання**

15.05. "Ля Чортава логава". Мастацкі фільм.
16.25. Рэклама.
16.30. Звязда. "Неба кліча рамантыкаў". Да 50-годдзя заснавання авіяцыйнага палка.
17.30. Тэлевізійны дзіцячы дзень.
17.55. Рэклама.
18.00. Рытм.
18.55. Футбол. Чэмпіянат СССР. "Днепр" (Днепрапятроўск) — "Дынама" (Мінск).
20.50. Калыханка.
21.05. Вакальна-інструментальны ансамбль "Арызонт".
21.30. Рэклама.
21.35. Свабоднае слова.
21.45. "Чырвоная палатка". Мастацкі фільм. 2-я серыя.
23.05. Рэха дня.
23.20. Першы беларускі тэлевізійны конкурс маладых выканаўцаў эстраднай песні. Гала-канцэрт.

**Першая агульнасаюзная праграма**

6.30. Канцэрт.
7.05. "Лапік і воблака". Мультфільм.
8.00. Рытмічная гімнастыка.
8.30. ТСН.
8.45. Канцэрт.
9.25. "Бурда модэн" прапануе...
9.55. Ранішняя забаўляльная праграма.
10.25. Здароўе.
10.55. У свеце жывёл.
11.40. Залатое руно.
12.00. Дачка паэта.
12.30. Спявае М.Гнацюк.
13.15. Партнёр.
13.45. "Дом, які пабудаваў Свіфт". 1-я серыя.
15.00. ТСН.
15.15. "Дом, які пабудаваў Свіфт". 2-я серыя.
16.20. "Зямля — наш агульны дом". Тэлевізійны фотаконкурс.
16.25. Гонг.
17.40. С.Рахманінаў. Сімфанічная фантазія "Уцёс".
17.55. "Дзяржавы вечная любоў". Маскоўскі Крэмль. Фільм 2-гі. "Саборы".
18.35. Прэм'ера шматсерыйнага мультфільма "Пчала Мая" (Германія — Аўстрыя). 12-я серыя.
19.00. Футбол. Чэмпіянат СССР. "Спартак" (Масква) — "Дынама" (Масква). 2-гі тайм.
19.50. Народныя мелодыі.
20.00. Прэм'ера тэлевізійнага мастацкага фільма "Карыбская тайна". 1-я серыя.
21.00. Інфармацыйная праграма.
21.40. "Карыбская тайна". 2-я серыя.
22.40. ТСН.
23.00. "Тэатр аднаго акцёра". Я.Шыфрын. "Я спяваю Шастаковіча".
0.30. Хіт-парад штотыднёвіка "Сям'я".
1.45. "Клоун". Тэлевізійны мастацкі фільм. 1-я серыя.
2.55. "А вокны былі тады разныя...". Тэлевізійны дакументальны фільм.

### Нядзеля, 15 верасня

**Праграма Беларускага тэлебачання**

8.30. Раніца рэспублікі.
8.40. Праграма перадач.
8.45. "Новыя сустрэчы. Святлана Стрэзева". Фільм-канцэрт.
9.10. "Горны край". Кінанарыс.
9.20. "Чырвоная палатка". Мастацкі фільм. 2-я серыя.
10.40. Белыя і чорныя. Тэлевізійны шашачны клуб.
11.10. "Да вас, сучаснікі мае...". Дакументальны фільм. Частка 2-я.
12.20. Вас выклікае Спартландыя.
13.30. "Звычайны дзівак Мячыкаў", "Сямейная кадрыля". Дакументальныя фільмы.
13.50. "Узломшчык". Мастацкі фільм.
15.15. Сёння — Дзень працаўнікоў лясной гаспадаркі.
16.05. Арбіта.
16.55. "Пасланец міру". Сустрэча школьнікаў Мінска і Сочы.
17.55. Успамін аб адным канцэрце... "Ласкавы май" — Мінск-90.
19.00. Панарама.
19.25. Тэлевізійны фестываль фальклорных праграм.
20.35. Свабоднае слова.
20.45. Калыханка.
21.00. "Урокі музыкі", "Нязгаснае ззянне фарбаў". Тэлевізійныя дакументальныя фільмы.
21.40. Рэклама.
21.45. "Дзяўчаты". Мастацкі фільм.

**Першая агульнасаюзная праграма**

8.00. Рытмічная гімнастыка.
8.30. ТСН.
8.45. Тыраж "Спортлато".
9.00. Наш сад.
9.15. Раным-рана.
10.00. На службе Айчыне.
11.00. Ранішняя зорка.
12.00. Клуб падарожнікаў.
13.00. Сельская гадзіна.
14.00. Марафон-15.
15.00. ТСН.
15.15. Хакей. Кубак Канады.
17.15. Міжнародная панарама.
18.00. "Шмат галасоў — адзін свет". Народныя казкі і прытчы розных краін.
18.10. Уолт Дысней прадстаўляе...
19.00. Прэм'ера дакументальнага фільма "Год Авечкі".
19.35. Мастацкі фільм "Другая спроба". (ЗША).
21.00. Інфармацыйная праграма.
21.40. "Брэйн рынг". Юнацкі турнір.
22.15. Тэлевізійны спартыўны вечар.
0.35. Валейбол. Чэмпіянат Еўропы. Мужчыны.
1.35. "Клоун". Тэлевізійны мастацкі фільм. 2-я серыя.
2.55. Для вас іграе камерны аркестр народных інструментаў пад кіраўніцтвам Ю.Гурава.

**Другая агульнасаюзная праграма**

8.00. На зарадку станавіся!
8.15. Народныя мелодыі.
8.30. Спартыўная гімнастыка.
9.30. Відэаканал "Садружнасць".
11.00. Праграма Філа Донах'ю. "Тыя, што перажылі клінічную смерць".
11.50. Святое і вечнае.
12.15. Праграма для дзяцей.
13.15. Камера даследуе мінулае. "Вялікі канцэрт народаў, ці Дыханне Чэйн-Стокса".
15.25. "Прызнанне". Мастак Іван Сандыроў.
15.50. "Чырвонае сонца". Мастацкі фільм. (ЗША).
17.40. Галоўны рэдактар часопіса "Посев" А.Югаў у праграме "На рагу "Праўды" і Ямскога поля".
18.00. Прэм'ера тэлевізійнага спектакля "Насарог".
20.00. Весткі.
20.15. Добрай ночы, малышы!
20.30. Круглы стол.
22.00. "К-2" прадстаўляе.
22.45. Незалежны каментарый.
23.00. Весткі.
23.20. Расмузімпарт.

## Дзяўчына тыдня



Фота В.МЯДЗВЕДЗЕВА (ТАСС).

## Кінаафіша

### "ДЗЕНЬ КАРЫ"

У канцы мінулага года ў Бакінскім Доме акцёра адбыўся грамадскі прагляд новай каляровай двухсерыйнай мастацкай кінастужкі "Дзень кары". Яе пастаноўку по аднайменнаму раману Юсіфа Самедоглу ажыццявіла на кінастудыі "Азербайджанфільм" рэжысёр Гюльбеніз Азімзадэ.

Прысутныя на прэм'еры гарачымі апладысментамі выказалі свае адносіны да гэтай вельмі няпростай працы здымачнай групы. Многім жа з іх твор быў ужо знаёмы — і па кнізе, і па тэатральных пастаноўках. І раман, кожным сваім радком сцвярджаючы права чалавека на памяць, на свабоду духу і думак,аб'явіўшы бой подласці, злу і цемрашальству, і спектаклі бакінскіх тэатраў — рускага драматычнага і маладзёжнага, якія здолелі перадаць гледачу аўтарскую задуму, дапамагчы асэнсаваць філасофскую сутнасць літаратурнага твора, ужо атрымалі іх адабрэнне.

А цяпер вось фільм...

— Галоўнае для мяне, а таксама для тых, хто на працягу двух год у літаральным сэнсе слова дзяліў са мной пакуты творчасці,— быць зразуметымі ,— сказала Гюльбеніз Азімзадэ.

І хваляванне рэжысёра-пастаноўшчыка можна зразумець: так, сапраўды, новы фільм не аднясеш да ліку лёгкіх для ўспрыняцця. Як і раман, што атрымаў заслужанае прызнанне, і не толькі ў азербайджанскага чытача, так і знятая па ім карціна, якая стала прыкметнай з'явай у кінематаграфіі рэспублікі, выклікаюць несумненную цікавасць, поўнасцю выключаюць раўнадушша.

Разрозненыя сцэны і замалёўкі ў фільме аб'ядноўвае ў адно цэлае відарыс згубленай далёка ў гарах "пячоры дзядоў",куды пасля смерці накіроўваюцца душы ўсіх і дзе адбываецца іх маральнае ачышчэнне. Высахлым рэчышчам ракі ідуць туды, дзе вышэйшым судом іх будзе судзіць уласнае сумленне. Туды ідуць усе — святыя і грэшныя, сумленныя і несумленныя, рабы і жрацы, гвалтаўнікі і ахвяры. У фінальных кадрах карціны да пячоры рухаецца ўвесь народ, які жыве ў краіне.

Адзінства калейдаскапічнай разнастайнасці эпізодаў надае і захапляючая работа Гамлета Ханізадэ. Выдатны акцёр, які трагічна загінуў у час студзеньскіх падзей у Баку 1990 года, выконвае ў фільме адразу тры ролі: вучонага-літаратуразнаўцу, рэпрэсіраванага ў 30-я гады і загінуўшага ў сталінскіх лагерах пісьменніка Садзі-эфендзі і сучаснага героя.

У галоўных ролях выступаюць Гамлет Ханізадэ і Элеанора Карызнайтэ.



НА ЗДЫМКУ: "Дзень кары".

### "ЧАС СЛУГ"

Гэту каляровую мастацкую кінастужку знялі чэха-славацкія кінематаграфісты. Аўтар сцэнарыя і рэжысёр — Ірэна Паўласкава.

Недарэмна гавораць, што на чужым няшчасці сваё шчасце не пабудуеш. "Сямейнае шчасце" Даны вельмі хутка становіцца катаргай . Слова "каханы" забыта ёй назаўсёды, усё часцей гучаць папрокі і абразы. "Мямля"! Мяне твая мяккацеласць проста выводзіць з сябе!"— крычыць яна ледзь не кожны дзень. І сама бярэцца ўладкоўваць кар'еру мужа. Хлусня,інтрыгі, ланцуг здрад і зняваг — і вось Мілан займае месца свайго былога начальніка. Здаецца, дасягнута новая ступень жыцця. Бесклапотнае баўленне вольнага часу, касметычка, басейн, доўгія размовы з сяброўкамі, іншыя ўбогія праблемы... Але аднаго разу Дана сустракае Ленку, у якой калісьці "забрала" Мілана. Пасля сустрэчы з ёй — прыгожай, упэўненай у сабе, шчаслівай у шлюбе — Дана кідаецца ў новую авантуру. Не зрабіўшы ніякіх вывадаў з свайго горкага мінулага, яна зноў ідзе пратаптаным шляхам.

Вобраз галоўнай гераіні стварыла маладая актрыса Івана Хілкава, ужо знаёмая нам па фільму "Папіліна". За роль Даны яна ўдастоена прэміі на Міжнародным кінафестывалі ў Жэневе ў 1990 годзе.

### "ПРЫГАЖУНЬКА З "АЛЬГАМБРЫ"

Дзеянне гэтай каляровай кубінскай мастацкай кінастужкі, пастаўленай рэжысёрам Пінедай Барнетам па раману Мігеля Барнета "Песні Рачэлі", адбываецца ў 30—40-я гады нашага стагоддзя. Фільм апавядае пра узыходжанне да славы маладой актрысы.

...У шыкоўным тэатры "Альгамбра" працаваў суфлёрам адданы сябра дзяўчыны Рачэлі. Мала што мог сціплы суфлёр, але неяк ён на свой страх і рызыку (аднак глыбока верачы ў талент пачынаючай артысткі) аб'явіў, што выступае спявачка Рачэль, чыё імя невядома кубінскай публіцы, але чые гастролі ў Еўропе прайшлі з вялізным поспехам. Вядома, гэта быў яўны падман, але прыгажосць, талент і сцэнічная прывабнасць маладой спявачкі заваявалі не толькі залу, але і самога ўладальніка "Альгамбры". І лёс"прыгажунькі" быў вырашаны. Пасля першай жа прэм'еры ў спектаклі "Сеньярыта з Мапена" Рачэль, як пісалі ў газетах, прачнулася знакамітай.

Жыццё прыгожай актрысы — гэта слава, паклоннікі, грошы. Усё гэта было цяпер у Рачэлі. Дні яе беглі бесклапотна, пакуль яна не стала іграць у вострых, антыўрадавых спектаклях. Удзел у іх зрабілі яе фігурай у палітычнай барацьбе бурных падзей на Кубе ў канцы 30-х гадоў і прадвырашыла, на жаль, крах артыстычнай кар'еры...

Галоўныя ролі ў фільме выконваюць Беатрыс Вальдэс, Амар Вальдэс, Сесар Эвора, Карлас Крус, Вераніка Лін.

